**Рэдактар** Ліда Наліўка

**Вокладка** Васіліса Паляніна-Календа

**Вёрстка** Настасся Уласава

**Карэктура** Надзея Пракапенка

"Кожны чалавек носіць сваё неба з сабой" (У. Караткевіч). Апавяданьні, зьмешчаныя ў кнізе Сяргея Календы "На крок назад, на дзень наперад", былі напісаныя ў розных гарадах, нават у розных краінах, але неба гэтых твораў — неба Беларусі, неба, якое адлюстроўваецца ў Сьвіслачы, неба з шэрымі менскімі вясёлкамі й... Шчырасьць, якая часам мяжуе зь непрыстойнасьцю, зрываецца на крык, але пры гэтым застаецца кранальнай, бо перадусім застаецца праўдай.

Ёсьць рэчы, пра якія не прынята казаць услых. Ёсьць рэчы, ад якіх немагчыма пазбавіцца, не сказаўшы пра іх. Ёсьць рэчы, якія... ёсьць, нягледзячы ні на што.

# Змест

# ГЕНЭРАЦЫЯ ФАНЦІКАЎ І ФІШАК

## Гурткі

*У сям'і дзеці й сабакі заўсёды ведаюць усё,*
*асабліва тое, пра што ня кажуць.*
*Франсуаза Дальто*

1.

Жуйкі "Turbo", "Tipi-tip", "Love is..." з фанцікамі, печыва "Wagon Wheels", цыгарэты "HB", таннае віно "Крыжачок", гульні ў фішкі й бутэлечку, налепкі з Чарапашкамі-ніндзя, круглыя кардонкі з голымі цёткамі, якія трэба было мачыць у вадзе (мы іх сьлінілі языком), тады станік на іх растравараўся — і ты меў некалькі сэкундаў, каб пабачыць сылiконавыя грудзі. Першыя прыстаўкі "Sega Mega Drive — 2", першыя гульні на іх, якія доўжыліся па некалькі сутак: "Super Mario", "Jurassic Park 1, 2, 3", "Mortal Kombat", "Golden Axe", "Sonic", і, вядома, рознага кшталту стратэгіі, да прыкладу "Doom" ці такія гульні, як "Зорныя войны". Якасьць гульняў была вельмі нізкая, нават сучасны калькулятар мае больш функцыяў і выглядае прывабней, але ў тыя часы гэта нікога не турбавала. Нават той факт, што тэлевізар "Віцязь" быў здольны паказваць прыстаўкавыя гульні толькі чорна-белымі, таксама ня меў значэньня. Пасьля "Тэтрысу" гэта было наступнае захапленьне ў дзяцінстве.

Жыцьцё, якое падавалася тады досыць бесклапотным, цяпер бачыцца цалкам іншым. Я памятаю, як бацькам было цяжка з грашыма, калі Перабудова скончылася, калі тата вымушаны быў працаваць па некалькі зьмен запар на аўтазаводзе, і ён пачаў піць, і ў свае дваццаць восем стаўся майстрам гэтае справы. Я ў сям'і быў раньнім дзіцём, і я трохі разумеў становішча бацькоў. Матуля таксама днямі працавала. І мяне дагэтуль зьдзіўляе, якім чынам яны знаходзілі вольны час і грошы, каб адвесьці мяне ў гурток альбо ў чарговую творчую школу. Мае бацькі рана пачалі сямейнае жыцьцё й не пасьпелі атрымаць пэўнай адукацыі, з усёй моцы імкнуліся даць мне ўсе магчымасьці для самарэалізацыі, таму, пачынаючы з чатырох гадоў і да дзевятнаццаці, я спрабаваў у жыцьці амаль усё.

Краіна вызвалілася ад савецкай улады й атрымала незалежнасьць, але цуд дзяцінства хаваецца ў тым, што яно не заўважае такіх дробязяў, як Перабудова, Рэвалюцыя альбо аўтарытарызм. Дзяцінства выдатна памятае першы замежны ровар-"горнік", першую рагатку, першы пацалунак з дзяўчынкай, першую цыгарэту, першае віно, першае каханьне, першае хобі, першыя фанцікі й жуйкі. Тое, што краіна магла разваліцца, а культура зьнікнуць, было неістотна. Нашае пакаленьне толькі пачынала жыць, і нам хацелася ўсяго таго, што мы бачылі ў новых каляровых тэлевізарах, усяго, што прапагандавала рэкляма й прадавалі шапікі — ад модных цыгарэт да "сьнікерса". Хацелася жыць, як Мішкі Гамі альбо Дональд Дак, у цудоўным сьвеце "Уолта Дыснэя", які ствараў новую прастору, робячы нас няўдалым пакаленьнем зь незразумелымі разьбітымі марамі, з надзеямі й п'янымі жаданьнямі ўсяго яскравага й замежнага, усяго таго, чаго бракавала ў шэрыя крызісныя часы. Мы імкнуліся кімсьці быць, мы імкнуліся да назапашваньня навыкаў і ведаў, якія ў будучыні разаб'юцца аб сьцены непаразуменьня й непатрэбнасьці. Хоць цяпер выходзь на вуліцу з апытаньнем, і кожны з нашага пакаленьня апынецца няўдалым эканамістам, бухгалтарам, юрыстам, тым самым адукаваным вар'ятам, які

ахвяраваў свае школьныя і ўнівэрсытэцкія гады на нікчэмную адукацыю, каб потым ня мець магчымасьці кудысьці ўладкавацца на працу, бо патрэбны вопыт, альбо ты проста той самы чарговы чалавек з пакаленьня "бэбі буму", з пакаленьня Перабудовы, і вас такіх зашмат на адно працоўнае месца. Так, зашмат вас, тых самых, з пакаленьня ружовых мараў, з пакаленьня першых каштоўных фанцікаў з-пад жуек і першых гульнёвых прыставак, у часіны, калі краіна амаль сканала, як той сабака...

2.

Калі я патрапіў у спартовую залю па барацьбе дзюдо, мне адразу гэтае месца дзіка не спадабалася, бо ад матаў, якія зьмякчалі падзеньні барцоў, моцна й канцэнтравана пахла потнымі нагамі, і ня проста потнымі нагамі, але МУЖЧЫНСКІМІ потнымі нагамі, бо, як я адразу пабачыў, дзяўчат там не было, акрамя адной прыблуднай, якая цалкам выдавала на задзірлівага хлапчука.

Дык вось, маё знаёмства са спортам пачалося менавіта з гэтых матаў, якія анучай мыла прыбіральшчыца, прыціснуўшы мяне да сьцяны сваёю тоўстаю дупаю. Мыла яна маты і прыгаворвала: "Вось паскуды, пяску нанесьлі! Дзе яны тут пясок знайшлі?!" Міма яе велізарнага цела паціху пачалі прашчэмлівацца дзюдаісты, кіруючыся ў распранальню.

Падышоў настаўнік, і мама, узяўшы мяне за руку, прамовіла:

— Добры дзень, Ігар Юліянавіч, я вам тэлефанавала наконт майго сына, ці ёсьць у вас магчымасьць і вольнае месца для яго? — і мама павярнула галаву ў мой бок, прамовіла. — Павітайся ж з настаўнікам!

— Добры дзень, Ігар Ю-ю-вю-ве-ва-валяр... — крыху зьбянтэжыўся я, — мяне клічуць Гераня.

— Добры-добры, але, прабачце, я яго не вазьму. Колькі ж яму год? — адвёў ад мяне вочы настаўнік.

— Цяпер чатыры, але хутка будзе з паловай.

— Я ж вам яшчэ па тэлефоне сказаў, што ён замалы, я бяру дзяцей з шасьці-васьмі год.

— Але, шаноўны майстар-настаўнік, у вас тут усходнія адзінаборствы, і вы мне кажаце пра ўзрост? Хіба філязофія барацьбы ня кажа пра тое, што дзюдо мусяць займацца з нараджэньня?

З мамай цяжка было спрачацца, асабліва калі яе зацікаўленасьць у нечым была надта высокай. У выніку мяне запісалі на трэніроўкі, а праз некалькі тыдняў бацькі недзе дасталі сапраўднае кімано з выяваю Бруса Лі на сьпіне, які нагою б’е ў падбародзьдзе жудаснага тыгра. Я быў у захапленьні й нават не пытаўся, адкуль кімано, адкуль гэтая раскоша, калі ў нас часта не было нават гарбаты і тата раніцою вымушаны быў піць разбаўленае кіпнем сочыва, а на працу браць кавалак хлеба, сала й цыбулю. Адкуль кімано? Адтуль, адкуль усё астатняе, што ў мяне выпадкова зьяўлялася. А мама і тата працягвалі піць кіпень з сочывам і насіць даўно вынашаныя паліто ды касьцюмы. Адну сваю спадніцу мама насіла амаль пятнаццаць гадоў, але я ніколі ня чуў ад яе папрокаў, яна заўсёды пасьміхалася з гэтага.

У першы дзень, калі я ступіў босымі нагамі на маты, я падхапіў даволі непрыемны грыбок, але потым ён альбо кудысьці зьнік, альбо я да яго абвык, ня ведаю.

Першыя заняткі былі пакутлівымі, бо, акрамя таго што мы доўга-доўга сядзелі на каленях, больш нічога не адбывалася. Настаўнік хадзіў вакол нас альбо сядзеў, як і мы, з заплюшчанымі вачыма і распавядаў пра тое, як варта, паводле філязофіі барацьбы, трымаць у сваім целе моц і энэргію за кошт мэдытацыі й маўчаньня, за кошт уменьня канцэнтраваць і назапашваць энэргію сусьвету ў добрых мэтах праз веру ў сябе, а не праз фізычную моц, і нават калі мы ўступаем у бойку, галоўнае, што ня мы б’емся, а спрабуем энэргію й злосьць суперніка скіраваць супраць

яго самога. Часта ў такія гадзіны, слухаючы манатонны голас, я засынаў, куляўся на маты й спаў, і настаўнік мяне не чапаў, а ціхенька накрываў яшчэ адным кімано, каб я не прастудзіўся й не захварэў.

Ігар Юліянавіч быў маленькі й хударлявы чалавек, без валасоў на галаве, бяз броваў і вейкаў, ён відавочна не галіўся, бо не было што галіць. Таксама я заўважыў, калі мы ўсёй групай траплялі ў душавую, што і на ягоным целе таксама нідзе не было расьліннасьці. Але настаўнік Ігар Валяр’янавіч (дарэчы, яго нават дарослыя спартсмэны толькі так і называлі, бо хуткім прамаўленьнем літары "юлі" зьмяняліся на "вал"...), трэнэр, меў апошні дан па дзюдо, і гэта было неверагодна.

Аднойчы мы, седзячы на каленях, слухалі з заплюшчанымі вачыма легенду пра тое, як надышла зіма і ўвесь лес накрыўся тоўстым пластам сьнегу, і хвоя зь елкаю спрабавалі вызваліцца з-пад гэтага цяжару, але елка казала, што яна спакайнютка вытрымае гэты сьнег і дачакаецца, калі ён сам зваліцца, а хвоя нахілялася з шапкаю сьнегу долу, нахілялася ўсё ніжэй і ніжэй, пакуль ня скінула сьнег і не вярнулася ў свой звыклы стан, а елка, так і не датрываўшы, зламалася амаль ля каранёў і высахла. Дык вось, у дзюдо вы мусіце быць падобнымі да хвоі, якая замест трываньня разважала шырэй і шукала больш зручнага выйсьця з сытуацыі. Я не дачакаўся, калі трэнэр скончыць, і ціхенька пачаў пасопваць.

І тут упершыню мяне ніхто не накрыў зьверху кімано. Я прабудзіўся ад таго, што Ігар Валяр’янавіч прымусіў усіх устаць з каленяў і пачаць актыўныя трэніроўкі, шматмесячная перадпадрыхтоўка была скончана, мы мусілі пачынаць станавіцца сапраўднымі дзюдаістамі.

Трэніроўкі былі вар’яцкія. Мы кладліся на сьпіны, і трэнэр бегаў па нашых жыватах, і праз колькі дзён я адчуў, як маё невялікае дзіцячае пузіка налілося сьвінцовым прэсам. На шпагат мы таксама станавіліся дзіўна: настаўнік падкрадаўся да цябе ззаду ў час тваіх намаганьняў сесьці, браў цябе за плечы і з усёй моцы націскаў уніз, пакуль ты цалкам ня сядзеш долу, што было страшэнна балюча. Але самым пакутлівым быў футбол на каленях, калі мы, патрэніраваўшыся, мелі колькі вольнага часу. Мы часта да крыві зьдзіралі скуру аб маты, але ніхто ня скардзіўся, бо футбол — гэта яшчэ й весела, і я заўсёды з захапленьнем бег да брамаў, калі атрымліваў мяч, але забіваў чамусьці заўсёды сваёй камандзе, і мяне за гэта часта білі, а настаўнік матляў галавою й сыходзіў. Ну адкуль я мог ведаць, дзе чые брамы, усе аднолькава белыя ў кімано, і таму футбольны час бавіў часьцей ля вакна альбо ў распранальні, зьбіраючыся дахаты. У мяне яўна нічога не атрымлівалася з барацьбою.

Аднойчы празь некалькі гадоў маіх маўклівых і сумных змаганьняў зь дзюдо, я стаяў у пары са старэйшым за мяне хлопцам (мы вывучалі ўнутраную падсечку) і замест таго, каб падсекчы ягоную нагу, я акурат пяткаю патрапіў яму ў прамежнасьць. Божачкі, як ён крычаў, як ён пакутаваў, бо падсечку я рабіў зь вялікім стараньнем і моцаю — я ўжо быў дзюдаістам са стажам. Хлопца забрала хуткая. Мама потым увесь вечар маўчала. Калі б я гэтага хлопца дзе-небудзь пабачыў, дык абавязкова прабачыўся б, спадзяюся, што ён жывы-здаровы і ў яго шмат прыгожых дзетак.

Пакрысе я пачаў адчуваць увесь сэнс гэтай барацьбы, я пачаў разумець філязофію дзюдо, нават перамог у некалькіх чэмпіянатах і атрымаў жоўты пояс, і калі надышоў час змаганьня за памяранцавы, а потым, калі атрымаецца, за зялёны, мяне проста ня выклікалі на татамі, бо мне было ўжо дзесяць год і я нечакана пачаў таўсьцець. Для таго, каб прымаць удзел у чэмпіянаце, спачатку трэба ўзважыцца ў адных майтках. Дык як я мог, амаль голы і такі тоўсты, пайсьці на вагі? Каб усе пабачылі мяне й пачулі маю сапраўдную вагу? Такім чынам я прапусьціў свой зорны час.

І толькі амаль праз год у мяне была другая спроба на зялёны пояс. І вось першы двубой. Я стаю на татамі й чакаю, калі выйдзе супернік, а яго няма, і я аўтаматычна перамагаю ў першым

раўндзе. І тут даведваюся, што мой супернік, калі разьмінаўся перад чэмпіянатам, зламаў пазногаць. Адразу ўзгадваю, што на разьмінку абраў сабе ў партнэры нейкага выпадковага хлопца, які, калі спрабаваў трэніравацць на мне кідок церазь бядро, зламаў аб маё кімано пазногаць.

Другі двубой я выйграў, зрабіўшы складаны прыём — "млын". Я атрымаў зялёны пояс, і там, на гарызонце, узьніклі сіні, карычневы, чорны. І хто яго ведае, мо’ там, за чорным поясам, мяне ўжо чакалі даны? Але празь некалькі тыдняў я атрымаў ускладненьне на галаву пасьля грыпу і патрапіў у дзіцячую псыханэўралёгію.

3.

Мой брат, мама, тата і я — уся наша сям’я шмат гадоў, амаль да майго дваццацітрохгодзьдзя, пражылі ў дзевяцімэтровым пакоі. Кватэра была трохпакаёвай, але жыло там людзей больш, чым шмат: бабуля часта ўсчынала сваркі, цётка працавала, яшчэ нехта прыходзіў і сыходзіў... Мы спрабавалі жыць...

Гэта былі часы, калі ўсё, што адбывалася ў сям’і, было навідавоку ня толькі для чальцоў сям’і, але й староньніх, суседзяў, мінакоў. Мы жылі адчайна, жахліва, але я ў школе казаў, што жыву недалёка, у трохпакаёўцы, нас там толькі чацьвёра, і мне верылі. Я шмат чаго выдумляў, бо мне хацелася жыць інакш, каб наша сям’я жыла ў сваёй кватэры і мы былі з грашыма і бестурботнымі. З часам пытаньне з кватэрай было вырашана, але гэтаму мала хто ўзрадаваўся, бо мама цяжка захварэла. Мы з братам сталі дарослымі, а тата страціў надзею дачакацца гэтай хрэнавай кватэры. І вось яна, новая кватэра, трымайце, нарэшце!

Залежнасьць ад неабходных для жыцьця рэчаў — паскудства, і трэба мець апошняе скурвелае грамадзтва, каб чалавек быў вымушаны жыць на дзевяці мэтрах учацьвярых, альбо каб чалавек мусіў даваць грошы за прыбіральню ў горадзе, альбо плаціць за адукацыю. Хіба падаткі не для гэтага прыдумалі? Але мы жылі й працягваем жыць. Калі было неймаверна цяжка, нашу сям’ю ратавала маці, менавіта яна была тым самым падмуркам цэласнасьці, калі я цяжка хварэў, калі граў на клярнэце так, што суседзі зьверху вешаліся, і калі тата піў і здраджваў, і калі брат кепска вучыўся і зьнікаў начамі зь невядомымі сябрамі... Усё трымалася на маме, і нават калі аднойчы яна сышла ад бацькі, усё адно штовечар прыходзіла да нас, а праз паўгода зноў вярнулася дамоў. Яна зразумела, што няма дараваньня бацьку за здрады і п’янства, але мы — сям’я... Тады ў бацькоў быў другі мядовы месяц, яны на адлегласьці наноў пакахалі адзін аднаго і зьехалі на месяц у Крым. Ці варта казаць, што гэта значыла для нас з братам, падлеткаў! Акрамя таго што бацькі памірыліся, нас пакінулі сам-насам, без нагляду, на месяц, толькі час ад часу наведвала жанчына з дачкою, каб пабачыць, як мы тут жывем... Сумленная баптыстка, якая ў чысьціні выхоўвала дачку й шмат малілася... Аднак пакуль яна ня бачыла, мы з братам паказвалі ейнай дачцэ, якая ўпершыню бачыла тэлевізар, порнафільмы на касэтах,.. але гэта ўжо іншая гісторыя.

Дык вось, нашыя трываньні на дзевяці мэтрах спрыялі нашым з братам імкненьням стаць кімсьці, каб выкараскацца з гэтага ганебнага жыцьця. Каб, напрыклад, мама магла мець сваю кватэру й грошы на падарожжы. Таму я ніколі не супраціўляўся новым прапановам у адукацыі, у наведваньні новага гуртка. Такім чынам, акрамя клятваў у любові, я мусіў для мамы яшчэ й дзейнічаць — вучыцца, разьвівацца (мой брат, дарэчы, таксама быў і ў кузьні і ў млыне: скрыпка, акардэон, нядзельная школа).

І вось чарговы гурток, я стаю ў вялікай залі, якая ўся запоўненая люстэркамі й страйнюткімі дзяўчынкамі і хлапчукамі, мне мала год, і я мушу пачынаць вучыцца танцам, ды не абы-якім танцам — бальным!

Полька, мазурка й ча-ча-ча яшчэ, дзякуй Богу, прайшлі някепска, але замінкі пачаліся, калі я

закахаўся ў дзяўчынку і ўвесь час сачыў за ёю, а яна штораз, каб танчыць у пары, абірала аднаго і таго ж хлопца. Ці варта казаць, што ў той час мы мусілі вывучаць розныя пазыцыі наскоў і пятак — 1-я, 2-я, 3-я, 4-я, 5-я, 6-я, 7-я, 8-я, 9-я, і хто яго ведае, якая там наступная... Мае ногі закручваліся ў вузел ужо на пятай. Але кропкаю ў вывучэньні бальных танцаў стала нават не каханьне ці немагчымая "пазыцыя", кропкаю стаўся вальс.

Божухна, як я роў, як я скуголіў і зваў маму! Мяне прымусілі абдымаць за талію дзяўчынку. Я, вядома, быў яшчэ маленькі, каб нешта цяміць пра сэкс і адносіны, але я інтуіцыйна адчуваў, што проста так мацаць дзяўчынку — кепска.

Мяне забралі з танцаў.

Упершыню я абняў дзяўчынку праз год, яе звалі Вольга Белая, але яна гэтага нават не пасьпела заўважыць... Была трэцяя кляса, я кахаў яе, але яна была надта прыгожаю, таму я саромеўся да яе набліжацца, а на занятках фізычнай культуры неяк бег за мячом і "выпадкова" сутыкнуўся зь ёю і абняў...

І, шчыра кажучы, дадзены "прыём" я выкарыстоўваю час ад часу нават будучы дарослым, але мне цяпер ня трэба бегчы за мячом, каб абняць дзяўчыну, усё стала складаней — спачатку будуецца пэўны плян дзеяньняў. І тут толькі адзіная паралель знойдзецца для чытача: усё, што геніяльнае — простае. Паспрабуйце ўспомніць свае "выпадковыя" абдымкі, сутыкненьні, спатканьні, пацалункі... Проста так нічога не адбываецца, і нават, шчыра кажучы, мая жонка В. аказалася са мною ня дзякуючы лёсу, а толькі таму, што я моцна хацеў, каб яна была побач, і я дзейнічаў, браў ініцыятыву на сябе і, быццам выпадкова, сутыкаўся зь ёю, быццам выпадкова знаходзіў для нас агульныя справы... Пакуль мы ня зьехалі на вандроўку ў Нясьвіж...

Дарэчы, бальнымі танцамі я больш ніколі не займаўся, да гэтага часу ня танчыў анічога такога.

4.

Зразумела, што я, як і ўсе дзеці, любіў маляванкі ды іншыя дзіцячыя забавы, але ніколі ня думаў, каб да маляванак ставіцца неяк больш сур’ёзна. Ды лягчэй пайсьці ў гурток, чым пераканаць бацькоў.

У мяне ніколі не атрымлівалася нешта ляпіць з гліны альбо цеста з сольлю, мае фігуры альбо былі незразумелымі, альбо ў печы набывалі пляскі выгляд, быццам не скульптуры, а нейкія магніты на лядоўню.

З колерам таксама ўсё было складана, акрамя таго што я кепска адрозьніваў птушак, напрыклад сароку ад грака, я няўдала працаваў з адценьнямі. У выніку ня толькі істоты, падобныя да птушак, але й кветкі, і шмат што яшчэ пакутавалі ў маіх малюнках.

Пластылін мне таксама здраджваў, але ён хаця б лёгка прыліпаў да сьцен і валасоў, ды ўвогуле быў унівэрсальным у сэнсе розных дурасьцяў.

Аднойчы на адным з заняткаў, які прысьвячаўся вывучэньню паняцьця графікі й тушы, я стаўся зоркай! Настаўніца не магла нацешыцца тым, як файна я малюю ў графіцы, і гэта не залежала ад таго, чым я карыстаўся — алоўкам ці пяром.

Я выпадкова знайшоў сябе, і настаўніца пачала надта часта весьці прыватныя размовы з мамаю, якая па мяне прыходзіла. Усё шэпча нешта й шэпча, а мама глядзіць у мой бок і ўсьміхаецца.

Такім чынам, я пачаў часьцей бачыцца з настаўніцай па мастацтве, і раней за алфавіт вывучыў паняткі пабудовы карціны, гарызонту, спалучэньня колераў, і, вядома, усе віды пёраў былі ў маім уладаньні.

І сталася так, што мяне не ўзялі ў шэсьць гадоў у школу, дырэктар параіў пачакаць наступнага

года. У той дзень, калі мяне прывялі на "прагляд", каб я паказаўся і па загадзе палічыў ды агучыў хаця б палову алфавіту, пацягнула мяне да плястыліну, наляпіў я яго не шкадуючы на галаву, а адляпіць ад валасоў ня здолеў, падставіць пад гарачую ваду галаву — не дацяміў... Я знайшоў нажніцы й пакрамсаў сваю сьвежую фрызуру.

І калі паўстаў ва ўсёй прыгажосьці перад дырэктарам школы, падобны да закатаванага дзіцёнка — валасы плешшу, і ў розныя бакі высоўваюцца даўгія пасмы, дык мяне й прасіць ня сталі нешта там палічыць альбо адгадаць загадку, было вырашана чакаць наступнага года й майго сёмага лета.

З гэтым не зьмірыліся бацькі, бо, як зразумела, я ж такі разумнічак, самы лепшы ў сьвеце, і мяне было наканавана аддаць на іспыты ў мастацкую школу, там, як сказала маці, мяне ўсе зразумеюць.

І сапраўды, людзі там не зьвярталі на мяне ўвагі, я са сваімі валасамі быў проста ніхто, бо дзеці, якія прыйшлі здаваць свой першы ў жыцьці іспыт, былі ня толькі са сваімі самастойнымі фрызурамі, але і адзеньне на іх было нейкім мастацкім. Карацей, мяне чакала сапраўднае выпрабаваньне.

У той час наша сям’я шчыльна сябравала зь сям’ёй мастакоў, нельга сказаць, што тое былі кепскія альбо выдатныя мастакі, проста — мастакі, і зь іхным сынам я хадзіў у мастацкі гурток, і мы былі аднаго ўзросту. Менавіта гэтая сям’я мастакоў параіла аддаць мяне ў неардынарную школу.

Надышоў час, нам раздалі паперу фармату А4 і папрасілі ўсіх намаляваць што-небудзь з "Казкі пра курачку Рабу".

Я сядзеў разам з Валодзем, так звалі таго хлопца, я паглядзеў на яго, а ён хуценька ўжо нешта вымалёўваў. У мяне быў толькі аловак і акварэль, і я памятаў, што мне раіла настаўніца спачатку намаляваць усё алоўкам, бо гэта я здолею, а потым, як маляванку, размаляваць.

Я пабудаваў геамэтрычныя прамыя, так бы мовіць, зрабіў плян, каб маляваць трохмерна, што ўжо адразу давала мне форы, бо такое ва ўзросьце шасьці гадоў мала хто выкарыстоўваў. Дзед, баба, курачка, хатка, яйка на падлозе пабітае — сюжэт быў нескладаны, я вытрымаў усе правілы пабудовы фігур. Я быў задаволены і яшчэ больш узрадаваўся, калі пабачыў, што мой супернік, Валодзька, сынок мастакоў, такую халеру намаляваў, што нават з павелічальным шклом не разгледзіш, хто і што там у велічэзным будынку, які нагадвае хатку, а яйка наадварот было завялікім, большым за чалавечыя фігуры...

На наступны дзень нам патэлефанавалі й паведамілі, што сын, гэта значыцца я, не прыняты.

А Валодзька пасьпяхова прайшоў іспыт, і мама мне аднойчы сказала, калі я сумна сядзеў у пакоі й разважаў над тым, што ўжо ў шэсьць гадоў "праляцеў", як дэбіл, празь дзьве школы... гэта ў такім малым узросьце й адразу празь дзьве школы!.. Яна сказала, што тая сям’я сябруе з дырэктарам мастацкай школы, а ў мяне быў сапраўды найлепшы малюнак.

Мастацкі гурток я больш не наведваў, але празь пяць год выпадкова апынуўся ў сьценах таго будынка, дзе ён знаходзіўся. Я тады па дарозе забег у прыбіральню, бо сьпяшаўся ў музычную школу, да якой было далёка. І як толькі я апынуўся ў знаёмым калідоры, раптам заўважыў, што на сьценах пад шклом вісяць тры мае графічныя малюнкі.

Я зазірнуў у прыбіральню й зьнік, больш ніколі не зьяўляўся ў тым будынку, але ў сэрцы заўсёды трымцела жаданьне зноў паглядзець на свае дзіцячыя малюнкі, гэта ўсё-ткі была мая першая і адзіная выстава, прычым доўгатэрміновая.

5.

Клярнэт — гэта катастрофа, гэта штодзённае забойства часу. Гэтая эбанітавая трубка, зусім

непрыгожая й непрыкметная, выклікае тужлівы настрой, як толькі яе ўбачыш! І яшчэ выгляд майго клярнэта сапсаваны шасьцю вялікімі лічбамі на баку, намаляванымі фарбай для падлогі. Такімі лічбамі пазначаюць школьную ўласнасьць, гэта значыць, што клярнэт належыць ня мне.

Праз два тыдні — вакацыі ў абедзьвюх школах, і ў музычнай, і ў агульнаадукацыйнай. Трэба здаць іспыты па сальфэджыа і па клярнэце — і я вольны. А да верасьня яшчэ тры месяцы...

У верасьні — чацьвёртая кляса ў школе й другая ў "музыкалцы". Не люблю я настаўніка па музыцы, ён надта малады, і ў яго вялізная ніжняя губа брыдкага ружовага колеру, гэта ад таго, што ён штодзень трымае ў роце муштук клярнэта, і гэтая губа такая непрывабная, што я нават бачу яе ў жахлівых снах. Настаўнік па клярнэце зусім пануры...

І такое даводзіцца трываць тройчы на тыдзень!

Мне завуч сказала, што ў верасьні будзе новы настаўнік. А мне ўсё роўна. Новы, стары — аднолькава ня хочацца вучыцца граць на клярнэце.

Але не пасьпеў я нацешыцца адпачынкам улетку, як прыйшоў верасень, і я зноў стаяў з клярнэтам у руках і знаёміўся з новым настаўнікам, Акапджанянам Лявонам Рубэнавічам. Ён зь першых хвілін моцна ўразіў мяне: вялікі, сівы, пузаты, з чорнымі вачамі й шэрымі вачніцамі, ягоная ніжняя губа была цёмна-сіняга колеру, а верхнія разцы былі зусім сьцёртыя муштуком. Ён быў вельмі імпульсіўным мужчынам з бліскучай плешынай і нястрыжанымі на скронях і патыліцы валасамі. Лявон Рубэнавіч прадстаўляў сапраўдны армянскі тып мужчыны сталага веку. Я амаль адразу адчуў ягоны прафэсіяналізм, ягоную моц й энэргію.

І калі мінуў толькі першы месяц вучобы, я значна прасунуўся ў музычнай тэхніцы і быў вельмі шчасьлівы з гэтае нагоды. Я ўпершыню разумеў клярнэт, музыку, я пачынаў гэта любіць, нягледзячы на тое, што музычная школа палохала сваімі старымі й шэрымі клясамі, у якіх па ўсіх кутках чуліся дзіўныя шоргаты й іншыя гукі, ад чаго бегалі мурашкі па сьпіне. Час ад часу я нават бачыў пацукоў ці мышэй, ня ведаю: кожны раз было цяжка вызначыць праз эканомна-змрочныя саракаваткі, самотна разьмешчаныя на кожных дзесяці мэтрах доўгіх калідораў. Я бачыў іх толькі мімаходзь...

Год вучобы праляцеў непрыкметна, у актыўных трэніроўках па некалькі гадзінаў на дзень. Гэты пажылы армянін абудзіў ува мне жаданьне пісаць музыку. Я з задавальненьнем слухаў яго пахвальбу на мой адрас, у яго былі пляны наконт мяне. Ён разгледзеў ува мне талент. Дома я ствараў маленькія п’ескі й потым запісваў іх на касэту.

Аднойчы ўвесну, калі я ўжо трэці год займаўся музыкай, здарылася адна падзея...

У вокны клясы ярка сьвяціла сонца, ад ягонага цяпла я зусім разамлеў і не хацеў граць, а Лявон Рубэнавіч, пасмоктваючы валідол пасьля пяціхвіліннага крыку й шпурляньня алоўкаў і асадак у розныя бакі, супакоіўся ад стрэсу й задрамаў. Я думаў, што мне далей рабіць: чакаць, калі ён прачнецца, ці сыходзіць дадому. І раптам Акапджанян расплюшчыў вочы й сказаў:

— Хлопчык мой, Гераньчык, я цябе на каленях прашу, ня горбся й не разьдзімай шчокі, і не запінайся, грай, добра грай! — яго голас гучаў спакойна. — Ідзі, калі ласка, да шафы, стань да яе сьпінаю, зрабі сьпінку роўнай-роўнай і грай! — голас трохі раздражняўся, яго відавочна дастала, што я ня мог сабрацца й добра адыграць п’есу Шумана "Мроі".

І я пачаў граць усё, што ведаў, нават усе існыя гамы, сьпіна была ідэальная, шчокі не разьдзімаліся, але здрадліва пачалі падступаць сьлёзы. І мне стала так крыўдна! Так крыўдна, невыносна крыўдна! І сьлёзы, нарэшце, пацяклі самі сабою, яны струменіліся па шчаках і капалі на вопратку, а я ўсё граў і граў, зь неверагоднай злосьцю й так віртуозна, як ніколі ў жыцьці...

— О-о-о! Так! Гэта зусім іншая справа, гэта вельмі добра, хлопчык мой, гэта шык, кляс! Паміж небам і зямлёю! — настаўнік ад задавальненьня мружыў вочы й падскокваў у такт на крэсьле ад захапленьня.

І тут нечакана пачуўся стук у дзьверы. Настаўнік спытаў хто і запрасіў заходзіць. На парозе

стаяла сьціплая жанчына зь дзіцем. Яна прыйшла пабыць на ўроку й паказаць сыну, каб зацікавіць яго музыкай.

— Мадам, паглядзіце на гэтага вучня, — зьвярнуўся да яе Лявон Рубэнавіч й паказаў пальцам у мой бок — дыямант! Плача, але грае! Талент!

У хлопчыка і ў ягонай маці вочы сталі квадратныя ад аднаго майго выгляду ў сьлязах. Яны самі прынялі неверагодна жаласны выгляд і быццам уціснуліся ў дзьверы, намагаючыся выйсьці.

Пазьней, у наступным навучальным годзе, я гэтага хлопчыка бачыў каля кабінэту цымбал. Мяне расьсьмяшыла, што ён абраў цымбалы. І я падумаў, які ж ён дурны — губляць настаўніка, які быў сябрам Шастаковіча й Хачатурана.

— Мне Шастаковіч прысьвяціў музычнае сачыненьне з партыяй клярнэта, я першы гэта сыграў! Там так й напісана: "Лявону, які першым сыграў! " У мяне гэты рукапіс дома ляжыць! — і вочы яго вільгатнелі. — А цяпер, цяпер я ў задрыпанай музычнай школе нумар 1897665789, і гэта справядліва?! — "задрыпаны" было ягонае ўлюбёнае слова, настаўнік з кожным днём станавіўся ўсё больш мітычным й загадкавым.

— Не, несправядліва, — адказваў я.

— Але галоўнае, што ёсьць ты, будучы вялікі музыка! Ты будзеш вучыцца ў кансэрваторыі!

Часта ён зьнянацку пачынаў распавядаць, як абедаў з Хачатуранам, і, гледзячы яму ў вочы, я бачыў свайго настаўніка маладым, гарачым душою чалавекам, які быў шалёна ўлюбёны ў музыку...

Лявон Рубэнавіч трапіў у Беларусь у савецкія часы, тады ён быў на вышыні папулярнасьці, граў на самых вядомых сцэнах сьвету ў ГДР, Парыжы, Армэніі, СССР, яго запрасілі ў аркестар БССР, ён пагадзіўся, потым краіна распалася, і на яго ўсе забыліся, кожны стаў яму ворагам, беларускія "музыкі" й дырыжоры ня бралі яго нікуды, не выпісвалі "заслужанага дзеяча", каб ён атрымліваў нармалёвую пэнсію, бо аднойчы ён меў нахабства параіць савецкаму беларускаму дырыжору, як трэба дырыжыраваць, а потым яшчэ дадаў, што любы аркестар абыдзецца без дырыжора, але без таленавітага музыкі — ні ў якім выпадку... Савецкі дырыжор потым заняў высокую пасаду пры ўладзе й закруціў усе шрубы вакол Акапджаняна, і той захрас напаўбедны на беларускай зямлі... Лепей, як ён часта казаў, каб ён у савецкія часы зьбег у аркестар ФРГ, які яго не аднойчы запрашаў да сябе...

Я адвучыўся неабходныя пяць гадоў на клярнэце і мусіў чакаць два гады да кансэрваторыі. Лявон Рубэнавіч дамовіўся, каб мая вучоба доўжылася сем год замест пяці, бо хацеў падрыхтаваць мяне да паступленьня. Я прымаў удзел у конкурсе "Юныя дараваньні", мне далі нават дыплём, што я менавіта такі — "Юнае дараваньне". Але я, адвучыўшыся шосты год, прыйшоў да яго ў верасьні, калі быў ужо ў дзявятай клясе агульнаадукацыйнай школы, і заявіў, што не хачу далей вучыцца, сыходжу.

Трэба сказаць, што я тады ўжо цікавіўся мэдыцынай, нягледзячы на тое, што выдатна граў і хутка засвоіў храматычную гаму — прэлюдыю да засваеньня сачыненьня "Палёт чмяля" Рымскага-Корсакава. Маё рашэньне было не ад расчараваньня ў музыцы, проста я не хацеў быць бедным музыкам, пры тым што я вельмі паважаў Настаўніка.

Лявон Рубэнавіч пашарэў й на маіх вачах паменшыўся ў памерах, стаў невыносна жаласьлівы. І толькі праз год я зразумеў, што быў яго адзінай надзеяй у жыцьці. Бо ягоныя ўнук і сын жылі ў Гішпаніі, пакінуўшы яго тут, з голай сракай і старэючай жонкай. Яму было восемдзесят, дзевяноста, сто год — ня ведаю.

— Я для цябе, хлопчык мой, месца ў кансэрваторыі знайшоў, без іспытаў цябе бяруць, бо ты мой юны талент... — ня скончыўшы фразу, Настаўнік павярнуўся да акна, усім сваім выглядам даўшы зразумець, што ён не жадае далей размаўляць. Так я й сышоў ад яго, не пачуўшы канца фразы, не распавёўшы яму пра свае мэты й не прабачыўшыся.

Калі мне было ўжо дзевятнаццаць і я вучыўся ва ўнівэрсытэце, я сустрэўся зь ім на вуліцы. Я быў зьдзіўлены, як хутка, усяго за тры гады, ён пастарэў: і сьледу не засталося ад ранейшага імпульсіўнага армяніна. Мне стала вядома, што ў яго памерла жонка, а дзеці год як не тэлефанавалі й не наведвалі. Я паабяцаў, што ў суботу ўвечары зайду ў музычную школу, пагутарыць і выпіць гарбаты, няхай чакае.

Але я не зайшоў, я забыўся. Мне сорамна, але я забыўся пра яго, будучы тым вечарам у гасьцях у сяброваk, дзе было шмат каньяку й сэксу. Я зусім ня думаў пра яго.

Потым, праз некалькі месяцаў, я ўбачыў яго яшчэ раз. Убачыў са сьпіны, ён ішоў па вуліцы, зьлёгку кульгаючы, але, як заўжды, выразна й прама, як быццам у той момант ён музыцыраваў. У мяне не хапіла духу падысьці да яго, я ня ведаў, што яму сказаць. Так я яго і захаваў у сваім сэрцы — экспрэсіўнага армяніна, генія й сябра, яму тады было... шмат яму было, восемдзесят, дзевяноста, сто, а можа і некалькі соцень год.

6.

Колькі памятаю дзяцінства, заўсёды бачу сябе на баскетбольных пляцоўках. Яны не былі заасфальтаванымі, таму ўжо праз некалькі хвілін цяжка было адрозьніць, хто за каго гуляе, бо пясок і пыл раўнамерна пакрывалі як адзеньне, так і скуру, але я ніколі не спыняўся гуляць, нават калі пясок захрасаў у горле й носе.

Мяне моцна прыцягваў гэты спорт, асабліва калі я непадалёк ад дома знайшоў пляцоўку, дзе баскетбольны кошык вісеў надта нізка і я мог забіваць мячы зьверху, павіснуўшы ў паветры.

Мы зь сябрамі часта сутыкаліся з панкамі, тады я ня быў яшчэ ані мэталістам, ані панкам, таму нас яны віталі нявесела і часьцей за ўсё псавалі нам гульню тым, што ўсчыналі бойку, і ўсё сканчалася аднолькава: мае сябры давалі дзёру з пляцоўкі, а я заставаўся сам-насам зь імі, бо ня мог я зьбегчы на вачах сваёй дзяўчыны альбо, што яшчэ горш, кінуць яе адну. Таму атрымліваў некалькі разоў у вока... Праз колькі часу нас перасталі чапаць, але для сваёй сяброўкі я ўжо пасьпеў стаць тым самым безнадзейна слабым хлопцам, якога могуць адлупцаваць нават нейкія там панкі з вайсковымі папругамі ў руках, з бліскучымі зоркамі на мэталічнай спражцы, якая глядзела вонкі й часта цэліла ў твар... Я зь ёй не спрачаўся, а толькі крыўдаваў на зьбеглых сяброў.

Аднойчы я нарэшце вырашыў далучыцца да якой-небудзь падлеткавай баскетбольнай раённай каманды й разам зь імі трэніравацца, бо гэта бясьпечна й надае больш практыкі ў зімовы час. Такім чынам, я на тры гады патрапіў у спартовы баскетбольны клюб, дзе трэнэр знаходзіла мяне надта пасьпяховым у далёкіх кідках. Я бываў на ўсіх спаборніцтвах, мяне выпускалі на пляцоўку толькі ў другім тайме, бліжэй да канца. Я не прымаў удзелу ў разыгрываньні мяча пад кашом, бо з ростам мэтар шэсьцьдзесят сем гэта нейкае глупства, я проста чакаў пасаў каля трохлічбавай рыскі і, калі атрымліваў мяч, хуценька забіваў. Мы някепска рухаліся, перамагаючы розныя каманды, і нават мусілі змагацца на гарадзкіх спаборніцтвах у наступным годзе, але чамусьці школьныя заняткі перанесьлі зь першай на другую зьмену, і зразумела, што, калі ідзеш на заняткі а палове трэцяй дня, ніякага часу на штосьці іншае не застанецца, і калі б я прапускаў па тры дні на тыдні й бавіў час на баскетбольных трэніроўках, я б страціў нават пачатковую адукацыю, але я не Ламаносаў і ня Бродскі, каб такое вырабляць, таму было вырашана заканчваць адзінаццатую клясу...

Такім чынам, прамяняўшы трэніроўкі на школу, я пачаў шукаць выйсьце і знайшоў яго. Адзін сябра-баскетбаліст прапанаваў перайсьці ў іншы клюб, што падыходзіў па часе. І мы разам туды пайшлі.

На парозе нас сустрэў трэнэр, і першымі ягонымі словамі былі:

— А ты что, тоже баскетболист, что ли, или так, мячики подаёшь? Да ты же с метр ростом!

Шчыра кажучы, я падазраваў, што ростам я не для гэтага віду спорту, але каб мне вось так, у твар такое сказалі? Ды ніколі! Ні мая былая трэнэрка, ні мая былая каманда ніколі так бы не зрабілі.

Нас адправілі разьмяцца й падрыхтавацца да паказальнай гульні. І пакуль мы бегалі кругі на стадыёне, адзіная думка пульсавала ў маёй галаве: "Я малы! Я малога росту. Я маленькі"...

Глядзелі на нас дваццаць хвілін, гулялі мы някепска, але мяне адправілі ні з чым дадому, а сябра ўзялі, бо ён хоць і ня вельмі добра гуляў, але быў ростам два мэтры і штораз перамагаў у барацьбе пад баскетбольным кашом. І потым ён гуляў за гарадзкі юнацкі клюб, а я ў свае пятнаццаць і шаснаццаць піў, курыў і мацюкаўся. Надыходзілі гады альтэрнатыўнай хвалі, дзе контркультура станавілася ня проста словам, а правілам жыцьця.

20.09 — 10.10.2010

Менск — Ваймар — Дрэздэн

# Клясы

*Вярнуўшыся ў клясны пакой, Карл Іванавіч загадаў мне ўстаць*
*і падрыхтаваць сшытак для дыктанту.*
*Калі ўсё было гатова, ён паважна апусьціўся ў свой фатэль*
*і голасам, які, здавалася, выходзіў зь нейкай глыбіні,*
*пачаў дыктаваць наступнае:*
*"Von al-len Lei-den-schaf-ten die grau-sam-ste ist... ha ben sie geschrieben?"* [1]
*"Дзяцінства", Леў Талстой*

Я быў сэнтымэнтальным дзіцёнкам, плакаў на сярэдзіне "Дзюймовачкі", мама гэтую кнігу так да канца мне не дачытала, бо як толькі яна даходзіла да месца з жабамі й прывабнай маленькай дзяўчынкай — гамон, сьлёзы так і ліліся. Але цяпер пакутаў і трагедый у мяне пабольшала: я пачаў плакаць па нулявой клясе, якая ўжо ў мінулым, а таксама аплакваць сваё сталеньне; першая кляса — гэта ня жарты.

Звычайна ўсе дзеці йшлі ў школу, калі ім спаўнялася шэсьць год. Мяне таксама ўзялі вучыцца ў гэтым узросьце, але ў мяне была адна, так бы мовіць, хіба... Я прыйшоў да дырэктара з падстрыжаным да каранёў чубам й нагадваў закатаванага дзіцёнка. Дырэктар паглядзеў на мяне, сумна так, скрушна... Мама не разгубілася: "Ой, прабачце, гэта мой Геранька ўчора на галаву сабе плястылін наляпіў і, пакуль я ня бачыла, паадразаў яго нажніцамі разам з валасамі. Я яму, боўдзілу, кажу, трэ' было ў ванну пад гарачую ваду, усё б і размокла!"... Мне прапанавалі палічыць да ста. Я далічыў да сарака. Дырэктар уздыхнуў, і мне было наканавана пайсьці ў першую клясу ў наступным годзе. Так я трапіў у нулявую клясу... Гэта свайго кшталту дзіцячы садок, са сваёю "прадлёнкаю", запяканкай і "ціхім часам". Адзнакі нам давалі вялікія, кардонныя й каляровыя: палічыў да пяцідзесяці — атрымай кардонную "5", чырвоную, пругкую, жаданую...

Мераю розуму на той час былі загадкі, іх загадваньне і разгадваньне культывавалася яшчэ да школы. З загадкамі ў мяне звычайна было ня надта, мне часта падказвалі... Чарговы раз я ня мог адгадаць "васілёк", пачуў збоку шэпт, выгукнуў правільны адказ. Настаўніца-выхавацелька ашалела ажно! Гераня даў правільны адказ!.. Дастала вялікую чырвоную кардонку ў форме "пяцёркі"... першую ў маім жыцьці!.. нясе мне... я цягну да яе рукі... а тут раптам настаўніца пытаецца: "Геранька, а ты сам адказаў альбо хтосьці падказаў?"... у мяне сэрца спынілася, вочы бегаюць, думаю, што адказаць... кажу: "Падказалі!" Настаўніца вярнулася да стала й схавала кардонку ў тэчку... І толькі ў наступным годзе ў сапраўднай першай клясе я атрымаў сваю пяцёрку, але што гэта было — намаляваная ў дзёньніку лічба, якая ніколі не параўнаецца з той, амаль мітычнай, жаданай, кардоннай, чырвонай.

1-га верасьня. Стаю я ў сінім гарнітуры, трымаю ў руцэ чырвоныя гвазьдзікі (ненавіджу гвазьдзікі — кветка савецкага застою), школа беларускамоўная, старшаклясьнікі падыходзяць да нас, падшыванцаў, дорацъ кнігі, ціснуць рукі, віншуюць з пачаткам, а мы ў адказ дорым ім гвазьдзікі... І мне, вядома, пашчасьціла, мне падарылі кнігу Мікалая Чаргінца "Приказ №1"... Я гляджу — на вокладцы ваенныя, партызаны, дадому яе прынёс, на форзацы яшчэ было напісана нейкім адзінаццаціклясьнікам пошлае рымаванае чатырохрадкоўе пра тое, што вучоба робіць з нас людзей, дата й подпіс... Калі я быў ужо ў дзявятай клясе, гэтая кніга пайшла ў сьметнік, дакладней — у агонь разам з астатняй макулятурай... Мой бацька тады знайшоў усе лісты да маці, што напісаў за тры гады вайсковай службы ў Разані, дадаў да іх колькі кепскіх кніг і вырашыў "пачысьціць" кладоўку... Полымя забаўляла ўвесь двор ажно да позьняй ночы... Спалілі

кілаграмы непатрэбшчыны ў закінутай пясочніцы.

Зь першага верасьня пачаліся мае пакутлівыя вечары, калі я сядзеў за пісьмовым сталом і спрабаваў пісаць прапісі: вузельчыкі, кручочкі, шляпкі грыбкоў... Перада мною стаяў стары касэтны магнітафон з адламанай кнопкай перамоткі наперад, на талерцы — у найлепшым выпадку халва, альбо печыва, альбо кавалачак белага хлеба з варэньнем, малако, зэдлік пада мною, скрыпучы, з адной разбаўтанай ножкаю. Звычайна я нагою боўтаў і час ад часу трапляў па адным з тамоў Карла Маркса "Капітал", якія выконвалі ролю апоры для аднаго боку стала, бо той быў стары й кожную хвіліну пагражаў разваліцца. Пісаць вельмі не хацелася, і я часта аддаляўся ў свае мары й думкі, утаропіўшыся ў жоўтае сьвятло лямпачкі таршэра, аздобленага парваным абажурам. Мама сядзела на сваім ложку сьпінаю да сьцяны, на якой вісеў чырвоны дыван; яна альбо вязала, альбо чытала, тата спаў альбо чытаў газэту, лежачы побач з мамаю. Зь левага боку ад мяне стаяў наш з братам двухпавярховы ложак, унізе спаў брат, а я сядзеў гадзінамі і ўсё ніяк ня мог скончыць са сваімі прапісямі.

Першая суседка па парце, якая кожны дзень паказвала мне, як рыбка заплывае ў пячорку (указальным пальцам тыкала ў кулак, пахабна так, з намёкам)... Я чырванеў, але ня надта каб саромеўся... Звалі яе Наста, а прозьвішча ў яе было дзіўнае — Маргалік, калі чытаць яго з канца, атрымлівалася "кілаграм". Яна й выглядала на кіляграм, худзенькая, сьветлавалосая... Мне зь ёю падабалася сядзець, нават была нейкая дзіцячая сымпатыя да яе, нягледзячы на тое, што я ўжо быў закаханы ў Вольгу Белую, страйнюткую высокую дзяўчынку з блакітнымі вачыма...

Першы квадратны заплечнік са штучнай скуры, які моцна ціснуў на плечы скрозь чорнае футра, дакладней, чорны кажух, якога я жах як саромеўся... Кажух калоўся й не даваў волі рухам, быў стары й падраны, месцамі перашыты й паедзены мольлю.

Першы сіні гарнітур і калготы, якія бацькі прымушалі апранаць узімку... Пакуты працягваліся на фізкультуры ў распранальні: здымаеш сінія штаны, а там — калготы... Рогат мусіў стаяць па ўсім пакоі, але... усе здымалі штаны й стаялі ў калготах — з каго тут сьмяяцца.

Я ненавідзеў фізкультуру за тое, што мы гулялі ў "Фігура замры", гаўняную гульню, якая пачыналася са словаў: "Море волнуется раз, море волнуется два, море волнуется три, морская фигура замри". Я, ляць яго, ніколі не пасьпяваў "застыць", як належыць, і кожны раз прайграваў у самым пачатку... Лепей бы ўжо давалі гуляць у футбол альбо баскетбол... Трэ' адзначыць, што ў "Фігура замры" кожны раз перамагала Вольга, і гэта мяне яшчэ больш злавала.

Таксама я, як і большасьць дзяцей, марыў быць акторам, здымацца ў кіно, граць у тэатры... Таму, калі на калядным ранішніку адзін з удзельнікаў прадстаўленьня для бацькоў захварэў, я, нават не разважаючы, пагадзіўся заняць яго месца, ня ведаючы да апошняга, што трэба будзе рабіць... Так я апынуўся сракаю каня... Разьвітальная песьня "Дадому, дахаты" мусіла выконвацца пад выдатны танец каня, які складаўся з двух дзяцей, накрытых карычневым пледам, мой аднаклясьнік быў перадам, трымаў галаву каня на палцы й вырабляў штукі пярэднімі "капытамі", я, у сваю чаргу, трымаючыся за талію хлопца, упёршыся галавою яму ў азадак і сагнуўшыся долу, ледзь пасьпяваў перасоўваць ногі... На наступны дзень я адмовіўся быць акторам і па традыцыі, заведзенай з часоў Гагарына, пачаў марыць пра касманаўтыку, якая, я быў упэўнены, ніколі б не прымусіла мяне быць сракаю каня.

У другой клясе мы ўсе ўжо вызначыліся зь сябрамі, я зблізіўся з Вовам, Ільлём, Сашам і Косьцем. Мы ўтварылі нешта накшталт маленькай банды, старэйшыя нас не чапалі, а я пасьпяваў ганяць кепскага аднаклясьніка Рыгора.

У нашым асяродзьдзі нават зьявілася першая багатая дзяўчынка, яна распавядала, як езьдзіла ў Баўгарыю. Гэта для нас было такім далёкім і неверагодным... такім жаданым і незразумелым... ажно захоплівала дыханьне. Баўгарыя на той "фанцікаўскі" час была Мэккаю для заможных беларусаў... Ганна сябравала са мною, бо я ганяў Рыгора, які зьдзекаваўся зь яе, маляваў

карыкатуры, падкрэсьліваючы ейную паўнату... Ганна мне шмат чаго распавядала й давала гуляць пасьля ўрокаў зь "вясёлкай"...

Спружынка "вясёлка", альбо "сьлінка" (ад ангельскага Slinky), была маім першым вялікім захапленьнем, вядома, пасьля электроннай гульні "Ну, погоди", дзе воўк зьбірае яйкі, а заяц яму перашкаджае... Гэтыя спружынкі, мэталічныя й непафарбаваныя, зьявіліся ў Амэрыцы яшчэ ў саракавых гадах і выкарыстоўваліся як псыхатэрапэўтычны сродак, у дзевяностых ужо кітайцы пачалі выпускаць "сьлінкі", каляровыя й плястыкавыя, розных формаў і памераў. Мы любілі клясыку — круглую форму, бо яна так ладна магла хадзіць па прыступках... На доўгіх перапынках мы толькі й назіралі, як Ганна спускала зь лесьвіцы замежную "сьлінку", а потым гэта рабіў я, няўклюдна, але ж.

Праз колькі месяцаў "вясёлкі" ўжо прадавалі паўсюль: у крамах, шапіках, разам з плястыкавым штучным гаўном, зь вішнёвымі й чакаляднымі цыгарэтамі Кэптан Блэк, доўгімі цыгарэтамі Мор, але гэтыя забаўкі, як і "чарніла", прыйшлі да нас у шостай клясе. А так — была другая кляса, прамакаткі зьніклі разам з атрамантавымі пёрамі, толькі настаўніцы яшчэ выводзілі адзнакі ў журнале, падкладаючы пад руку прамакатку, якая цяпер хутчэй нагадала б аркушык туалетнай паперы...

У трэцяй клясе я пачаў спаўзаць на тройкі, мяне не цікавіла вучоба, я рос і паступова ператвараўся ў боўдзілу... Я пасьпеў зламаць аб парту пярэдні зуб, ён так і застаўся тырчэць у дрэве... Цяпер, калі ўсьміхаўся, я нагадваў нейкага сьветлага бяззубага цыганёнка-байструка. Але паламаны зуб дазволіў мне аглушальна сьвістаць. Пазьней неяк на перапынку я бегаў па вуліцы за дзяўчатамі й расьсёк калена — пяць швоў. Я пачаў кульгаць і сьвістаць. Маю беларускамоўную клясу расфарміроўвалі, набліжаўся грэбаны "новы" час для краіны... Я мусіў зь верасьня вучыцца ў іншай школе, якая месьцілася непадалёк ад майго дому. Чаму я адразу туды не пайшоў?.. Па-першае, менавіта ў той школе я ўпершыню стаяў перад дырэктарам з падстрыжанымі пасьля плястыліну валасамі й спрабаваў палічыць да ста... й па-другое, мы імкнуліся вучыцца па-беларуску... і новыя пакуты, самыя значныя для мяне, — гэта магічным чынам хутка перайсьці зь беларускай тэрміналёгіі на расейскую, але як у матэматыцы для мяне былі свае назвы, так яны і засталіся па сёньняшні дзень. А пра гісторыю Беларусі я проста прамаўчу.

Трэцяя кляса асабліва адзначылася асэнсаваным праглядам фільма "Экзарцыст"... У дзяцінстве мне надарылася пабачыць колькі кадраў з гэтага эпахальнага кіно: калі я выпадкова прачнуўся ноччу, бацькі якраз глядзелі той эпізод, калі ў дзяўчынкі-сатаны пачала круціцца вакол восі галава... Я ледзь не набрудзіў у ложак! Асэнсаваны прагляд у трэцяй клясе зьдзейсьніўся такім чынам: агульная заля, менская трохпакаёўка, бабуля жагнаецца, ускрыквае й заплюшчвае вочы, прыгаворваючы: "Божачкі, спасі, Божа, сахрані", бацька нэрвуецца й выганяе яе з пакоя, каб не перашкаджала глядзець, маці прыкрыквае на бацьку, каб маўчаў... Я нібыта гуляюся ў калідоры й адмаўляюся йсьці спаць, а сам падглядаю... Што сказаць, гэта быў мой першы фільм жахаў, ад якога мяне й да гэтага часу кідае ў сутаргі. Потым адзін за адным зьявіліся іншыя жахі — другая частка "Паўсталых зь пекла" й першая частка "Жаху на вуліцы Вязаў"... З "Паўсталымі" ў мяне да гэтага часу свае рахункі, без алькаголю гэты фільм не ўспрымаецца як мае быць...

Потым надышло дзіўнае, чароўнае лета, калі я цэлы месяц правёў у Шатляндыі... Паездка была арганізаваная з дапамогай пратэстанцкай царквы, бацька мой тады нават быў ня проста шчырым вернікам, але й час ад часу прапаведаваў... маці прыгожа сьпявала гімны... У Шатляндыі я быў настолькі ўражаны іншым укладам жыцьця, што па вяртаньні праплакаў зь пераменным посьпехам зь месяц... А то ж... параўнаць было з чым — вялікія дамы, катэджы й культура, "Fish & Chips" на кожным рагу, Хайлэндз і Лоўлэндз, горы й узгоркі, Паўночны

Ледавіты акіян, кілты ў кубікі, дуды й горцы, гучаньне іншай мовы, двухпавярховыя аўтобусы бяз дахаў, палацы, вежы, зайцы па пагорках скачуць... Дома ж карціна не абнадзейвала — крызіс, бедната, шэрыя блёчныя шматпавярховікі, Біл Клінтан прыязджаў на плошчу Перамогі... Мая сям'я яшчэ год наведвала царкву, пакуль брат ня зьезьдзіў у Лёндан па той жа праграме — царкоўная дапамога дзецям, якія нарадзіліся пасьля Чарнобыльскай аварыі. А потым бацькі пасварыліся з галоўным пастарам, бо ён адмовіўся прывезьці зь Нямеччыны лекі для мяне. Бацька, які працаваў на заводзе, пачаў шмат піць... Грошай катастрафічна не хапала, маці пяцьсот разоў цыравала свае адзіныя калготы й перашывала спадніцу.

Новы верасень, новая школа, спэцкляса па ангельскай, кляса, разьдзеленая на групы, нас называюць элітай. Толькі пазьней я даведаюся, што гэта тычылася не мяне, а сына галоўнага судзьдзі Менску, унука будучага кандыдата ў прэзыдэнты. Файна я трапіў: усе аднаклясьнікі былі добра абароненыя бацькоўскімі грашыма й прафэсіямі — журналісты, дактары, бізнэсоўцы, банкіры, замежнікі, хімікі, фізыкі, настаўнікі.

На пачатку чацьвёртай клясы я ўдзельнічаў у алімпіядзе па матэматыцы, у пераможцы не прабіўся, але адзначыўся.

Каб клясны кіраўнік вылучыў на алімпіяду, трэба было гэта заслужыць...

Але напрыканцы пятай клясы мяне хацелі пакінуць на другі год праз тую ж матэматыку. Бацькі пазычылі шмат грошай, і я цэлы год наведваў заняткі ў рэпэтытара...

Як я быў здольны ўдзельнічаць у алімпіядах і амаль адначасова быць пад пагрозай застацца на другі год?! Яшчэ зусім нядаўна бацькам прапаноўвалі, каб я пераскочыў з трэцяй клясы адразу ў пятую... а тут...

Але ўсе турботы зьнікалі, калі ў групах падчас урокаў ангельскай мовы мы вучылі вершыкі й песьні:

My heart's in the Highlands, my heart is not here; [2]
My heart's in the Highlands a-chasing the deer;
A-chasing the wild-deer, and following the roe,
My heart's in the Highlands wherever I go.

Farewell to the Highlands, farewell to the North,
The birth-place of Valour, the country of Worth;
Wherever I wander, wherever I rove,
The hills of the Highlands for ever I love.

My heart's in the Highlands, my heart is not here;
My heart's in the Highlands a-chasing the deer;
A-chasing the wild-deer, and following the roe,
My heart's in the Highlands wherever I go.

Farewell to the mountains high covered with snow;
Farewell to the straths and green valleys below;
Farewell to the forests and wild-hanging woods;
Farewell to the torrents and loud-pouring floods.

My heart's in the Highlands, my heart is not here;
My heart's in the Highlands a-chasing the deer;
A-chasing the wild-deer, and following the roe,

My heart’s in the Highlands wherever I go.

Таксама моцна трымала песенька пра Боні:

My Bonnie lies over the ocean [3]
My Bonnie lies over the sea
My Bonnie lies over the ocean
Oh bring back my Bonnie to me

Refrain:
Bring back, bring back
Bring back my Bonnie to me, to me
Bring back, bring back
Bring back my Bonnie to me

Last night as I lay on my pillow
Last night as I lay on my bed
Last night as I lay on my pillow
I dreamt that my Bonnie was dead

Oh blow the winds o’er the ocean
And blow the winds o’er the sea
Oh blow the winds o’er the ocean
And bring back my Bonnie to me

The winds have blown over the ocean
The winds have blown over the sea
The winds have blown over the ocean
And brought back my Bonnie to me

Так ужо стараліся, цягнулі гэтыя дыфтонгі, язык да нёба ліпнуў, сьпявалі, крыўляліся, нібы малпы, пазіраючы на настаўніцу ангельскай і кляснага кіраўніка ў адной асобе... Дзіўная жанчына, часта з-пад ейнай спадніцы была бачная "камбінашка", белая з вышытымі пастэльнымі ружамі.

Я хварэў на Брытанію, я марыў пра Англію... Бацькі звычайна казалі, што трэба вучыць мовы, гэта абавязкова спатрэбіцца.

Ізноў надышла зіма, я яе люта не любіў, бо насіў паедзены мольлю стары чорны кажух. Кожны раз, калі заканчваліся заняткі, я, замест таго каб ісьці гуляць у сьнежкі з усімі, намагаўся як мага хутчэй выскачыць са школы, пакуль мяне не заўважылі ў гэтай жудаснай вопратцы, і куляю бег дадому... Аднойчы аднаклясьнікі мяне нагналі, іх была амаль цэлая кляса... Я спалохаўся, што цяпер да канца жыцьця буду абсьмяяны за гэты кажух... але ніхто нічога не заўважыў! Я быў агаломшаны — ніхто нічога не заўважыў!!! ...Мы амаль да цёмна гулялі ў сьнежкі, раўлі, дурэлі ўсе разам... і мяне нарэшце адпусьціла вусьціш, я зразумеў, што змагу вучыцца ў новай школе, у новай клясе, з новымі сябрамі.

А потым хутка скончылася пятая кляса, я пасьпяхова пераведўся ў шостую, навучыўся паліць, ледзь не памёр ад першай цыгарэты, а мае бацькі ў траўні атрымалі лецішча і пачалі на ім працаваць...

Першае лецішча было ў Ласях, што ў кірунку Маладэчна. 12 сотак, бацькам у той час было каля трыццаці год. Зямлі зашмат як на дваіх дарослых і двух малых, але што паробіш. Спачатку энтузіязму хапала на тое, каб падтрымліваць праполатымі й засаджанымі пяць сотак з пахілым парнікам й разваленым летнім домікам. Бацька здолеў толькі выкапаць бульдозэрам вялікі катлаван — месца пад мур для трохпавярховага дому... Гэты катлаван, напэўна, і да гэтага часу залівае вадою, там гадуюцца жабы... Так бы мовіць, прыватная сажалка атрымалася.

Суседзі з бакоў, як і зьверху (а нашае лецішча нібыта спускалася з гары й было каля шашы), спрэс былі старэйшыя за ўсю нашую сям'ю, разам узятую, калі не ўдвая, то ў паўтара раза дакладна. Мелі яны шмат сыноў і дачок, унукаў і ўнучак, працавалі з імпэтам — будавалі харомы й палацы, садзілі блакітныя елкі й узводзілі альтанкі й парнікі... Мы на ўсё гэта пазіралі сарамліва й стараліся як мага лепей даглядаць сваю зямлю. Але адным пальцам вузла не завяжаш. Каб былі мы з братам дарослымі, мо' штосьці пайшло б па-іншаму... а так усё, што нам, малым, было наканавана, — зьбіраць кіслыя парэчкі й даглядаць сабаку, каб той ня рыў кратовыя норы пад кустамі й не псаваў грады.

Самыя няўдзячныя ягады — парэчкі: сядзіш пад кустом, брудны, стомлены, у галаву пячэ, зьбіраеш чырвоныя пацеры, а іх шмат, нават зашмат, і пад'есьці ня здольны — хто ж будзе есьці гэтыя кіслыя парэчкі... Адным словам, пакуты, а тады яшчэ ўсю зіму сочыва з гэтых ягад есьць — жах!

Потым лецішча пакрысе стала закінутым, парасло бярозамі й хрэнам, які разрастаўся, як пустазельле, разам з маліньнікам... Карацей, адабралі ў нас зямлю за недагляд, і мы апынуліся вольнымі ад гэтай маруднай апрацоўкі цаліны, узараная зямля якой пасьля кожнага дажджу сьцякала са схілаў да шашы.

Праз дванаццаць год у нас зьявілася новае лецішча, каля Сяргееўскага вадасховішча, разьмешчанае крыху бліжэй да Менску, у два разы меншае па плошчы — шэсьць сотак з утульным летнім домікам. Вакол — лес, вада, рыба, грыбы, дзікія жывёлы й мы... але ўжо дарослыя й здольныя працаваць. Бацькі адразу накінуліся на зьбіраньне грыбоў і ягад...

Чалавек у крыві, у генах мае жарсьць да зьбіральніцтва. Як там было ў старажытнасьці, чым займаліся?.. Так, зьбіральніцтва, рыбалоўства, паляваньне... Але я не трываю такіх справаў. Мне нецікава й самотна швэндацца па лесе, шукаючы ягады й грыбы, я дзіця ўрбанізацыі. Бацькі любілі прывозіць дадому шмат назьбіраных масьлятаў, груздоў, сыраежак і лісічак, навозілі ягад... Усё гэта перабіралася, варылася, закатвалася.

Сёмая кляса... Мы зноў ішлі ў школу, а разам з намі йшоў дождж, быў кастрычнік. Восень, забруджаная апалым лісьцем на волкай скуры зямлі, чорнымі плямамі глядзела нам у вочы, мы былі стомленыя, нявыспаныя, незадаволеныя, разьюшаныя, змушаныя па адной і той жа сьцяжынцы крочыць да сьвятла розуму, да "новых ведаў", якія збольшага складаліся зь непатрэбных рэчаў — іх вызначылі нейкія тоўстыя мужчыны ў працёртых гарнітурах, недзе там, на далёкіх дзяржаўных сходах.

Восеньню мне зноў было не да вучобы: гульні ў бутэлечку на пацалункі, цыгарэты й віно адцягвалі амаль усю ўвагу, але больш за ўсё часу я пачаў выдаткоўваць на гульні ў першую ў сваім жыцьці прыстаўку, якую дзядзька неяк прыцягнуў дадому й уключыў у наш тэлевізар "Віцязь". Тэлевізар паказваў гульні толькі ў чорна-белым зь зялёным адценьнем фармаце... Дзядзька Сяргей старэйшы за мяне толькі на шэсьць год, таму мы адзін аднаго вельмі добра разумелі, суткамі рэзаліся ў гонкі й стратэгіі... Маці сварылася й ганяла нас, але якое там... Кока-кола й чыпсы, сьнікерс і картрыдж з новай гульнёй — і ўсё, гамон прыватнаму жыцьцю: вочы чырвоныя, апухлыя, трыццаць дзьве гадзіны. Гэта ня жарт. Затое новы ўзровень пройдзены, коды запісаныя, ёсьць магчымасьць прыснуць на якую гадзінку, а потым ізноў у бойку...

Яшчэ адна рэч, якая захапіла ў палон так, што я ажно трымцеў, — першы сапраўдны горны ровар. Мой дзядзька аднойчы прывёз яго дадому, і я карыстаўся ім зь месяц, а потым дзядзькавы сябры адвезьлі яго на барахолку ў Ждановічах, дзе я таксама выпадкова апынуўся з маці... Убачыўшы ровар, я закрычаў: "Мама, наш ровар!" Трэба было бачыць твары дзядзькавых сяброў: яны зьбялелі й гатовыя былі зьбегчы. Маці адвяла мяне ўбок і гучна засьмяялася... Толькі потым я ўцяміў, чым так напалохаў прадаўцоў.

Сёмая кляса адрозьнівалася ад усіх астатніх тым, што ўсе хлопцы за лета падрасьлі ды цяпер далёка не абыякава заглядаліся на фігуры аднаклясьніц і заляцаліся... Гэта нагадвала заапарк — ва ўсіх ламаўся голас, таму былі чутныя то піскі, то грубы гоман, усе стараліся ўшчыкнуць, памацаць, на скрайні выпадак штурхнуць дзяўчынку, дакрануцца да ейных грудзей. Уся кляса ператварылася ў выбуховую прыладу гармонаў і прышчэй; усе мы палілі, цалаваліся, а некаторыя ўжо спрабавалі кахацца; усе мы ў сваіх прыбіральнях і ванных пакоях мастурбавалі па пяць разоў на дзень, усе начамі марылі пра сваіх суседак па парце... Было вельмі цяжка канцэнтравацца на ўроках, асабліва калі выкладалі настаўніцы маладыя, прыгожыя й бяз станікаў пад тонкімі гольфамі. Мы з маім сябрам і суседам па парце Андрэем проста паміралі, у нас ужо ня толькі "пашпарты абрасталі", але зьяўлялася валосьсе на падбародзьдзі, і мы ад гранджу й рускага року ўсё больш схіляліся ў бок цяжкога мэталу...

У восьмай клясе мы набылі рысы складаных падлеткаў, даводзілі настаўнікаў да прыступаў: адна настаўніца так крычала на нас, махала рукамі, што скінула вазу з кветкамі й заліла ўвесь журнал. Яна крычала, піла карвалол з валідолам, нэрвавалася, а потым ад нас адмовілася. Чаму? Напэўна таму, што нам занадта часта паўтаралі, што мы элітная кляса, вяршкі школы, і мы паверылі ў гэта, а цяпер настаўнікі атрымлівалі прадукт сваёй творчасьці — эгаістычных падлеткаў.

Настаўніца па біялёгіі была настолькі намі закатаваная, што неяк падчас урокаў давялося выклікаць хуткую. Настаўніца з сардэчным прыступам ляжала ў шпіталі зь месяц, а праз год памерла, так і не пасьпеўшы ў нас давыкладаць. З прыходам новай настаўніцы ў мяне адкрылася другое дыханьне, і на алімпіядзе па біялёгіі я выйшаў на раён, пасьля перамогі атрымаў магчымасьць прадстаўляць сябе й школу на гарадзкой алімпіядзе, але... я праспаў у той дзень. Я мусіў ехаць на "горад" разам зь біялягіцай і дырэктарам, яны мяне чакалі каля мэтро, а я спаў... Гэта было сорамам для ўсіх біёлягаў... Потым я цьвёрда вырашыў рушыць у мэдыцыну, каб замольваць гэты грэх.

Дзявятая кляса — мы былі зачараваныя новым настаўнікам рускай літаратуры: гэты вусаты дзядзька (дарэчы, вусы ў яго расьлі ў рот, яны загіналіся пад верхнюю губу й ліплі да зубоў, ён часта любіў дакранацца да іх языком) адкрыў нам цуд спрэчак — уся кляса толькі й рабіла, што спрачалася наконт прачытаных твораў. Было сапраўды цікава ў яго вучыцца, але новы настаўнік праз год нас пакінуў, уладкаваўшыся завучам у гімназію.

У дзявятай мы ўсе гулялі ў сям’ю — хтосьці камусьці быў бацькам, дзядзькам, братам, кузэнам, сястрою, жонкаю, каханкаю, кузынаю. Уся кляса нібыта звар’яцела, выбух адбыўся, гармоны ўзялі сваё — усе мы даўно перацалаваліся і пераабдымаліся.

""Крыжачок" — віно, якое танчыць". Невядома, хто яго так назваў, напэўна, проста прыжылося ў народзе, але гэтае азначэньне "чарніла" я пачуў ад кагосьці са старшаклясьнікаў і распавёў свайму сябру Андрэю ў чароўны момант непасрэднага знаёмства зь віном... Мы былі ў невялікім дворыку, з усіх бакоў абнесеным зялёнай сьцяной каштанаў, гэта стварала ўтульны настрой для кампаніі і хавала нас ад мінакоў. Дзьве лаўкі зручна разьмясьцілі нашыя целы, нас было восем, ня лічачы некалькіх старшаклясьнікаў, якія ведалі, што рабіць з гэтым пойлам...

Глыток — і тухлая, салодкая вадкасьць прайшла па страваводзе ў страўнік... Цэлую шклянку нагбом! Сяброўкі глядзелі на мяне, як на героя... Старшаклясьнік толькі выскаляўся, а мы яму

падыгрывалі, мы былі такія ж дарослыя, як і ён... Пасьля першай, другой, трэцяй шклянкі ўсе запалілі. Праз хвіліну кожны з нас быў ужо ня ў гэтым сьвеце, усе ап’янелі й паводзілі сябе як вар’яты... Нам захацелася пайсьці ў клюб, які знаходзіўся літаральна за два крокі ад нашага дворыка. Мы дапілі "Крыжачок" і скіраваліся туды.

Мяне хістала ў розныя бакі, сьвядомасьць разьдзірала на часткі, мне не хацелася танчыць...

Не дамаўляючыся, мы ўчатырох накіраваліся ў прыбіральню... але самае жорсткае пачалося ў той момант, калі, выходзячы з прыбіральні, мы з Андрэем перасякліся з нашымі дзяўчатамі. Нас ахапіў шал, натуральна, не было ніякага сэксу, проста мы пачалі цалавацца, мацаючы адно аднаго... Непрыкметна мы трапілі ў мужчынскую прыбіральню, атрымліваючы першы блядзкі досьвед у жыцьці... Спыніцца было вышэй за нашыя сілы, тут уладарыў юрлівы пачатак... Я казаў сам сабе: "Што ты робіш?! Гераня, ты ж нейкі вар’ят! Спыніся!" — але гэта было немагчыма...

Чарга каля прыбіральні ня доўга трывала, й нашую дзіцячую оргію разагналі, даўшы нам каля дзесяці хвілін, за якія, як нам здалося, мы зьдзейснілі самую вялікую распусту.

Распуста! Вычварэнства! Менавіта так я тады думаў, чырванеючы... Мы з Андрэем на час нашых "сарцірных засмоктаў" памяняліся дзяўчынамі. Гэта быў першы крок на шляху да "экспэрымэнтаў" рознага кшталту і сэксуальных вычварэнстваў, на шляху да панку...

Мы выпаўзьлі на сьвежае паветра зь цьвёрдым рашэньнем, што на сёньня больш ні кроку ў клюб і ані кроплі сьпіртнога, адна зь дзяўчат пакінула на лесьвіцы клюба яркія кроплі званітаванага "Крыжачка". Мы сьмяяліся, калі яна ванітавала.

Мы сталі дарослымі, старэйшыя клясы ўжо абавязвалі хадзіць і пазіраць на ўсіх, задраўшы галаву. Мы нікому не падпарадкоўваліся, усіх крытыкавалі й пра ўсё мелі сваё асабістае меркаваньне...

У клясе зьявіліся батанікі й лахі. Першых мы проста не трывалі, але суіснавалі зь імі, другіх жорстка білі, рабілі ім фанту (лавілі ў туалетах і галілі запальнічкай, дзе атрымаецца. З прафіляктычнымі размовамі ў школу прыходзілі бацькі зьбітых мною дзяцей, збольшага гэта былі дзеці ёлупняў-банкіраў (цяпер яны дарослыя й маюць свае офісы, у якіх на сьценах над сталамі й галовамі вісіць розная брыдота). Гэтыя падлеткі яшчэ ў школьным узросьце паказвалі сваю адукаванасьць, выпешчаную бацькамі пагарду да іншых, мізэрнасьць і дурасьць. Старэйшыя за мяне панкі да паўсьмерці зьбівалі малых і тандэмамі адседжвалі па колькі год у турмах... Пачалі зьяўляцца дзеці зь цяжкіх сем’яў. Мы зь сябрамі "разводзілі" на грошы малое дзяўчо, яна кожную раніцу з бацькоўскага сэйфу цягала нам рублі на цыгарэты й піва. Дзяўчынцы мы проста казалі, што, калі яна ня будзе спраўна насіць грошы, мы патэлім ейным бацькам і пра ўсё распавядзем... Бацькі потым не далічыліся колькі пачкаў рублёў і перавялі сваю няўдалую дачку ў іншую школу, дзе яна праз год, як мы даведаліся, зацяжарыла ад старшакляснька.

Мы ўжо актыўна займаліся сэксам паўсюль: у прыбіральнях, парках, трамваях, на дахах, у пад’ездах, ліфтах, кватэрах, лецішчах, намётах, машынах, на сталах на кухнях...

Разам з сацыяльным пэдагогам мы езьдзілі ў паходы. У нас была заснаваная арганізацыя ЮНЭСКА, я быў дырэктарам сэкцыі экалёгіі і займаўся паходамі, пошукам намётаў і алькаголю. Падчас аднаго з такіх паходаў я спакусіў дарослага сацыяльнага пэдагога. Яна была тоўстая, амаль круглая, але што мне — абы ў споднее да яе залезьці... Гэта ж гонар для шаснаццацігадовага падлетка — пры ўсіх сваіх сябрах са школы й ЮНЭСКА распрануць пэдагога й завесьці яе ў намёт... Мне яна была ня надта прыемная, занадта тоўстая, і да ўсяго яна цьмяна пра што цяміла... я ператварыўся ў дасьледчыка новага матэрыялу... мацаў яе за азадак, залазіў пальцамі ў похву... пакуль у намёт у пошуку ліхтарыка не ўварваўся п’яны аднаклясьнік ... я выскачыў з намёта разам зь ім, трымаючыся за напаўпустую бутэльку гарэлкі... мне

патрэбная была нагода, каб зьбегчы...

Чуткі, плёткі й гоман пра гэтую падзею не сьціхалі шмат месяцаў... шмат чвэрцяў...

Мы сачкавалі амаль усе ўрокі, мацюкаліся й марылі пра дарослае жыцьцё, хадзілі па кватэрах, жлукцілі ўсё, што там налівалася, — каньяк, рыжскі бальзам, пяршак, гарэлку, піва, ўіскі... Пазбаўлялі цнатлівасьці дзяўчат пад сьпевы Віле Вала з НІМ. За адзін вечар у мяне атрымалася пазбавіць цнатлівасьці трох дзяўчат з розных раёнаў у трох розных кватэрах, на кожную я выдаткаваў па гадзіне: выпіць, пераспаць, сесьці ў таксоўку — і да наступнай...

Маральныя каштоўнасьці былі на пэрыфэрыі мозгу, намі кіравалі падлеткавы імпэт, рок і алькаголь. Але ў нас усё роўна атрымлівалася расьці й станавіцца кімсьці істотным... з адукацыяй і вераю ў нешта ідэальнае, нягледзячы ні на што...

А тым часам мясцовыя панкі выходзілі з турмаў, сканчалі вячэрнія школы, станавіліся большменш падобнымі да людзей альбо сьпіваліся, альбо хіпавалі й наркаманілі, альбо, як мясцовы Верабей, ператвараліся ў адвакатаў — Віктараў Аляксандравічаў... Я таксама рос, і панк з рокам ужо ня вабілі, я захапляўся хардкорам, але, па сутнасьці, зьмяняліся не музычныя густы, а толькі вопратка. Ідэі андэграўнду, суб- і контркультурнасьці засталіся. Я адгадаваў доўгія валасы і перажываў першае сапраўднае, моцнае каханьне, якое было старэйшае за мяне на год і вышэйшае на дваццаць пяць сантымэтраў...

У старэйшых клясах нам выпала віншаваць вэтэранаў з круглаю датай заканчэньня Другой сусьветнай. Мы цягаліся па кватэрах зь лістамі ў форме трохкутнікаў, нібыта лістамі з фронту, дзе было напісанае традыцыйнае віншаваньне ад прэзыдэнта й краіны... мы слухалі дзіўныя гісторыі, апранутыя ў форму радавых... вэтэраны радаваліся, плакалі, паціскалі нам рукі... мы ім уручалі кветкі (бэз) і сыходзілі... на той час у маім раёне жыло каля дзьвюх тысяч такіх самотных вэтэранаў, але з кожным годам іх колькасьць памяншалася на сорак адсоткаў... пасьля віншаваньняў мы абавязкова сумна выпівалі ў напаўцёмным дворыку.

А потым, калі ў краіне зьявіўся першы мабільны апэратар Velcom, мяне да яго падключылі. Гэта быў падарунак на дзень народзінаў, і я атрымаў сваю першую мабілку... Не папса, як я лічыў, пазіраючы на тое, як людзі цягаюць свае вялікія Nokia, якія не зьмяшчаліся ў кішэнях і боўталіся ў футаралах на паясох як мужчын, так і жанчын... у мяне была Motorola c200 — а то ж, нават нейкая мадыфікаваная падмадэль, з антэнкаю вонкі, амаль мініяцюрная... Але яна не ратавала ад нечаканых выбрыкаў жыцьця, як вялікая Nokia, напрыклад. У майго сябра ўвечары нейкія гопнікі зьбіраліся адабраць сноўборд, дык ён сваёю Nokia аднаму з вычварэнцаў павыбіваў пярэднія зубы й нічога, толькі на корпусе мабілкі зьявіліся сьляды паламаных зубоў. Мая мабілка была на той час элегантнаю й эстэтычнаю, але праз год я ўсё роўна перайшоў на масіўную Nokia, хадзіў і марыў пра тое, як буду ісьці са сваёю дзяўчынаю і, калі падыдуць якія быдла-хлопцы, я ім таксама павыбіваю зубы... але хлопцы не падыходзілі...

І тут нечакана на мяне абрынуўся Стывен Кінг. Я выпадкова набыў ягоную кнігу "Чатыры сэзоны", у якой апавядалася пра школьніка, які вырашыў зьвесьці рахункі з настаўнікамі й аднаклясьнікамі пры дапамозе "абрэза", пра чатырох сяброў, якія знайшлі труп... Я падсьвядома ставіў на месцы герояў сябе й перачытваў гэтую кнігу... Так, напэўна, можна сказаць, што менавіта гэтая кніга абудзіла ўва мне думкі й жаданьне пачаць пісаць самому. Ужо тады я напісаў апавяданьне ў сваім школьным сшытку па матэматыцы. Сюжэт быў просты — чатыры сябры выпраўляюцца ў лес... і там разьвіваецца містычна-трылерны сюжэт... Апавяданьне дзесьці згубілася, літаратурныя ўзоры зьмяніліся.

Я рос, і мне патрэбныя былі грошы, шмат грошай, бо тых, што я атрымліваў ад бацькоў на школьную сталоўку, было замала. Я ўжо не зарабляў на файных адзнаках, гэта засталося ў сярэдніх клясах, таксама, як і праца на праполцы буракоў летам у калгасах. Так, я хацеў ужо самастойнасьці... хацеў сапраўднай працы... таму пайшоў на курсы цырульнікаў, тым болей,

што клярнэт я закінуў, а праз год мусіла пачацца падрыхтоўка да іспытаў у мэдычны ўнівэрсытэт...

Адзінаццатая кляса запомнілася грандыёзным піцьцём, незвычайнымі сяброўкамі, якіх клікалі Заноза й Адрыжка, а таксама, лютаю зімою... бо, калі тэмпэратура на дварэ апускаецца ніжэй за дваццаць пяць градусаў і сьнегу шмат, вядома, зранку ніякая школа ня сьвеціць. Значыць, зьяўляецца нагода нажлукціцца. На вуліцы сьнегу да шыі, гурбы вышэй за два мэтры... але гэта пасуе абставінам і жаданьням — трэба проста легчы ў гурбу, зрабіўшы зь яе сьнежны фатэль, дастаць пляшку шнапсу й да раніцы піць... Сьнег някепска грэе, гарэлка трымае ў пэўным стане, ты нібы не п’янееш...

Пад канец адзінаццатай клясы я мусіў вынесьці для сябе нейкія веды, нейкі розум, але будучыня бачылася цьмянай, хоць і насычанай плянамі... З ангельскай клясы я запомніў адзін сказ: "Learning foreign languages gives us opportunity not to lag behind the time" [4]. Але гэта, па сутнасьці, лухта.

3.09. — 18.09.2011
Менск — Львоў

[1] "З усіх заганаў самая жудасная... напісалі?" (ням.)

[2] Верш Робэрта Бёрнса (1759 — 1796) "Маё сэрца ў Высакагор'ях"

[3] Шатляндзкая народная песьня

[4] Вывучэньне замежных моваў дае нам магчымасьць не апынуцца па-за сучаснасьцю (з анг.).

# Сэмэстры

*...чым далей прасоўваецца гэты аповед,*
*тым болей я яго адчуваю невычэрпным.*
*Ён бясконцы, як сама эвалюцыя сьвету.*
*І ўяўляе зь сябе вывяржэньне ўсяго таямнічага,*
*падарожжа ў самых неверагодных шыротах —*
*пакуль у нейкай кропцы раптам не пачнеш разумець, што тое,*
*што апавядаецца, ня так істотна, як сам аповед.*
*Генры Мілер, "Разважаньне пра пісьменства"*

Два гады запар я наведваў рэпэтытара па біялёгіі, які рыхтаваў мяне да мэдычнага ўнівэрсытэту. Рэпэтытар была старой жанчынай, выкладчыцай катэдры біялёгіі, насіла парык і брала стос даляраў за гадзіну. Бацька тады зарабляў дастаткова.

Экзамэны прайшлі, я не дабраў да бясплатнага навучаньня аднаго бала, мой лёс мусіў вырашыцца на паўплатным навучаньні. Быў агульны сход абітурыентаў. Пад канец агучылі маё прозьвішча й яшчэ дзьвюх дзяўчат. Абіралі аднаго між намі трыма, хто будзе вучыцца на паўплатным. Абралі дзяўчо зь нейкай вёскі, яна, да таго ж, была сіратою, яе гадавала бабуля.

Я, вядома, ня супраць такіх ільгот, але калі абіраюць паміж гарадзкімі й вяскоўцамі, звычайна больш шанцаў у вяскоўцаў. Чаму так?.. Таму, што ў іх горшая школьная адукацыя? Мне здаецца, па ўсёй краіне настаўнікі аднолькавыя. Гэта ж нейкая пастка, калі вяскоўцы, троечнікі, вучацца ў галоўным ВНУ краіны, а гарадзкія часта выцесьненыя на пэрыфэрыю! Я быў абураны й шакаваны, пакрыўджаны й зьнішчаны... Праз тыдзень я здаў іспыты ў цалкам іншую галіну дзейнасьці, мне было наканавана зь пераменным посьпехам шэсьць год вучыцца на культуроляга на факультэце міжнародных адносінаў у БДУ.

Першы курс быў цьмяны й пасіўны... я амаль не цікавіўся студэнцкім жыцьцём, у мяне была дзяўчына на сем год старэйшая за мяне, з Паўночнай Карэі, лялечная, прывабная... я захапляўся ёю.

Першыя два сэмэстры былі перамяшаныя й скамечаныя, усе студэнты толькі пачыналі разварушвацца, толькі прайшло пасьвячэньне ў новае жыцьцё, але некалькі дэканаў ужо былі мною пакрыўджаныя й абураныя маімі паводзінамі... Добра, што яны мяне больш ніколі ня бачылі з бутэлькаю партвэйна й самакруткай у зубах каля Палацу спорту на вечарынах з нагоды Дня студэнта, інакш, напэўна, пазналі б.

Я атачаўся сябрамі — панкам, алькаголікам, шызафрэнікам, мізантропам і шлёндрай. Мы больш часу бавілі каля нашага зялёнага вучэбнага будынка (называлі яго — хлеў), распальвалі ў кустах агонь (кусты тады былі вялікія й буйныя, сьцяною хавалі пустэчу, якая потым абрасла двума блёчнымі шматпавярховікамі), пілі, распавядалі адно аднаму нейкія гісторыі, спрачаліся, гутарылі пра філязофію й літаратуру, елі танныя бутэрброды з салам, сялёдкай і цыбуляю, пілі пладова-ягаднае з суседняй крамы, якая была нам як маці родная... ванітавалі, спалі... палілі... Мы былі купкай сучаснай моладзі, якая апынулася на ўскрайку, у пэўным маргенэзе (моладзь, не задаволеная жыцьцём, сучаснасьцю й дадзенай свабодай), мы былі яскравымі прадстаўнікамі чагосьці апакаліптычнага, быццам чорныя вершнікі хаосу... Але нам гэта падабалася. Мы верылі ў сябе, у сваю моц, у тое, што мы здольныя на вялікія справы, здольныя скалануць гэтыя антычныя калёны застою й савецкасьці, мы мянялі сьвет, але ён чамусьці не мяняўся. Мы пачыналі зь сябе.

Выкладчыкі на лекцыях звычайна пазіралі на нашу кампанію недаверліва, быццам мы

прыйшлі не туды. Мы сапраўды існавалі ня ў тым месцы, кожнаму з нас было наканавана зьдзейсьніць у жыцьці іншае.

Шызафрэнік часта бажыўся, што будзе новым прэзыдэнтам, лез у нейкую палітыку, піў, пакуль яго на трэцім курсе, на якім ён вучыўся ўжо чацьвёрты раз, не пасадзілі на восем год у турму. Але ён нават адтуль дзіўным чынам намагаўся раз на месяц тэліць загадчыку катэдры й распавядаць пра свае грандыёзныя пляны, пытацца пра справы.

Шлёндра раптам апынулася вельмі файным, таленавітым фатографам.

Панк стаў буйным мастаком і дызайнэрам, ён пазбавіўся сваёй доўгай барады й ажаніўся.

Нязьменнымі засталіся алькаголік і мізантроп... Яны часта бачыліся са мною, але з кожным разам я губляў да іх цікавасьць. Напрыканцы навучаньня яны амаль перасталі для мяне існаваць, акрамя як у памяці, якая таксама ня мела пэўнае гарантыі на доўгія тэрміны.

Аднойчы, калі ўжо другім разам надышлі зімовыя іспыты, я з алькаголікам зьбіраўся здаваць нейкую Тэорыю. Якую менавіта — цьмяна памяталася нават на той час, але мы прыйшлі. Алькаголік, зьмерзшы, прытуліўся да батарэі, не здымаючы паліто, сеў на падлогу й дастаў з унутранай кішэні бутэльку, я пасунуўся да яго, мы занялі сваю чаргу ў габінэт. Пачалі піць, каб сагрэцца, каб мазгі пачалі варушыцца... Мінула тры гадзіны, мы нават пасьпелі зьлётаць яшчэ па адну, і я пасьпеў саснуць, як раптам, расплюшчыўшы вочы, не знайшоў побач алькаголіка... І тут праз драўляныя дзьверы з габінэту пачуўся страшэнны лямант... Выкладчык крычаў, каб хтосьці вымятаўся вонкі, каб не зрываў экзамэн... Я сьцяміў, што сёньня нам не дачакацца посьпеху на іспыце... Празь імгненьне з габінэту вылецеў мой аднагрупнік, спатыкнуўся й расьцягнуўся на падлозе, зь левай рукі ў яго выпала плястыкоўка з гарэлкай і кавалачкам цытрыны.

Так, дарэчы, гэта быў іспыт па тэорыі літаратуры... Алькаголік вырашыў замест адказу на пытаньні білета распавесьці пра сваю тэорыю "Памаранчавых дрэваў". Дастаў дзьве плястыкоўкі, наліў у іх гарэлкі, кінуў па кавалачку цытрынкі, парэзанай сьцізорыкам паўмесяцамі, і прапанаваў выпіць выкладчыку, кандыдату філялёгіі... Гвалт, сварка, спрэчка, але... восем у залікоўцы. "Як яно? Га? — пытаўся ён у мяне потым і ўздымаў чарговы кілішак за такі посьпех. — Талент, мазгі!" Тое самае адбывалася й з астатнімі экзамэнамі.

На вышэйшую матэматыку мы хадзілі па традыцыі нецьвярозыя, пісалі матрыцы, на іспыце чакалі таксама іх, матрыц... але чамусьці настаўніка пацягнула распавесьці нам пра такую загадку, як матэматычна немагчымую рэч для вылічэньня — абгоніць Ахілес чарапаху альбо не... Ну хто яго цягнуў за язык?!

У нас пачаліся бяссонныя ночы, алькаголік разам са мною спрабаваў вылічыць, знайсьці формулу, мы шалелі й у такім брудна-кепскім стане прыцягнуліся на экзамэн... Ледзь стоячы на нагах, мой сябра Юля крэйдай штосьці пісаў, настаўнік сядзеў і глядзеў доўга, пільна і штосьці занатоўваў на сваёй паперцы... Потым адвёў яго ўбок і сказаў: "Табе будзе залік, але не спрабуй болей трапляць мне на вочы ў такім стане, інакай не дарую!" Ён сказаў гэта ціха, але цьвёрда, алькаголік нават апрытомнеў...

Яшчэ быў такі дзіўны пэрсанаж, які выкладаў тэорыю кіно й тэатру... Лекцыі ў яго былі — цуд, нейкае дзіва, усе туды хадзілі, акрамя нас... Неяк я завітаў да яго на апошнюю лекцыю разам з панкам. Студэнтаў было шмат: хтосьці стаяў, хтосьці сядзеў на падлозе. Выкладчык адразу пачаў мяне катаваць пытаньнямі, але я сьцяміў пра мэтафару касьцюма й вопраткі, пра цытацыю літаратурнага твору ў тэатры й кіно... Карацей, мы зь ім амаль усю лекцыю прагутарылі й праспрачаліся, пасьля чаго ён сказаў, што больш за ўсё яму шкада, што ўвесь гэты год я не хадзіў да яго на лекцыі, бо так было сумна безь мяне... На экзамэн я нават не пайшоў, усё роўна ў залікоўцы ўжо стаяла дзевяць.

Здаецца, у нас усё атрымлівалася занадта файна й лёгка, але насамрэч гэта было ня так. Дзьве

выкладчыцы моцна варушылі нас на сваіх лекцыях. Яны кожны раз трымалі нашае падсьвядомае ў сваіх рукох. Мы, быццам падлеткі, заляцаліся да іхных ведаў, мы хадзілі на лекцыі з трымценьнем, кожны раз адкрываючы для сябе новае... Менавіта гэтыя дзьве выбітныя выкладчыцы, сапраўдныя прафэсіяналы, якіх мы вельмі паважалі й баяліся, зрабілі з нас тых, хто мы ёсьць, яны заклалі падмурак, на які мы ўжо надбудавалі ўсё астатняе... Яны шмат чаго нам даравалі, яны нас разумелі й шмат у чым дапамагалі, выцягвалі нас з палітычнай і адміністрацыйнай багны... Яны былі нашымі інтэлектуальнымі мамамі, і мы стараліся не апусьціцца ў іхных вачах... Але збольшага мы так і заставаліся студэнтамі-ёлупнямі з прэтэнзіямі на літаратуру.

...вечар, самотны шапік ля гастранома... над адчыненым акенцам цьмяна сьвеціцца лямпачка.

— цыгарэты Magna у мяккім пачку, калі ласка, — зьвяртаецца ў акенца доўгавалосы чалавек зь няголеным тварам.

— magn’ы няма.

— ну, тады Winston. тры пачкі.

рука зь нястрыжанымі й бруднымі пазногцямі забірае цыгарэты, і шыракаплечы сылуэт скіроўваецца за рог суседняй крамы, дзе яго чакаюць...

М. падыходзіць да дзьвюх пэрсон і моўчкі кідае пачкі цыгарэт у торбу да некалькіх бутэлек...

— хадзем на дах, — кажа А., таксама доўгавалосы... ён прапаноўвае гэтае месца, бо лепшага няма ў сьвеце... там, на даху, праходзіць амаль усё іх жыцьцё... гэта дах дома, у якім жыве М., а М. жыве на дзявятым паверсе, таму на дах ён ходзіць часьцей, чым на вуліцу... а ўзімку выгульвае там сабаку, пасьля чаго ўвесну дахператвараецца ў памыйную яму і там няма дзе ступіць, пакуль да лета ўсё ня высахне... Гераня раней ня мог нават уявіць, што ад сабакі можа за зіму назьбірацца столькі лайна... але да лета было яшчэ далёка, на вуліцы панавала восень, і гэтым людзям не цярпелася патрапіць на дах.

— а што я казаў, там сапраўды сядзіба сатаністаў! — паказаў М. на суседні дах.

тры галавы высоўваюцца з-за сьцяны на даху, у кожнай зь іх па цыгарэце ў роце... яны зь дзіцячай цікаўнасьцю разглядаюць чорныя незразумелыя надпісы, фігуры, пэнтаграмы й крыжы... мурашкі па скуры, ім жахліва й цікава... два мужчыны цягнуць на вяроўцы сабаку памерам з аўчарку... сабака скуголіць і спрабуе вызваліцца...

...адзін з патлатых з усёй моцы б’е жывёліну нагою, абутаю ў бот "доктар Марцінз", сабака падае ад удару, скуголіць і круціць галавою...

...доўга не разважаючы, Гераня бяжыць да выхаду з даху...

...цяпер яны з М. і А. ператвараюцца ў сузіральнікаў, ці, калі так магчыма сказаць, "падглядальнікаў"... яны любяць з дапамогай бінокля зазіраць у чужыя вокны, сачыць за мінакамі, што шпацыруюць па ходніку... яны неаднойчы траплялі на розныя цікавыя інтымныя рэчы: неяк злавілі мужчыну, які стаяў на гаўбцы й мастурбаваў! ён адчайна торгаў сваёю праваю рукою... увесь тросься, чырванеў... спачатку сяброў такое відовішча шакавала, і яны сачылі, моўчкі ўтаропіўшыся ў біноклі, і толькі праз колькі хвілінаў А. пачаў сьвістаць ды падбадзёрваць мужыка, і мужчына раптам падняў галаву й заўважыў, што на суседнім даху сядзяць нейкія валасатыя хлопцы... мастурбатара гэта відавочна ўзрадавала, і ён накінуўся на свой чэлес з новым імпэтам, з бліскучай усьмешкай на твары... сябры зразумелі, што іх толькі што маральна трахнулі...

...наступіла лета, і гарачы дах больш ня вабіў. яны перабраліся ў суседні парк, што раней быў габрэйскімі могілкамі, а цяпер — футбольным полем з надмагільнымі плітамі вакол, якія служылі лавамі... гэтыя могілкі з дапамогай мясцовых ператварыліся ў месца адпачынку й

п’янства... толькі помнік, клапатліва збудаваны ля парку субратамі загінулых, яшчэ нагадваў пра сапраўдную гісторыю... помнік гэты напалову хаваўся ў высокай траве, якая была вельмі дарэчы для моладзі, бо выдатна хавала іхныя паседжаньні...

...літаральна празь дзьве хвіліны Героня апынуўся на суседнім даху, дзе са сьценаў на яго абрынуліся жудасныя надпісы й пэнтаграмы... тут ён пабачыў двух мужчын і зразумеў, што сілы няроўныя, але няшчаснага сабаку трэба было ратаваць... ён, доўга не разважаючы, пабег у іх бок, кожную сэкунду набіраючы тэмп... ён не ўяўляў, што рабіць, калі ногі прынясуць яго да гэтых хлопцаў, у яго ня толькі не было пляну, але і да галавы не прыходзіла ніводнай думкі, толькі дынаміка руху цягнула ў бойку... падбягаючы, ён вырашыў з усёй моцы наляцець на таго, хто зьлева, ён целаскладам быў большы... і, дабраўшыся да пункта прызначэньня, ён паваліў яго на сьпіну... у правай руцэ мужчыны бліснула каляровым бляскам лязо, але ён не пасьпеў яго ўжыць, праз сэкунду нож ужо быў у руках Герані, і ён, доўга не разважаючы, усадзіў яго да самай рукаяткі ў левае вока... але мужчына ня толькі не супраціўляўся, але нібы спэцыяльна ляжаў паслухмяна і ўсьміхаўся... другі, той, што стаяў з правага боку, раптам паваліўся тварам уніз — да яго ірвануўся выратаваны сабака...

"я гэта зрабіў дзеля сабакі, ён быў вышэйшы за гэтых людзей, істотнейшы, мудрэйшы", — у галаве Герані гучалі галасы, але ён ня надта прыслухоўваўся, бо яшчэ ня ведаў, як іх слухаць...

...ён раптам усьвядоміў, што зусім голы ляжыць на незнаёмым даху, спрэс сьпісаным пэнтаграмамі... ён трымае ў руках нейкія лекі, а побач бегае і цяўкае мопсік...

...пасьля галюцынацый на даху ён прыйшоў дамоў, захутаны ў брудны й падраны шэры плед, яго зваліла на падлогу, і ўсё, на што хапіла моцы, — гэта дабрацца да матраца ў цёмным куце пакоя, які замяняў канапу...

...ён быў у стане комы, ня еў, ня думаў, ня піў, толькі ляжаў і бачыў мноства яркіх фарбаў, якія зьмянялі адна адну ўсімі неймавернымі адценьнямі...

...ён ляжаў дзень, другі, трэці... яму не хацелася спаць... сабака, цвэркшнаўцэр, соль зь перцам, якога ён знайшоў і прывёў дадому, ляжаў у суседнім куце і таксама амаль не ўставаў, толькі зрэдку сікаў у калідоры... на чацьвёрты дзень ён прачнуўся ад нясьцерпнага голаду й амаль сырымі зьеў усе макароны, якія кінуў у кіпень і адразу дастаў...

...ён вельмі палюбіў гэтага сабаку, і яны пачалі сябраваць і разам праводзіць усе дні за гутаркамі й экспэрымэнтамі. сабака апынуўся даволі разумным і цікавым суразмоўцам... Героня часта выводзіў сабаку на двор, і яны разам гулялі вакол заводаў і фабрык, атручваючы арганізмы брудным паветрам... і ў іх была любімая гульня, яны знаходзілі які-небудзь мост праз аўтатрасу і, стоячы на сярэдзіне, кідалі маленькія каменьчыкі ўніз і потым, чуючы візгат тармазоў, уцякалі... сабака Смайл удала ўпісваўся ў ягонае жыцьцё, калі не лічыць таго, што ён быў занадта пажадлівы й спрабаваў згвалціць усё, што трапляла ў поле зроку... і калі Смайл пастарэў, яго зусім адолеў маразм — ён гвалтаваў нават складкі на незасланым ложку, гвалтаваў мяккія цацкі й нават котак на вуліцы... а потым аднойчы ён сеў у фатэль побач з Геранем, адкаркаваў бутэльку піва і пачаў цытаваць "Вайну і мір"...

...па дарозе ён заскочыў да М., які ўжо месяц хварэў на бяссоньне і перасоўваўся па кватэры як мумія, паўтараючы, што вельмі хоча заснуць, але ня можа, таму што бачыць яшчарак... а ўсё пачалося з рамонту ў суседзяў, распачатага два месяцы таму... і пэрфаратар грыз іхныя сьцены нястомна, нават начамі, бо ягоны сусед закадзіраваўся й ня ведаў, куды падзець вольны час... рамонт апынуўся для яго выратаваньнем... сусед сьвідраваў і сьвідраваў, М. пакутаваў і вар’яцеў...

...вечар набіраў рухі, ужо на прыпынку ў Герані зьявілася адчуваньне дэжа вю, што калісьці ўсё гэта ўжо адбывалася, яны стаялі ўпяцёх, усе як адзін на сваёй хвалі, і чакалі аўтобуса... час цягнуўся, як і стары аўтобус, які праз геамэтрычную форму называўся "труной"...

...прабел...

...праз шэсьцьдзесят дзьве гадзіны ў кватэры больш-менш усё наладзілася, Гераня сядзеў у фатэлі, закінуўшы ногі на пуфік, у руцэ ён трымаў кнігу Фрыдрыха Ніцшэ "Нараджэньне трагедыі з духу музыкі", зьбіраўся чытаць... у канцы пакоя на ложку ляжаў нейкі сьмярдзючы панк, у вопратцы і з баявым іракезам, побач ляжала такая ж, як і ён, дзяўчына, але напаўголая, хто яны, невядома, жывыя яны ці памерлыя, таксама невядома... на кухні, за сьцяной, насупраць якой сядзеў Гера, нейкі пажылы суб’ект ва ўсю стагнаў ад сэксу з малалеткай, якая таксама не забывалася выдаваць стогны й стукаць рукамі ў сьцяну... пад кайфам сэкс заўсёды незразумела доўгі й цяжкі... па тэлевізары ішоў Adult Channel, якраз паказвалі фільм, у якім дзесяць чалавек ябалі адно аднаго ва ўсё, што нават хоць крыху нагадвала дзірку ў целе... Гераня палічыў фільм даволі марудным, крыху зацягнутым па сюжэце... ён піў маленькімі порцыямі, паліў і чытаў Ніцшэ, яшчэ ніколі ягоны мозг ня быў такі чысты й сьветлы, яшчэ ніколі ён так яскрава ня ўсмоктваў інфармацыю... гэта было прасьвятленьне, з вачэй цяклі п’яныя сьлёзы шчасьця, ён упершыню расшыфроўваў кожнае слова... у гэтым чортавым месцы, у асяродзьдзі бруду, ён знайшоў тую нітку ісьціны, якую шукаў...

...Гераня адклаў кнігу, каб зьесьці трамадолу, павярнуў галаву ў бок стала, які стаяў справа ад яго, як раптам у суседнім фатэлі ўбачыў мужчыну. ён пільна глядзеў на Гераню й шырока ўсьміхаўся з-пад кусьцістых вусоў, адначасова моршчачыся, нібыта кожную сэкунду яго мозг нараджаў неверагодныя ідэі... Фрыдрых сабраў са стала некалькі пігулак фэназэпама, кінуў іх у рот і праглынуў, не запіваючы...

...сябры запарылі кавы — дзесяць лыжак на паўшклянкі гарачай вады — жудасны тонік, страўнік адразу скручвае, пякотка забівае ўсе астатнія імпульсы ў целе... куды ім трэба было сыходзіць, ніхто ня ведаў...

...думаў Гераня й перабіраў у кішэні швайцарскі сьцізорык... калі будзе кепскі адказ, ён парэжа сабе ўсе падушачкі пальцаў... адказ, адказ, адказ, колькі пытаньняў, колькі?!

...у адзін зь вечароў за вялікай будоўляй на Нямізе, побач зь вялізным катлаванам, які нагадваў пашчу пекла, яны сустрэлі цікавых суб’ектаў... было паміж дванаццацьцю й гадзінаю, цемра апраметная, але ў гэтым месцы было сьветла, нібыта днём... ішла начная зварка, сьвятло кожную хвіліну гасла, чарговы бязглузды гандлёвы цэнтар выпаўзаў з нетраў зямлі, і ў дадатак да зваркі вакол чулася музыка, нешта сярэдняе паміж клясыкай і пахабным шансонам... у гэтым атачэньні зваркі, вогнішча й музыкі яны ўцямілі, што лепшага месца для дэкадэнтаў не прыдумаеш. яны хутка зладзілі стол — бутэлька, шклянкі й некалькі бутэрбродаў... і не пасьпелі выпіць, як на іх натрапілі некалькі будаўнікоў, якіх яны пачаставалі сьпіртным у абмен на салёныя агуркі й бутэрброд зь вяндлінай... будаўнікі паказвалі ім свае грубыя рукі і гаварылі, што ў іх ад гэтай дзікай працы ўжо нават валасы на далонях растуць, жывёламі на будоўлі становяцца, сьвету белага ня бачаць... Гераня і Юля, калі разглядалі вялізныя валасатыя далоні гэтых мужчын, думалі, што гэта проста галюцынацыі... раптам зь цемры выпаўз яшчэ адзін будаўнік, і ў яго сьвяціліся блакітным вочы... "я — новы этап разьвіцьця чалавека, дайце выпіць, калі ласка..."

...было каля пяці раніцы, ёсьць яшчэ час у "Хутка-смачна" — набыць піва й златку...

...сябры выйшлі з двара, пакінуўшы валасатых сам-насам, і накіраваліся ў бок цэнтральнага скрыжаваньня, але як толькі яны дайшлі да дарогі, іх паклікалі. Юля першым заўважыў, як да іх бягуць... сябры спыніліся й пачалі махаць рукамі з радаснымі крыкамі, упэўненыя, што гэтыя ці то байкеры, ці то мэталісты вырашылі зь імі выпіць... агульная радасьць ахапіла абодвух, бо яны нават ужо не спадзяваліся, што сёньня будзе цікавы працяг раніцы... цяпер яны як сапраўдныя гарэзы ці бітнікі і цяпер будуць наладжваць кантакт з прадстаўнікамі контркультуры...

— прывітаньне Анёлам Пекла!!!

— што за анёлы пекла, га? што за хуйня? вы што, нас разьвесьці хацелі!? хто вы, блядзь, такія?!

— гэта мы вас так назвалі, таму што вы падобныя да Анёлаў Пекла, гэта, як вам сказаць, э-э-э, камплімэнт...

— мы з рыцарскага ордэну!!!

...Гераня адчуў на скуле кулак... побач цела Юлі грымнулася на асфальт, на яго абрынуліся адразу чатыры нагі, якія білі зь вялікім імпэтам, трапляючы, куды пашчасьціць: па галаве, шыі, грудзях, сьпіне, па баках... Юля толькі ляжаў, скурчыўшыся, прыкрыўшы твар рукамі, прыціснуўшы локці да грудзей... Гераня вытрымаў удар, збольшага дапамагла маса цела, збольшага ён яшчэ памятаў спартовыя навыкі... ён схапіў валасатага за галаву за імгненьне да таго, як ягонага сонечнага спляценьня мусіла крануцца варожае калена... Гераня выпрастаўся, утрымліваючы п’янага суб’екта за валасы, і з усёй моцы працяў яго па носе... той хістануўся й тварам стукнуўся аб слуп сьветлафора... гэта было эфэктна, кроў пырснула ў розныя бакі... з роту выпаў кавалак зуба, на дарозе адразу зьявіліся мудрагелістыя ўзоры ў стылі Джэксана Полака... нос скасабочыўся, брыво расьсеклася, валасаты трымаўся за рот, напаўлежачы на асфальце, ягоны імпэт пакрысе сьціх, у вачах сьвяцілася штосьці кшталту сабачага бляску ўдзячнасьці... добра, што ў гэты час вуліцы Менску вольныя ад машын... Гераня скарыстаўся момантам і кінуўся на дапамогу Юлі, якога да гэтага працягвалі зьбіваць...

...вакол уздымаўся вецер... Юля страціў прытомнасьць... пачаў кружляць мяккі й пухнаты сьнег... ён падаў буйнымі ватовымі сьняжынкамі...

...пакуль міліцыянэр падыходзіў, Гераня падскочыў да сябра, схапіў яго за руку й падняў з асфальту, Юля быў непрытомны, але прынамсі крыві відаць не было....

- прабачце, калі ласка, гэта наш сябар, ён зашмат выпіў і паваліўся і... э-э-э... мы яго падымалі...

- як гэта вы яго падымалі? нагамі?!

Гераня моўчкі стаяў, трымаючы Юлю, ён гатовы быў пагадзіцца з чым заўгодна, абы зьнікнуць адсюль!

...яму рэзала вока тое, як выдзяляліся з агульнага кантэксту два чалавекі, якія ледзь трымаліся на нагах, абдымаючы адзін аднаго... адзін зь нейкімі барвова-сінімі валасамі, абодва ў кашулях і пінжаках, падобныя да выкладчыкаў, брудных, сьпітых выкладчыкаў... раптам ён заўважыў, што навокал пайшоў сьнег, зьбянтэжыўся, вырашыў, што гэта дурасьць нейкая...

- от, блядзь, сьнег — і ў ліпені! ідзіце вы адсюль, пакуль усіх не пазабіраў у малпоўню! раніца ўжо! хутка нармальныя людзі на працу паедуць, а тут вы, гандоны зьбітыя, швэндаецеся...

...яны йшлі моўчкі й разважалі пра сваю дурную наіўнасьць, нейкую ахвярную веру ў людзкое асяродзьдзе... іх ідэалізацыя рэчаіснасьці, іх мары і тое, што яны чыталі ў кнігах, ніяк не праецыруецца на празаічную рэальнасьць... яны зайшлі занадта далёка, і адсюль няма выйсьця, каб не ахвяраваць меркаваньнямі, поглядамі й думкамі... Юля расплюшчыў вочы, і зь ягоных вуснаў вылецелі першыя марудныя словы пра Хаос і Армагедон, пра заняпад і сьвятога палага анёла... яны паехалі дадому... селі ў першы тралейбус, злавіўшы цяжкія й змрочныя погляды тых, хто рана ехаў на працу. "так, гэта мы — брудныя, пакамечаныя, стомленыя, дзікія, як пустазельле. але мы сапраўдныя й шчырыя!" — Гераня паглядаў на ўсіх, намагаючыся забіць зрокам...

Сэмэстры даўно скончыліся, трэці курс патануў у партвэйне, залікоўка размокла й ператварылася ў хлебную мякіну. Мы больш нікуды не імкнуліся, нам нічога ня трэба было, мы стаміліся. Мэдыюм — справа нудная, сэмінары й канфэрэнцыі спрэс нецікавыя й доўгія, мы

вымушаныя піць сыропы ад кашлю. Мы абіраем шлях супраць хваляў, і няхай нас ліжа вільгаць, няхай пена бурліць вакол нас, мы ператворымся ў гладкія камяні, і з нас сьцячэ што заўгодна — вада, бруд, сьмецьце, сьліна, сікі, алей... Мы крочым наперад, туды, дзе няма паваротаў, скрыжаваньняў, ісьці трэба толькі напрасткі, крыху ўгору, зь вялікім каменем наперадзе, цяжкім каменем, але сваім, звыклым, цёплым, незаменным.

Я зьехаў у Лёндан, Юля лёг у "Навінкі", дакладней, наадварот: спачатку Юля патрапіў у "Навінкі"...

Выбары... Плошча, намёты... Першы вечар з намётамі прайшоў удала, другі таксама, сам я ў гэтыя намёты ня лазіў, мы зь Юлем бадзяліся вакол... Трэці вечар засьпеў мяне дома, калі я стомлена ляжаў на канапе... Тэліць Юля, заве далучыцца да людзей у намётах, я адмаўляюся, маўляў, на сёньня зь мяне хопіць усіх гэтых боек і палітычных гульняў. Недзе так а пятай раніцы я атрымліваю смс: "мяне забралі, намёты раскідалі, еду ў аўтазаку"...

Усю раніцу я кружляў па горадзе, на Акрэсьціна я яго так і не пабачыў... толькі пазьней, краем вока, калі яго з залі суда пераводзілі ў машыну, нават не пасьпеў аддаць яму пачак цыгарэт... Яго адразу перавялі ў Жодзіна.

Сем сутак.

Вечар, амаль ноч, усіх арыштаваных выпускаюць толькі ноччу... што ім рабіць ноччу ў незнаёмым горадзе?! Я сяджу за стырном сваёй "капейкі", ззаду наш агульны сябра й дзьве бутэлькі шампанскага, гарэлка й закусь... дзьверы адчыняюцца, і з зоны пачынаюць выпускаць палітвязьняў, ноччу, каб бязь сьведкаў... мы выскокваем з машыны й гарлаем, адкаркоўваючы шампанскае, якое, грымнуўшы, пеніцца ў розныя бакі... Ніхто, акрамя нас, так не сустракае зьняволеных!

Імчымся ў Менск, ззаду ідзе поўнай хадою жлукценьне, я ня п’ю, машына без тэхагляду, без працоўных габарытаў і чырвоных стопаў, адна фара ледзь гарыць... калі які даішнік — гамон.

На задніх месцах Юлю й Ш. на гэта напляваць, і нас спыняюць перад уездам у горад, я кідаю машыну на супрацьлеглым баку ўзбочыны, сам накіроўваюся да даішнай машыны, будуючы ў галаве праўдзівую прамову, чаму аўто ў такім храновым стане...

- Разумееце, лейтэнант, я на гэтай машыне ня езджу, але сёньня ў сябра памерла бабуля ў Жодзіне, ён быў такі сумны, скрушны, я вырашыў рызыкнуць, адвезьці яго, цяпер вось з пахаваньня дамоў едзем, я ж, вы бачыце, ня піў.

Я лапачу без супыну, даішнік разам з таварышам, які сядзіць на заднім месцы, хістаюць галовамі, нібыта разумеючы, і нарэшце яны вырашаюць, што справа сапраўды вартая таго, каб рызыкнуць і заплюшчыць вочы на штраф, а таму "я мушу аплаціць толькі дзесяць адсоткаў"... кажа лейтэнант і пазірае на мяне, напэўна, у яго самога хтосьці са сваякоў нядаўна памёр.

І тут раптам на ягоных вачах дзьверы маёй машыны адчыняюцца ў розныя бакі, і дзьве цалкам п’яныя пачвары выпаўзаюць з салёна й пачынаюць ссаць на дарогу, на колы машыны, адначасова трымаючы ў зубох запаленыя цыгарэты — у адной руцэ пэніс, у другой па бутэльцы шампанскага. Я так і самлеў у даішнай машыне, дупаю адчуў, як пот прасачыўся скрозь поры па ўсёй скуры.

"Казёл ты, Юля, — нэндзіў я, — столькі грошай адваліць на штраф! Добра, што вас яшчэ не забралі на пятнаццаць сутак!" Я зноў сядзеў за стырном і вёз усіх дамоў, у салёне аўто было ціха й самотна, усе палілі, і толькі я час ад часу паўтараў сваю скаргу: "Казёл ты, Юля, столькі грошай адваліць на штраф! Добра што вас яшчэ не забралі на пятнаццаць сутак!"

Пасьля падзеяў з намётамі Юлю затрымалі з рэцэптам, на які ён у начной аптэцы хацеў набыць сэдатыўных пігулак... Мужчыны ў штацкім на такіх менавіта ноччу каля аптэкі й палююць... Юля вырашыў, каб пазбавіцца "хіміі", легчы ў "Навінкі", бо тэрміны даўнасьці па артыкуле заканчваліся праз два месяцы. Мне засталося глядзець за яго кватэрай, гэта значыцца

# КАШПІРОЎСКІ

"Глядзіце мне проста ў вочы. Вашае жыцьцё мяняецца. Вы адпускаеце ўвесь боль, які быў з вамі", — Кашпіроўскі глядзеў зь нязграбнага пукатага тэлевізара, які перадаваў выяву шматлікай колькасьцю маленечкіх каляровых квадратаў, чырвоных, зялёных і сініх. Кашпіроўскі не міргаў ужо пятнаццаць хвілін, яшчэ крыху — і мая бабуля больш ніколі ня вернецца. Кашпіроўскі зусім не міргае, ягоныя вейкі быццам прыклеіліся да броваў, яшчэ крыху — і ў яго цалкам высахнуць вочы й вочныя яблыкі павыпаўзаюць на шчокі.

"Пільна глядзіце мне ў вочы, вы расслабленыя, вы забыліся на ўсё гора й няшчасьці, іх больш не існуе", — і тут раптам мой малы брат штосьці пачынае мармытаць, гуляючыся з драўлянымі кубікамі, бабуля не вытрымлівае й спачатку шыкае на ўнука, які зусім не разумее, што адбываецца па тэлевізары, але ўжо праз хвіліну яна, як звычайна, усчыняе сварку:

— Што гэта такое! Як так магчыма, сьмерці маёй хочаце, перадачу адзіную — і тую не даюць глядзець, а Божачкі! — калі яна ўжо завялася, гэта як мінімум на гадзіну, абавязкова з моцнай лаянкаю ў бок маёй маці, спробы біцца з татам, а мы з братам назіраем за гэтым штодзённым тэрорам, за гэтымі нэрвовымі зрывамі, шызафрэнічнымі вар’яцтвамі.

Мама спачатку бярэ высокія ноты, але потым здаецца... Тата ўвогуле застаецца не пры справах, быццам бы нічога не адбываецца, а толькі падлівае сабе таннай гарэлкі на кухні, паглядаючы ў іншы стары тэлевізар, які стаіць на лядоўні, па ім якраз паказваюць модны амэрыканскі блокбастар...

— Панараджала дзяцей, то яны мне статуэткі б’юць, цудоўныя былі зайчыкі ў мяне, то не даюць глядзець майго Кашпіроўскага!!! Усе людзі як людзі, кватэры будуюць, пераязджаюць, а ты што, ужо дзесяць год на чарзе стаіш, жывеш у пакоі на дзевяць квадратных мэтраў з мужам і дзецьмі! Фу! Сорамна мусіць быць!!! — мая маці штосьці ёй адказвае, перапыняючы крык, але тая ня чуе: — А я насяру! Насяру на твае "немагчыма"! Я вунь усё змагла, непаваротлівая ты скаціна! Я ў твае гады трох дзяцей гадавала ва ўласнай кватэры!

Мы з братам стараемся сядзець як мага цішэй у зачыненым пакоі, мы навучаныя, што, калі голас павышаецца, нам трэба бяжаць з залі і ніякіх там тэлевізараў, абы толькі бабуля спыніла сваю лаянку, выпіла валяр’янкі, зачыніла залю й лягла спаць.

Сваркі, грэбаныя сваркі, бойкі, нянавісьць, брудныя словы, забруджаныя раты, вочы палаюць нянавісьцю — і ўсё гэта так несправядліва да маёй маці... Яна прыходзіць у наш пакой, плача, бацька ўсё яшчэ п’е на кухні й робіць выгляд, што нічога не адбываецца. Па тэлевізары ў залі Кашпіроўскі ўсё яшчэ спрабуе ўнушыць людзям постсавецкага асяродзьдзя, што ўсе мы шчасьлівыя і ў нас няма ніякіх праблем...

Грэбаная псыхадэлічная сям’я: дзядзька пастаянна крадзе й шыраецца, сядзіць-выходзіць, цётка — рэлігійная фанатка, сэктантка, у храмах замаўляе на маю маці малітвы, каб тая на яе не варажыла... бабуля — гэта абзац... бацька п’е й нават не жыве, так, існуе, недзе лётае ў прастрацыі. Маці цяжка працуе й кожны дзень па вечарох слухае лаянку і сваркі; яна плача, спрабуе прымусіць дзядзькаву "жанчыну" хаця б прыкрываць грудзі, калі яна напалову раскумараная выпаўзае з суседняга пакоя ў прыбіральню, ідзе ў адных майтках і ўся марудна-сонна чухаецца, яна заўсёды чухаецца, калі ўколатая...

І на фоне гэтай каляровай карціны маё дзяцінства было дзіўна вясёлым і радасным... Мы з братам хадзілі па нядзелях у баптысцкую царкву, слухалі біблейскія гісторыі, сьпявалі гімны, на каленях маліліся, бацька час ад часу таксама мовіў казані. Аднойчы ў царкве мы вельмі доўга маліліся. Я, укленчыўшы, усё чакаў і чакаў канца малітвы, а бацька, замест таго каб прасякнуцца зваротам да Бога, расплюшчваў вочы, бачыў, што я не малюся й вачыма лыпаю па

навакольлі, гаркаў на мяне, каб маліўся... А я, да ўсяго, яшчэ ніяк ня мог стрымацца і пачаў пукаць, ня надта гучна, але сьмярдзюча... Бацька ўжо нават не заплюшчваў вочы, ён толькі глядзеў на мяне, сувора глядзеў, пакуль усе астатнія прыхаджане, спраўна ўкленчыўшы, прасілі Бога пра тое-сёе... Пасьля гэтага я зразумеў, што рэлігія патрабуе толькі аднаго — маліцца з заплюшчанымі вачыма й ня пукаць падчас гэтай сьвятой таямніцы... Нядзельную школу я кінуў, і тут нават не дапамаглі ані Кашпіроўскі са сваімі "забудзьце ўсё кепскае, вы шчасьлівыя", ані маміны сьлёзы, якая на той час думала, што толькі баптысты паставяць мяне на правільную сьцежку ў жыцьці.

Жахліва ўсё гэта, неяк ня так, як мусіць быць у людзей, у чалавечых істотаў, і калі, здаецца, ніякіх параўнаньняў ужо больш не знайсьці, горш і быць ня можа, цётка мая ўзяла і ўладкавалася ў бюро пахаваньняў, маладая, прыгожая...

Усё было, але дзіўным чынам прайшло, мінула, адбылося... Цяпер у мяне ёсьць выдатны дзядзька, які займаецца рыбацтвам, сваім лецішчам, гадуе двух прыгожых сыноў, маіх братоў, маіх кузэнаў...

Усё мінае... Бабуля прабачаецца й шкадуе, што ў свае маладыя гады была такою неадэкватнаю...

Усё падаецца несапраўдным і марным, асабліва калі мінае столькі год і мы ўсе ўжо даўно жывем паасобку.

5.07.2012

Трэнчын. Pohoda

# БАЛЬНІЦЫ

Самае галоўнае для хлопчыка (да таго, як ён перасячэ мяжу ад дзяцінства да хлапецтва) — пасьпець перахварэць на паратыт: перанесьці, ператрываць так званую завушніцу. Гэта самае істотнае, бо калі пачынаеш хварэць у больш сталым узросьце, можаш сказаць сваім будучым дзецям "да пабачэньня". Паратыт — гэта апухлыя да неверагодных памераў сьлінныя залозы, падбародзьдзе нагадвае сьмешную пысу парсюка. Ня надта вясёлае ўскладненьне на твае спэрматазоіды, што пагражае твайму роду апухлымі яйкамі. Я захварэў на паратыт якраз у вёсцы ў бабулі, перадаў яго брату, кузэну й кузіне; карацей, усе былі радыя, што дзеці пасьпеюць перахварэць да патрэбнага ўзросту. Але ж на мой конт бацькі памыліліся. Вядома, што пры хваробе сэкс забаронены, але мне, дванаццацігадоваму, ён быў і непатрэбны. Вялікі відэамагнітафон "Электроніка", зьмешчаны на такім жа агромністым тэлевізары, паглынаў праз касэтапрыёмнік, які адчыняўся з рыпеньнем і помпаю, усе порнакасэты, якія меліся ў калекцыі мужа маёй другой цёткі, нават нягледзячы на тое, што яны спэцыяльна хаваліся ў пакункі з-пад іншых відэакасэт і забароненае відэа нават пісалася зьверху на старыя фільмы, дзесьці на сярэдзіну стужкі, каб дзіцёнак, уключыўшы, пабачыў спачатку фільм, які яму даўно ўжо нецікавы, і ня стаў працягваць прагляд.

Так, сэксу не было, але мастурбацыя мела месца... шмат мастурбацыі... і праз тры тыдні я ўжо ляжаў у лякарні зь левым яйкам... яго хацелі адрэзаць, каб захаваць правае. Мы не пагадзіліся, апухласьць зьнялі мазьзю Вішнеўскага, я папіў невядомыя пігулкі й праз два тыдні быў дома... а потым праз паўгода патрапіў з правым яйкам ужо ў інфэкцыйную бальніцу.

Да таго як у інфэкцыйку патрапіў я, там ужо два тыдні ляжаў Андрэй, мой сябра зь дзяцінства. Яго я спачатку пасьпеў заразіць паратытам, а потым ён, таксама зь яйкамі, трапіў у бокс, дзе ізалявана трымалі па адным падлетку.

Мне падабалася ляжаць у інфэкцыйным боксе: цішыня, самота, ежа праз акенца, пігулкі таксама, тры разы на дзень кварцаваньне памяшканьня... Я вельмі шмат чытаў, з музыкі слухаў цяжкі мэтал і кожную раніцу чакаў майго лекара, маладую прыгожую доктарку, якая ведала ўсе песьні гурта "Арыя". Яна акуратна мацала мае яйкі, сачыла за тым, як праходзіць працэс лячэньня. Пакуль яна глядзела маю апухласьць з правага боку, я пасьпяваў узбудзіцца, і як толькі яна мяне пакідала, я, помнячы яе дакрананьні, прыгожы рот і вочы, сакавітыя вусны, якія танютка пасьміхаліся, бег у прыбіральню і амаль адразу канчаў, не пасьпеўшы пачаць.

У інфэкцыйнай бальніцы я быў самы кепскі па паводзінах. Я сьцізорыкам адчыняў акно, вылазіў вонкі, адчыняў боксы іншым хворым юнакам і дзяўчатам, і мы сядзелі па вечарох на вуліцы, пілі піва, шампанскае, гарэлку, карацей, усё тое, што нам прыносілі нашыя сябры. Усе, каго я адчыняў, хварэлі на розныя небясьпечныя захворваньні, якія перадаваліся паветрана-кропельным шляхам. Я нават адчыніў і напаіў чорнага хлопчыка з Ганалулу, які хварэў на нейкую экзатычную хваробу, якая на слых гучала, як містычнае заклінаньне.

Больш за ўсё мне падабалася адчыняць сваю суседку Марыю, якой было ўжо пятнаццаць, і яна праз колькі месяцаў мусіла ўжо па ўсіх правілах ляжаць у дарослай бальніцы. Яна была пякельная, сэксуальная і вельмі дарослая. Любіла мяне па-сяброўску цалаваць і ўдзячна абдымаць за волю, хоць і кароткачасовую, і, вядома, за тыя алькагольныя напоі, што я ёй шчыра прыносіў. Рамантыка, хворая інфэкцыйная рамантыка. Днямі я сноўдаў вакол бальніцы і, начытаны энцыкляпэдыі па біялёгіі, зьбіраў кузюрак і кветкі, шукаў чарвякоў і глядзеў на лічынак... а па вечарох ператвараўся ў злоснага шкодніка.

Мяне празь месяц выпісалі, але да гэтага ў нашай кампаніі адбыліся дзьве вялікія падзеі.

Аднойчы ноччу я, хлопец, які хварэў на вятранку, і Марыя выправіліся ў мясцовы морг.

Цемра, ясна, зоркі зьзяюць, як маленькія сонечныя пацеркі, мы паўзем маруднаю хадою праз змрочныя будыніны боксаў... Нарэшце трапляем да жаданага месца. Аднапавярховы дом з чырвонай цэглы зачынены, вокны — матавыя, але адно акно толькі да паловы матавае — верх празрысты, таму мы, падсаджваючы адно аднаго, зазіраем па чарзе... І нічога, нічога такога, каб уразіцца: мэталічны стол халодна блішчыць, крывасьцёкі чыстыя, вакол пануе пакой і стэрыльнасьць, кафля на сьценах бліскучая, у цемры падаецца сіняй, падлога цёмная, амаль чорная, але ўдалечыні я заўважаю халадзільныя камэры для мерцьвякоў... Тут раптам Марыя ўскрыквае, пабачыла дзесьці сьвятло: напэўна, вартаўнік ідзе.

Ліхаманкавы бег, мае паплечнікі па "начной справе" вельмі лёгка й хутка кінуліся наўцёкі, я ня быў такім хуткім, таму, вагаючыся, я на ўдачу пабег да найбліжэйшых дзьвярэй, якія мог пабачыць у цемры.

Я бег нядоўга, пакуль выпадкова не натыкнуўся на дзьверы, якія нават не адчыніліся, а праглынулі мяне, быццам ня я шукаў паратунку, а яны, дзьверы, шукалі мяне... Праглынуты, як Іёна, я апынуўся перад лесьвіцай, што вяла ўніз і, нават ня думаючы, мацаючы сьценкі, асьветленыя аварыйным сьвятлом ад уваходу, пасьпяшаўся ўніз і яшчэ, і яшчэ... Здавалася, лесьвічных пралётаў тут — бясконцая колькасьць.

Я быў апрануты, як сапраўдны начны злодзей: чорная саколка, чорныя штаны, чорныя боты й чорная кепка, перавернутая брылём зь лягатыпам "Мэталікі" назад, якая хавала мае доўгія сьветлыя пасмы. Я спыніўся перад чорным калідорам, калі пачуў, як бразнулі тыя самыя дзьверы, што праглынулі мяне, і зразумеў: мяне бачылі. Гамон! Вырашана было бегчы ў чорны калідор; адзінае спадзяваньне, што мяне, апранутага ва ўсё чорнае, не заўважаць.

Я зрабіў каля пятнаццаці таропкіх крокаў, па дарозе натыкнуўшыся на нейкі ці то стол, ці то ложак. І адразу прысеў долу й скруціўся, схаваўшы твар у каленях, стаўшыся цалкам чорным.

Спачатку былі чутны дзіўныя гукі, як быццам хтосьці цяжка дыхае й скрыпіць, кульгае, рыпіць і цяжка й гучна хрыпіць... крррп, крррп, скрыып, рррып, кррп... Гукі набліжаліся, рыпеньне станавілася гучней, дыханьне мацней і быццам бы марудней...

Раптам мяне ўсяго спрэс працяла невыносна белае сьвятло і адразу рэзка згасла, пачулася ррррыыыпеньне, і сьвятло зноў запалілася, потым скрып сьціх і сьвятло згасла, потым цяжкі ўздых — і зноў рыпеньне, і запалілася сьвятло. Я адчуў усім сваім целам, як хтосьці падышоў да мяне настолькі блізка, што зрабі ён яшчэ крок — спатыкнецца аб мяне...

Я вырашыўся на адчайны крок і крыху падняў галаву. Нада мною ўзвышаўся тоўсты, мажны мужчына, каля пяцідзесяці год, з трайным падбародзьдзем, у сіняй кашулі, пранятай потам. У ягоных руках была дзіўная прылада, падобная да вялікага ліхтара; збоку ён гэтую прыладу з рыпеньнем круціў, ліхтар загараўся роўна на лічаныя сэкунды і згасаў, пакуль новае скавытаньне спружыны й мэталічнай ручкі не запалялі яго. Вартаўнік мяне ня ўбачыў і, затрымаўшыся яшчэ колькі часу, марудна пайшоў назад. Я пстрыкнуў запальнічкай і заўважыў, што апынуўся на складзе, на якім месьціліся каробкі зь лекамі, мазямі, пігулкамі, сыропамі, з усімі тымі фармацэўтычнымі рэчамі, якія ня трэба было трымаць у халадзільных камэрах. На той час я дакладна ведаў пра існаваньне дымедролу і штосьці чытаў пра сыропы ад кашлю, таму зразумела, што менавіта я там адшукаў і з чым патрапіў у свой бокс, не падзяліўшыся ані з кім, пакрыўджаны ці то на тое, што ўсе зьбеглі безь мяне, ці то на тое, што марудзіў сам.

Рэшткі ночы завяршыліся самотным спатканьнем з дымедролам, а прачнуўся я якраз на агляд. У роце быў вельмі гідкі прысмак лекаў, якія мне а шостай раніцы ў рот паклала мэдсястра, не дабудзіўшыся. Я напіўся вады з-пад крана, пасьпеў пачысьціць зубы, памыць чэлес, праверыць на яйках бінты з мазьзю, як адразу ўвайшла мая любімая доктарка, і я пасьпяшаўся без прапановаў на ложак, скінуўшы штаны й майткі. Мяккія, шаўковыя дакрананьні рук гэтай чароўнай жанчыны-дзяўчыны-доктаркі, якая ведае ўсе песьні рок-гурта "Арыя", толькі мяккія

дакрананьні...

Якім чынам было вырашана мяне з бокса перакласьці да хлопца, які хварэў на тую ж хваробу, падалей ад свайго атачэньня, бліжэй да каманды вельмі суворых мэдсёстраў? Якім чынам было так вырашана?! Вось якім.

Быў вечар, як звычайна мы сядзелі каля сваіх боксаў на вуліцы, вокны лёгка пагойдваліся пад летнім ветрам. Марыя, закінуўшы ногі на парэнчы, паліла, я наліваў віно. З намі быў той самы чорны хлопец, яшчэ адно маленькае дзяўчо, маленькае, але дужа ганарыстае й панкаватае: у свае адзінаццаць выдатна пускала цыгарэтным дымам колцы і піла партвэйн з бутэлькі. Ад кагосьці зь дзяцей у далёкіх боксах запозна вяртаўся п’яны мужчына. Ён ішоў і глядзеў сабе пад ногі, пакуль не пачуў залівісты сьмех Марыі, падняў вочы й пабачыў, што на другім паверсе сядзяць расчырванелыя падлеткі, п’юць віно й нахабна паляць.

— Здароў, а чаго гэта вы тут, ня ў боксах? — запытаўся мужчына.

— А табе якая справа?! — злосна адказала Марыя й жорстка паглядзела зьверху ўніз.

— Да ладна табе, малая, чаго ты такая злосная?! Хочаш гарэлкі? — мужчына паспрабаваў усьміхнуцца, але атрымалася толькі расьцягнуць вусны.

— А давай! — адказала Марыя.

— А давай! — адказаў я.

— А давай, — адказаў чорны хлопец і дадаў: — Тут у плоце недалёка ёсьць нашая самаробная лесьвіца, падымешся па ёй!

Мужчына вярнуўся, прынёс гарэлку, і тут пачалося: за паўгадзіны мы ўсе былі неверагодна п’янымі. Я, каб не ванітаваць на людзях, пралез у сваё акно й зьнік у прыбіральні, загадзіўшы ўсё навокал, і паснуў, абдымаючы ўнітаз.

Прачнуўся, як звычайна, з напаўраспушчанымі шасьцігадзіннымі ранішнімі пігулкамі ў роце, якія паклала мне мэдсястра, не дабудзіўшыся... Лячэньне... яно такое...

Я пасьпеў толькі падняцца й выйсьці вонкі ў пакой, калі з грукатам і пад крыкі мэдсястры "Заходзіць у інфэкцыйныя боксы забаронена!" уварваўся міліцыянэр.

Марыя была згвалтаваная. Знайшоў яе непадалёк ад бальніцы нейкі хлопец, які раніцою выгульваў сабаку ў суседнім парку. Марыя ціхенька спала на лаўцы аголеная... Другая дзяўчына, малая, тая самая аматарка партвэйну, у шоку сядзіць у сваім боксе, нікога не пускае, нічога не распавядае. Дзе чорны хлопец з Ганалулу — невядома...

Са мною яшчэ нармальна абышліся, перавёўшы да суседа й памяняўшы мне мэдсёстраў, якія цяпер мусілі пільнаваць мяне кожныя паўгадзіны, а мая доктарка больш ня мацала мой чэлес зь яйкамі, яна толькі прасіла апусьціць майткі й здалёк аглядала. Дзякуючы ёй мяне ўсё-ткі далячылі да самага канца.

Усе лячэньні-намаганьні скончыліся маім дзіўным трэцім падарожжам у бальніцу, я цяпер ужо быў фэномэнам... Дактары сказалі, што абодва прыдаткі апухлі й "ускладніліся" пад самы корань... Фэномэн! Дакладна — апэрацыя!

Трэцім разам я патрапіў у самае жахлівае аддзяленьне, і калі з суседняй палаты адносна малады мужчына трапіў у рэанімацыю, якому праз гангрэну спачатку ампутавалі ногі па лыткі, потым па калені, потым па сцёгны, а потым ампутаваць ужо не было чаго, ён пакутаваў, гадзіў пад сябе страшэнна, з такім гнойна-мярцьвяцкім пахам, што не трываў увесь паверх, гэта нагадвала сьмерць, і ўсе яе баяліся. Мэдсёстры ня мелі сілы ані падняць гэтага хворага мужчыну, ані зварухнуць яго. Яны абышлі ўсіх пацыентаў, якія маглі трымацца на нагах, але ніхто не згадзіўся дапамагчы адвезьці хворага ў аддзяленьне рэанімацыі, бо гэта быў жах. Мужчына разумеў, што яму канец, але ніяк не хацеў суцішыцца: ён скідваў зь сябе прасьціны й усе бачылі гэтыя ампутацыі, гэтую засохлую кроў з гноем, гэтае гаўно й ссакі. Ніхто гэтага не трываў, ніхто ня мог гэта бачыць.

Я падышоў і, спачатку апэцкаўшыся, але здужаўшы, перанёс разам са старшай мэдсястрою гэтае пакутлівае сутаргавае цела на насілкі, і мужчыну адвезьлі ў рэанімацыю. Праз тры гадзіны ён памёр, і я бачыў яго сям’ю, вялікую сям’ю, якая сядзела ў залі наведнікаў і плакала ўсеагульнымі сьлязьмі канчатковай страты... Той ноччу я моцна плакаў, калі ўсе суседзі па палаце глядзелі на маленькім тэлевізары "Чырвоную сьпякоту" каторы раз запар. Адвярнуўшыся да зялёнай сьцяны зь сінімі лушпінамі ад старой фарбы, з пракалупанымі пазногцямі крэйдавымі ямкамі, я плакаў і быў гатовы плакаць аж да самай раніцы, пакуль ня зьнікне пах памерлага мужчыны з маёй бальнічнай кашулі.

Праз колькі год мяне зноў чакала бальніца, але ўжо па іншай справе — апухлі міндаліны. Жах: гаварыць і есьці немагчыма, горла быццам напампавана бітым шклом і кожным разам, калі я намагаюся зглынуць сьліну, гнойныя міндаліны аддаюцца дзікім болем па ўсёй галаве... Аддзяленьне, у якое я патрапіў, аб’ядноўвала хворых на пакутлівыя болі ў горле, таму ўсім нам, няшчасным, давалі па тры разы на дзень дымэдрол, каб мы спалі й папраўляліся. Ніхто з маіх у палаце ня піў дымэдрол, лічачы яго занадта санлівым, але мне гэта было толькі на руку: штодзень кожны з маіх суседзяў па палаце тройчы падыходзіў да мяне й прыносіў пігулкі, якія я спраўна зьбіраў у пакет, чакаючы выпіскі і шчасьлівых дзён разам зь Юлем, півам і дымедролам. Радавацца жыцьцю мне заміналі толькі міндаліны, якія кожную раніцу па-фашыстоўску разьдзіралі мэдсёстры. Перавязачны габінэт, я разяўляю рот, каб прапусьціць да налітых гноем міндалінаў, мэдсястра засоўвае ў рот спэцыяльныя нажніцы, якія на канцах вострыя й расплюшчаныя, як лапаткі, гэтымі канцамі яна пратыкае міндаліну й рассоўвае нажніцы, атрымліваецца жорсткі звышпакутлівы разрыў, і гной цячэ ў глотку, я плачу, крычу, мне моташна, але трэба ўжоісьці паласкаць рот вадкасьцю, жоўтай, салёнаю, якая на смак нагадвае мачу. Палашчу горла, выплёўваю жоўта-чырвоную вадкасьць з карычневымі мутнымі кавалачкамі... Лягчэй не становіцца, іду ў палату, п’ю дымэдрол... засынаю...

Доктар прапанавала адрэзаць міндаліны, бо інакш яны мяне будуць часта турбаваць, але я адмовіўся, бо зьнікненьне міндалінаў магло паўплываць на імунітэт. Так і жыву зь імі, маімі даражэнькімі фашыстамі, якія аднойчы катавалі мяне два тыдні.

Усе мае бальніцы заўсёды ўспрымаліся мною лёгка, так бы мовіць — аптымістычна, бо першым, праз што я прайшоў адзінаццацігадовым, была дзіцячая псыханэўралёгія. Ейны будынак трымаў вельмі дзіўных дзяцей і падлеткаў, якія раніцамі ішлі ў сталоўку сьнедаць, і палова не даходзіла: нехта падаў непрытомны, нехта — спаралюшаны, таму падлога па дарозе ў сталоўку была выкладзеная старым сьмярдзючым дывановым пакрыцьцём карычневага й чырвонага колераў. Пацыенты былі дзіўныя і разнастайныя: хтосьці быў нэўротыкам, хтосьці — зь цягаю да суіцыду, хтосьці проста ляжаў у куце й не варушыўся, а хтосьці быў дзікім шызафрэнікам і падчас прыступаў хаваўся пад ложак і суткі там спаў... Буйных не было, іх трымалі на паверсе вышэй. У мяне прыступ быў такі: я пачынаў бачыць, як увесь сьвет рэзка зьмяншаецца ў памерах і таксама вельмі імкліва павялічваецца — я, быццам Гулівэр, падарожнічаў па прасторы, але вельмі хутка й па-вар’яцку. Зьнешне падчас прыступу я выглядаў жудасна, мяне працінаў паралюш, я мроіў, містычна штосьці бачыў, я гаварыў нязьвязныя словы, маці вельмі пужалася й плакала.

Я акрыяў, пабыў на стацыянары тры гады й мяне выпісалі. Толькі калі я спрабаваў прайсьці мэдагляд ва ўнівэрсытэт, у паліклініцы выплыла на паверхню мая старая хвароба. З такім дыягназам забаронена кіраваць машынаю, нават калі зьняты са стацыянару. Дактары да гэтага часу ня ведаюць, ці вяртаюцца такія рэчы, як у мяне (запаленьне крывяносных сасудаў левай скроні), ці зьнікаюць назаўжды. Мне асабіста дапамаглі дзесяць даляраў, каб пазбавіцца ў маёй на той час яшчэ дзіцячай мэдычнай картцы запісаў аб хваробе, а праз паўгады я ўжо меў новую мэдкнігу зь перапісанымі са старой аналізамі, прышчэпкамі й хваробамі. Не хапала толькі

аднаго пункту, але гэта ўжо было не істотна: я пераступіў мяжу юнацтва й пачынаў жыць дарослым.

6.07.2012
Трэнчын. Pohoda

# ІНШЫ СЬВЕТ РОБІЦЦА БЛІЖЭЙШЫМ

— Я — Гераня Латураў, і іншы сьвет з кожным днём робіцца для мяне бліжэйшым. Я шмат п’ю, мацюкаюся... Зьбіраю кнігі, захапляюся матылькамі і калекцыяную паштоўкі... Сёньня я вырашыў распавесьці пра тое, з чым я сутыкаюся зь дзяцінства.

Калі мне было чатыры, да мяне на Новы год прыходзіў Дзед Мароз. Завітаў і пытаецца:

— Як цябе клічуць?

— Э-э-э, — засаромеўшыся і апусьціўшы галаву, гляджу на свае ногі.

— Добра, тады скажы, колькі табе год?

— Амаль чатыры!

— Вялікі ўжо....

Паўза. Нешта кажа бацьку. Пасьля паварочваецца ў мой бок.

— Я — Дзед Мароз, я табе падарункі прынёс! Толькі ты мусіш прасьпяваць мне песеньку!

Божа мой, якую яму песеньку сьпяваць!? Я ня тое што песенькі, я нават загадкі і вершыкі запамінаю цяжка, а тут песеньку цалкам!

— Я нічога ня ведаю! — адказваю я і бокам пасоўваюся да сьценкі, як быццам яна мяне можа выратаваць.

— Ну, тады верш!

— Сынок, памятаеш, што мы з табою вучылі? — падыходзіць да мяне маці, яна як заўсёды прамяністая і бясконца добрая, ласкава абдымае мяне за плечы.

— Наша Таня громка плача, пацерала ў рэчцы мячык (паўза)... цішэ, Танечка, не плач... — на гэтым я спыняюся, бо ня памятаю працяг, шморгаю носам і рыхтуюся плакаць, цьвёрда ўпэўнены, што за частку вершыка не атрымаю падарунка. Я стаю з саплямі ў носе і чакаю прысуду.

Я тады лічыў, што Дзед Мароз — зь іншага сьвету, бо мама казала, што ён не існуе. Але тады я атрымаў ад яго падарунак — грузавік МАЗ. "Гэта мая любімая цацка", — вырашаю я ў адно імгненьне яе лёс.

Мне падавалася, што Дзед Мароз не існуе, як і Мікі Маўс і мой кумір Віня Пых, але пазьней я вырашыў для сябе, што менавіта ён быў маім першым госьцем зь іншага сьвету.

Я стаяў на сваім ложку, абапёршыся рукой на балконную шыбу, і глядзеў у акно на вуліцу і на пухнаты сьнег. Я разважаў: "Як гэта можа быць, што да мяне прыходзіў чалавек, якога няма?"

Я ўсё яшчэ стаяў на сваім ложку, на вуліцы нікога не было, і толькі сабака блукаў цёмнай плямкай па двары, парушаючы роўнядзь сьнегу адбіткамі трох лапак, таму што заднюю, чацвёртую, ён намагаўся прыціскаць да цела.

З таго дня навагоднія тыдні сталі для мяне чароўнымі, і я доўга верыў у тое, што Дзед Мароз прыходзіць зь неба і прыносіць падарункі, што калі загадваць жаданьні ў гэтыя дні, яны абавязкова зьдзейсьняцца.

Мне было каля сямі, калі я ўсіх спалохаў воклічам: "Мама, дзед Вікенцій!" Крычу і паказваю на бальконныя дзьверы. Усе былі шакаваныя, бо я ніколі ня бачыў яго. Тым больш, што ён некалькі месяцаў таму згарэў ва ўласнай хаце. Гэта было ўвосень, тады мама вярнулася дадому змрочная і заплаканая. Прыехала і адразу паваліліся ўсім целам на канапу ў кухні, ляжыць, плача, а я побач, на падлозе, ціхамірна гуляю з грузавіком. Я разумею, што маме зараз вельмі кепска, але не магу альбо не жадаю падыходзіць да яе, не жадаю яе супакоіць, падтрымаць. Я

проста раблю выгляд, што вельмі заняты гульнёй з машынкай і мне ні да чаго няма справы. А праз пару тыдняў я ўбачыў дзеда Вікенція на нашым бальконе. З таго моманту ён неаднаразова прыходзіў да мяне ў снах або ва ўспамінах і цёпла ўсьміхаўся! У гэтым ёсьць нейкая містыка, і гэта стала яшчэ больш загадкавым, калі я, дарослы, неяк натрапіў на фотаздымак дзеда Вікенція і зразумеў, што менавіта яго зь дзяцінства і бачу!

І цяпер засталася толькі яна — мая самая частая госьця ў снах і думках. Мая бабуля. Яна памерла празь дзесяць дзён пасьля маіх ...наццатых народзінаў. Я памятаю, тады я быў дома зь сябрам і зазваніў мабільны. Я ўзяў яго ў рукі, гляджу — вельмі доўгі і цьмяна знаёмы нумар тэлефона. Кажу "ало", чую голас дзядулі, ён ціха так, змрочна і адначасова вельмі жаласна гаворыць: "Бабуля памерла... Дзе маці? Бабуля памерла!" У мяне цямнее ў вачах, ня памятаю, што я яму сказаў, але праз хвіліну тэлефон ужо ляжаў на пісьмовым стале. Я, зьвярнуўшыся да сябра, які абыякава паліў і мэтадычна пераключаў каналы, зь першага і па парадку да апошняга, распавёў пра трагедыю, жахлівую навіну і задыхаў глыбока і нэрвова. Ад кіслароду, адрэналіну і частага сэрцабіцьця мне стала блага, я ледзьве стрымліваў сьлёзы.

Празь некаторы час адчыніліся ўваходныя дзьверы і на парозе апынуліся бацькі. Я адразу выпальваю пра сьмерць бабулі. Усе пачынаюць зьбірацца ў дарогу, на пахаваньне. Маці плача, бацька маўчыць...

У галаве круціцца ўспамін пра тое, што яшчэ ўчора я гаварыў зь ёй па тэлефоне і яна, як заўсёды, пыталася, калі ж я прыеду, бо я ня быў у яе ўжо некалькі гадоў! Я ёй рэзка адказаў, што я працую, я вучуся, мне не да гэтага! Мая бабуля вельмі мяне любіла, мне нават падавалася, што ў іх з маці было свайго роду суперніцтва, хто мацней мяне любіць. Бабуля кожным разам, як тэлефанавала, нязьменна задавала адно і тое ж пытаньне: "Ты мяне любіш?", "Мг" або "Ну так" — быў мой стандартны адказ. Гэтае пытаньне кожны раз выклікала ў мяне пачуцьцё сарамлівасьці, ня ведаю, чаму, але мне было і прыкра, і сорамна адначасова. І цяпер, калі яна памерла, маё цела трэсла ад гора, бо гэта я некалькі гадоў да яе не прыязджаў, не гаварыў зь ёю нармальна па тэлефоне! А яна, мая бабуля, самая блізкая і сапраўдная бабуля, памерла, і невядома ад чаго, ад сьпіртнога або ад рака грудзей, які ёй выразалі яшчэ шэсьць гадоў таму. Яе больш няма, той бабулі, якая вельмі моцна мяне любіла і лічыла сваім сынам.

Як бывае цяжка і крыўдна за гэты юнацкі максымалізм, гэтую дзікасьць і адасобленасьць ад людзей, якія цябе любяць!

Цяпер я з бабуляй маю зносіны часьцей, чым тады, цяпер я часта пра яе думаю, і, сустракаючыся зь ёю ў снах, я паўтараю: "Бабуля, любімая бабуля! Я да цябе абавязкова прыеду, я абавязкова цябе наведаю! Прыязджай і ты да нас, бабуля! Я цябе люблю!"

Я — Гераня Латураў, і я хацеў бы жыць у іншым сьвеце...

3 — 10.03.2010<br>Менск

# КОЛЬКІ СЛОВАЎ ПРА ЯЕ

Сіні і чырвоны, два маленькія плястылінавыя кубікі губляюць сваю квадратную форму, расьцякаюцца, як тлушч на патэльні, на распаленай калодзежнай страсе. Сонца няўмольна пячэ. Ты катаеш гарачы плястылін у ручках, ён астывае і прыліпае да пальчыкаў, непрыемнае адчуваньне толькі напачатку, але калі ён становіцца амаль халодным, то яго гнуткасьць і цягучасьць становяцца меншымі. Ты любіш гуляцца з плястылінам, хоць за гэта і сварыцца бабуля, што, маўляў, саколка ўся ў тлустых плямах. Але хіба цябе гэта хвалюе?

Сіні і чырвоны колеры зьмяшаліся ў адну брудна-фіялетавую масу. Ты глядзіш, як яна ляжыць у цябе на далонях. Фу, зараз атрымалася гадасьць нейкая! Ты паварочваешся ўбок хаты, і маленькія ножкі зь дзіцячай лёгкасьцю і непасрэднасьцю нясуць цябе на пошукі невядомага... і раптам ты спатыкаешся аб сабаку, які ляжыць у трох мэтрах ад ганку. Ты клічаш бабулю. Яна прыходзіць і зьдзіўлена хітае галавой, маўляў, і чаго гэта наш зусім малады сабака здох? Ты налічваеш на левым баку мёртвага Тобіка ажно зь дзясятак зялёных люцылій, сярод якіх, самотна склаўшы крылцы, як быццам далонькі ў малітве, яркай плямкай сядзіць білан, выдатны матылёк, які сваёю постацьцю адбівае навакольле.

Ты плачаш, табе шкада сабачку, асабліва калі дзядуля, абыякава ўзяўшы яго за заднюю лапу, валачэ цела на сьметнік...

Гэты мёртвы сабака з самага дзяцінства будзе перасьледаваць цябе ў снах і ў кожнай новай мёртвай жывёліне нагадваць пра тагасьветнае існаваньне.

Ты прачынаешся, запальваеш, вылазіш з ложка, гультаявата паўзеш рабіць каву, на гадзіньніку чатыры, дзень амаль прайшоў.

Думкі зьбіраюцца з розных кавалкаў у адзін вялікі камяк падобны да плястыліну. Ты ўзгадваеш яе. Тую самую. Яна нават у моманты тваіх ілюзорных каханьняў сумнеўных сяброўстваў уласных вар’яцтваў заўсёды надавала моцы жыць існаваць. Ты так і ня выканаў ні аднаго абяцаньня дадзенага ёй. Маленькае худзенькае цела вялікія вочы і фрызура нагадваюць японскае анімэ. Сябар знаёміць цябе зь дзяўчынай. Ты глядзіш на яе і адчуваеш як сэрца ўтульна хутаецца ў цяпло. Цябе чалавека неверагодна бурлівага жыцьця жыцьця на мяжы і толькі на мяжы адольвае сэнтымэнтальнасьць і самае дзіўнае ты гэтаму не толькі не супраціўляешся але і рады. Табе становіцца вельмі лёгка дыхаць і ты разглядаеш яе малочную скуру вачыма кранаючы яе валасы ты адчуваеш яе пах гэты асаблівы водар які будзе перасьледаваць усё жыцьцё. Гэты пах будзе здавацца за вугламі дамоў у розных месцах зямлі... Гэты яе водар... Гэты незвычайны чалавек разбурыць твой ілюзорны патасны сусьвет. Цябе запаліла жаданьне схапіць яе і моцна абдымаючы ніколі не адпускаць і ўсё гэта адбылося яшчэ да таго як рэчы былі названыя да таго як сам бар’ер паміж вамі быў разбураны фармальным абменам інфармацыяй у выглядзе назвы сваіх імёнаў. Была зіма але ў вечар вашага знаёмства лёгкая адліга. Мокрага сьнегу было шмат ён ляжаў на вуліцы шэры і брудны як алькаголік. Вы ўтрох накіраваліся ў выпадковы рэстаран таму што любімая кавярня была запоўненая чалавечымі целамі. Холадна волка вакол адзін сьнег яшчэ толькі дванаццаць а падаецца што тры ночы. Узімку складана адчуваць час. Ты сядзіш побач зь ёю на лаве абсыпанай мармуровымі плямкамі але вам усё адно дзе і на чым сядзець. Ты ў доўгім паліто яна ў доўгай куртцы. Піва ўжо перастала грэць алькаголь паступова выпарыўся...

Слухай а ў цябе ногі ня змоклі пытаешся ты гледзячы на яе балеткі відавочна апранутыя не па сэзоне.

Мокра адказвае яна і вымаўляе гэта неяк ня так як гавораць усе вакол а па-свойму ты потым яшчэ доўга будзеш прывыкаць да яе спэцыфічнай манэры размаўляць.

Давай памяняемся шкарпэткамі.

Не ня трэба яе вочы з падзякай глядзяць на цябе.

Яна такая тонкая і загадкавая такая каханая і любая відавочна не належала гэтаму зласьлівага і абсурднага сьвету. Факт быў наяўны як аксіёма.

Мы ішлі пехатою ад самай кавярні у цябе відаць сапраўды мокрыя ногі гэта нават не абмяркоўваецца ты настаяў.

Вы разбуліся ты зьняў са сваіх ног карычневыя шкарпэткі з ангельскімі ромбамі цёплыя і сухія яна свае белыя з чорнай і чырвонай палоскамі мокрыя як усё навокал. Дзеля яе ты гатовы быў на любыя ахвяры ў гэтым сьвеце нават на ахвярапрынашэньні і праз хвіліну ты сядзеў побач у ейных наскрозь мокрых шкарпэтках. А праз гадзіну вы былі ў яе пакоі ў інтэрнаце. Вы ўдала прабраліся нікім не заўважаныя і заваліліся на ложак. Яе суседкі не было — неверагодна пашчасьціла. Вы размаўлялі да самай раніцы пілі піва і гарачую гарбату з сушкамі і толькі напачатку дня паклаліся спаць. Заснулі вельмі хутка. Табе было п’яна і добра. Ёй цёпла. Яна была падобная пэўна ад холаду да маленькай сіняй птушачкі. Потым вы пачалі жыць разам і звычайныя дыялогі перад сном былі кшталту:

— Пачытай мне, калі ласка...

— Хочаш услых працяг "Дон Кіхота"?

— Так.

— А можа, лепш казкі Уліцкай?

— Так.

— А можа, "Маленькага прынца"?

— Так.

— А! Дарэчы, давай тады Віяна дачытаем!

— Так!

— "Так" на што менавіта, на якую кнігу?

— На якую гавару, значыць і "так"!

— Ок, згодны...

Празь некалькі хвілін яна скруціўшыся ў клубочак як кацяня засынала ў цябе пад пахай. Ты дачытваў чарговае апавяданьне Букоўскі... Дзень скончаны дыялог таксама. А потым калі яна зьехала назусім яна неяк патэлефанавала... Яна тады была ў гасьцях у бацькоў. Вы пра многае так і не змаглі пагутарыць занадта шмат хацелася сказаць занадта шмат чаго адбылося вы доўга слухалі дыханьне адно аднаго і толькі потым ты спытаў яе пра шкарпэткі апынулася што яе-твае шкарпэткі хутка працерліся і на памяць засталіся толькі гумкі а твае-яе шкарпэткі дагэтуль цэлыя. Ты пытаешся ў яе: "Чаму так несправядліва ўсё ў жыцьці?" Ты пытаешся ў яе чаму яна не захацела застацца ў гэтым горадзе. Яна кажа што ня ўсё залежыць ад яе. Ты моцна сьціскаеш слухаўку і калі чуеш доўгія гудкі б’еш яе аб сьцяну вочы запаўняюцца сьлязьмі адчаю лёгкія балюча сьціскаюцца... Самае прыемнае ў жыцьці гэта ўмець гарманічна разам маўчаць чуючы адно аднаго зусім у іншым сьветаўспрыманьні ўмець жыць у іншым вымярэньні. Яна падаравала табе пачуцьцё неабходнасьці і адказнасьці. Ты побач зь ёю адчуў сябе мужчынам і менавіта яна зрабіла галоўнае — дапамагла табе зразумець што ты моцны і ў тваіх руках цэлы сьвет і што тваё прызначэньне быць для яе абаронай. Але яна гэтага ўжо не пабачыла. Больш за ўсё ты любіў як яна крыўлялася. Яна рабіла гэта прафэсійна і што асабліва прыемна гэта выглядала ня проста прыгожа ці сьмешна а чароўна. Раней ты наогул шмат што ў ёй не заўважаў і дагэтуль думаеш як яна здолела распазнаць у табе такім адасобленым ад грамадзтва чалавеку каханага і адзінага. Ты неяк паехаў да яе ў госьці. Гэта было дзіўна ты ўбачыў унікальныя месцы

яе дзяцінства. Вучэльня... Базіліка... Драўляныя хаткі... Бедныя хаткі... Катэджы... Хаткі-скрынкі... Самотныя хаткі... Масты... Ходнікі... Крамы... Дамы... Ты атрымліваў асалоду ад архітэктуры прыроды і ад яе хоць гэта і было ўзімку і холад са сьнегам псавалі краявід і настрой але ўсё адно там было выдатна... зь ёю... каля яе... Тады ты ўпершыню паверыў ва ўнікальнасьць і сілу гарадоў ты адчуў іх магутнасьць і гісторыю і менавіта тады ты пазнаёміўся зь яе карцінамі. Ты яшчэ хацеў адну карціну забраць сабе тую на якой быў космас чалавек і плянэты невядома ці правільна ты запомніў сюжэт. Сам дух карціны выходзіў у касьмічную прастору а чалавек намаляваны на ёй быў поўны смутку але ягоны погляд усё роўна быў з надзеяй можа на гэтыя плянэты вакол а можа і на сьвет у цэлым. Табе тады так хацелася каб такая ж надзея была і ў цябе. Гэты дзень у яе ў гасьцях запомніўся на ўсё жыцьцё і ежа якую яна гатавала і бутэлька віна... І ейныя шаўковыя малочныя рукі... Чорныя валасы... Вочы... Акно з пакоя вуліца ў акне і сьнег сьнег сьнег сьнег... Гэта пачуцьцё каханьня падзякі і маўчаньня — усё гэта засталося з табою ў тваім сэрцы. Пару разоў яна прыязджала да цябе і ты здымаў кватэру на суткі тады вы рабілі салаты з капусты і елі крабавыя палачкі запіваючы півам. А аднойчы атрымалася зьняць кватэру амаль пад самай Акадэміяй навук. Пад тым самым філіялам у якім ты потым падзарабляў і штораз калі праходзіў каля дому зазіраў у знаёмыя вокны як быццам мог яе ўбачыць... А потым яна не прыязджала цэлы год... За гэты год ты знайшоў кватэру ў новым мікрараёне і жыў сабе шчасьліва кожны дзень напяваючыся працуючы на кампутары чытаючы кнігі губляючы розум выходзячы ў адкрыты космас запрашаючы да сябе гасьцей зьмяняючы сталых ды маладых жанчын дзіўлюся як у тваім ложку яшчэ не апынуліся падлеткі і хлопцы. І тады калі ты ўжо мусіў зьехаць з гэтай кватэры прыехала яна а за ёю цэлы шэраг старых успамінаў і асацыяцый ад акустычнага альбому СПЛИН да фотаздымкаў на фотаапарат ФЭД-3 ты яе сустрэў і ўбачыў як яна зьмянілася. Яе вочы казалі пра нейкую ўнутраную журботнасьць і стрыманасьць ты глядзеў у іх і бачыў колькі ўсяго рознага вы абодва пражылі на адлегласьці. Яна стала больш спакойнай і ціхай менш усьміхалася. Ты разумеў што беспаваротна страціў яе. Ты разумеў як балюча і цяжка адбіўся на ёй гэты год як яна шчыра чакала сустрэчы і як гэта яе зламіла. Твая віна была ў тым што ты не паехаў за ёю. Абяцаў але не паехаў. Ты тады быў прывязаны да гэтых мясьцін як зрэшты і цяпер... Перад табою стаіць яна і ты ўжо ня ведаеш што рабіць. Тваё асабістае "я" засталося тут і яно дагэтуль ня ведае які якар і які баляст трымае яго ў дадзеным горадзе замінае нарэшце ўсё кінуць і паехаць за ёю зрабіць тое што мусіў зрабіць! Людзі мяняюцца па-рознаму ніхто ня ведае як ты можаш зьмяніцца як на цябе могуць паўплываць тыя ці іншыя падзеі ў жыцьці. Мінуў год а вы толькі зрэдку стэлефаноўваліся і дасылалі адно аднаму смс зрэдку ты атрымліваў яд яе паштоўкі. У дзень яе прыезду ты зразумеў што быў безнадзейна дурны немагчыма кахаць на адлегласьці. Гэта было як удар у сонечнае сплячэньне і ты ледзь не задохся. Некалькі дзён яна гасьцявала ў цябе гэта былі апошнія вашыя агульныя дні. Тады вы хадзілі на выставу Шагала пілі вермут — гэта было як разьвітаньне назаўжды. Менавіта з тых рэдкіх сустрэч ты захаваў пра яе памяць і ўсё найлепшае што было і пэўна не забудзецца ніколі.

1 — 15.02.2010<br>
Менск

# ТРЫ ВЫПРАБАВАНЬНІ ЛЁНДАНАМ

*Калі бываю сам з сабою я,*
*прыглядваю адразу за абодвума.*
*Станіслаў Ежы Лец*

## Beginning

Калі пачынаюцца такія падарожжы, як гэтае, то абавязкова па вяртаньні пачынаеш моцна сумаваць, скардзіцца на сваё жыцьцё, зьнікае жаданьне нешта рабіць, дзейнічаць... жыць... а потым ахоплівае цяжкая дэпрэсія, якая цягнецца... цягнецца... зьядаючы знутры.

Але калі жывеш у Лёндане, як жа кожны дзень хочацца дадому, як сумуецца па родным Менску... Аднак і культурны шок, зьдзіўленьне й эйфарыя з пахмельлем праходзяць. Тады пачынаеш адчайна сумаваць па сям'і, ведаючы, што наперадзе — яшчэ больш за восем тыдняў вучобы ў акадэміі "Тоні і Гай".

Не сумаваць альбо забывацца на Менск дапамагаюць толькі падзеі, якія хутка пралятаюць праз цябе, падарожжы, прыгоды, архітэктура, мастацтва, вучоба, літаратурнае ўзбагачэньне, пачынаючы ад бясплатных ангельскіх паштовах і сканчаючы апошнімі сьвежымі анталёгіямі кароткай прозы Англіі, знойдзенымі на пыльных паліцах старых кнігарняў гораду... і час ад часу паранаідальная шызафрэнія, што ты — гэта быццам бы ня ты, што не з табою ўсё адбываецца, што гэта ня ты пакінуў столькі цяжару ад апошніх жыцьцёвых падзеяў дома; а яшчэ ты — гэта той самы малады чалавек, які пазірае на цябе зь люстэрка ў пабе пад гаўбцом твайго новага ангельскага жытла; і ёсьць трэці ты, які на ўсё гэта пазірае звонку і разумее, што яшчэ імгненьне — і гэтая танюткая мяжа між вамі разарвецца, і цябе возьме ў палон вынішчальна-ачышчальнае шаленства.

Быў 2008 год, зіма, я тады пісаў злыя й брудныя апавяданьні, марыў пра сваю першую кнігу й захапляўся самотай... Бо перад тым як патрапіць у краіну сваіх мар, я пры вельмі дзіўных і жахлівых абставінах разышоўся зь дзяўчынай, зь якой жыў разам два гады, аточаны сабакамі й брудным адзеньнем. У Лёндан я прыляцеў з разьбітым ілбом, бо бадзяўся па Кальварыйскіх могілках ноччу, зьбягаючы ад аўчарак і аховы... У Менску я пакінуў не сваю кватэру ў стане руінаў: паўсюль засталіся раскіданыя кнігі й адзежа, бітыя шклянкі й талеркі, зацягнуты цінай акварыюм з афрыканскімі жабамі, на лесьвічным пралёце валяліся паламаныя часткі шафы, камода й колькі парваных кніг з маёй бібліятэкі. Я сядзеў у ангельскім бары, памяты, сьмярдзючы, баяўся зазірнуць у вочы маім спадарожніцам і інвэстару, нам падалі піва й вараную бульбяную кашу разам з ангельскай сасіскай і салатай, я накінуўся на куфаль піва й асушыў яго за імгненьне... За тры тыдні беспрабуднага пітва мой твар азыз, як у прафэсійнага алькаголіка... У Менску я пакінуў любую маму, якой толькі-толькі зрабілі апэрацыю, і яна знаходзілася на хатнім лячэньні... І нягледзячы на ўсё тое, што падрывала маё здароўе, як фізычнае, так і маральнае, я ведаў, што ў Менску самотнаю засталася мая палюбоўніца зь вялікімі аксамітнымі грудзямі й доўгімі чорнымі пухнатымі валасамі. І вось яно, пытаньне: "Які Лёндан, калі ў жыцьці вэрхал?! Калі праз сваё падарожжа ты губляеш яшчэ й цэлы год навучаньня ва ўнівэрсытэце?!"

Але я марыў пабачыць Лёндан, марыў яшчэ з тых гадзінаў, калі дзіцём апынуўся ў Шатляндыі, і мне нарэшце пашанцавала! Калі дакладна, то я, здаўшы патрэбныя іспыты,

выйграў конкурс на вучобу й пражываньне ў казачным горадзе цягам ажно васьмі тыдняў. Такім чынам, я падпісаў дамову, паводле якой быў абавязаны па заканчэньні навучаньня вярнуцца ў Менск і два гады адпрацаваць у франшызе "Тоні і Гай", а таксама атрымліваў аплочанымі навучаньне, здымную кватэру, квіткі на самалёт і безьлімітную картку Амэрыкэн Экспрэс.

І вось ён я, у найгоршым стане ў жыцьці, з такой колькасьцю праблем на плячах, што лягчэй застрэліцца, чым іх вырашыць, вось ён я разам зь яшчэ дзьвюма дзяўчынамі паляцеў у Англію і пасяліўся на вуліцы ў двух кроках ад Нацыянальнага брытанскага музэя, насупраць "літаратурнай вуліцы", і кожную раніцу, калі я прачынаюся зь цяжкою галавою, быццам бы ў ёй адбыліся адразу некалькі выбухаў, я п’ю моцную каву, палю й шпацырую праз сквэр Расэла, дзе ўжо кружляюць спартоваю хадою жанчыны й мужчыны, вавёркі й сабакі... Я іду, трымаючыся за галаву, дзівячыся, адкуль столькі здароўя ў гэтых англіках, каб так выдатна насіцца па сквэрыку ў шортах, калі на календары люты... Потым праходжу музэй па вуліцы Блумсбэры й на скрыжаваньні збочваю ўлева, праходжу паўз краму ангельскіх парасонаў і цыліндраў, потым збочваю ўправа, на Нью Оксфард стрыт, завітваю ў "Старбакс", замаўляю вялікі кубак моцнай кавы, прыкрываю яго кардоннай накрыўкай і пераходжу дарогу на іншы бок вуліцы, далучаючыся да астатніх студэнтаў, якія паляць "самакруткі", а я, як сапраўдны беларус, прывёзшы з сабою некалькі блёкаў "Уінстана", дастаю цыгарэту, якая тут па коштах прыроўніваецца да паўграма золата, запальваю яе, расплюшчваю нарэшце вочы, п’ю каву, кашляю. Спрабую ўсьміхацца гэтаму натоўпу добразычлівых людзей, але атрымліваецца кепска...

Усё толькі пачынаецца, у мяне яшчэ ёсьць нармальныя цыгарэты, і я пакуль не перайшоў на табаку і табачныя паперкі... Са студэнтамі я яшчэ не знаёмы, для іх я, напэўна, выглядаю менавіта так, як яны сабе ўяўляюць Усходнюю Эўропу — кудлатая распухлая пыса, перагар, у вачах злосьць і нявыкрутка... Вэлкам, Сяргею, Лёндан пачынае свае выпрабаваньні, каб ты змог пераключыць увесь цяжар уласных праблем пакуль што на ангельскае асяродзьдзе, забыцца, хацяб часова, што недзе там, у далёкім Менску любая маці пасьля апэрацыі, разьбітыя жыцьці й сэрцы, кінутыя кватэры й сабутыльнікі, каханкі й сябры, надзеі й няскончаны ўнівэрсытэт, ты стаіш, можа быць і ня надта трывала, на гэтым ходніку, але ты стаіш у Туманным Альбіёне, на старой брукаванцы, і ўсё толькі пачынаецца!

## London

Як мы прыехалі? О, як мы прыехалі!!! Самалёт быў захоплены ў палон алькаголем, крыкамі "Сэкс Пісталз", неадэкватнымі вачыма, храпам і нахабствам... Мы прызямліліся амаль так, як і ўзьляталі, з трэскам і скавытаньнем, бо па-іншаму самалёты Белавіі ТУ-134 ня лётаюць.

Паўгадзіны змарнавалі на бадзяньні па агромністым аэрапорце Гэтвік, і вось мы ўжо стаім на гумовай дарожцы, якая рухаецца й вязе нас з валізамі па доўгім калідоры да сьвятла наперадзе... потым блуканьні між незнаёмых й варожых пакояў і лесьвіцаў і выпадкова знойдзены выхад. Гэта заўсёды так, у любым аэрапорце, які б ён ня быў велізарны, блукальны, усё роўна выйдзеш куды трэба...

Натоўп. Усе кагосьці чакаюць, усьміхаюцца, плачуць, радуюцца, мы грымім напаўпустымі бутэлькамі ў плястыкавым пакеце, цягнем за сабою валізы на колах. З натоўпу нас выхоплівае высокі малады мужчына з позіркам, як у ваўка, — гэта наш інвэстар, чалавек, які ня толькі наш кашалёк, але й страхоўка, дах над галавою й адзіны знаёмы ў гэтай краіне. Мы — паравозікам за ім да чырвонага бэ-эм-вэ, у салёне якога я заўважу адзіную цікавую рэч — агромністага вожыка,

зробленага зь недапалкаў у попельніцы — інвэстар курыць па чатыры пачакі моцнага Мальбара за дзень... нэрвовая гэта справа — інвэстыцыі.

Едзем па левым баку, дзіўнае адчуваньне, едзем доўга па аўтабане, потым па двухпавярховым аўтабане, потым блукаем вузкімі вуліцамі, а потым спыняемся... ямо ангельскія стравы: бульбяная каша, стэйк, паўсюль кетчуп Хайнц розных колераў, смакаў, пахаў і спэцый... паўсюль эль, паўсюль пах Лёндана, але я пакуль не ўсьведамляю сваю фізычную прысутнасьць у горадзе.

Пасьля таго як брудныя талеркі прыбраныя і мы ўжо п’ём трэці куфаль элю, расчырванелыя, захмялелыя й сонныя, лянотна ўсьміхаемся й скоса паглядаем на інвэстара, баючыся нават запытацца пра грошы й кватэру, ён моўчкі кладзе на стол плястыкавую картку Амэрыкэн Экспрэс, ключы, піша адрэсу, гэта амаль суседні дом ад паба, дзе мы сядзім, разьвітваецца й сыходзіць. Да заўтра, пан С.!

Першы дзень, раніца, мы ледзь знайшлі акадэмію.

Але ад самага пачатку... Па-першае, мы ледзь знайшліся ў кватэры, у якой панаваў вэрхал і бруд, потым ледзь знайшлі бойлер і нагрэлі вады, ледзь знайшлі сілы памыцца, потым павячэралі й зноў выпілі, і вось, на наступны дзень ледзь прачнуўшыся й ледзь апрануўшыся ў пакамечаную ў валізе адзежу, мы ўтрох выскачылі на вуліцу, бо па часе ўжо спазьняліся на першыя заняткі... бегам, бегам, бегам.

Першы дзень. Акадэмія. Спазьненьне на дзьве гадзіны, прайшла першая лекцыя. Знаёмства. І я разам зь дзьвюма сваімі спадарожніцамі й суседкамі адразу апынуўся на лекцыі па бясьпецы, якую чытае мужчына са Скотланд Ярду, падобны да Жэрара Дэпард'ё. Распавядае ён пра тое, што ўсе мы тут замежнікі, маладыя людзі з розных месцаў, краін і кантынэнтаў... і менавіта ў гэты час мы заходзім у лекцыйную залю, перапыняем лектара, доўга шукаем вольных месцаў і знаходзім толькі на першым шэрагу, акурат перад лектарам... Пяціхвілінка сораму й нянавісьці — і мы ўжо сядзім, а над намі ўзвышаецца паліцэйскі, які спрабуе патлумачыць, што нам, прыезджым, трэба абавязкова быць уважлівымі на вуліцы, бо мы сьвецімся іншаземшчынаю, і таму нас так лёгка абрабаваць, узяць у палон, згвалціць. І першае, на што варта зьвярнуць увагу, кажа капітан, гэта нашыя транты, торбы, заплечнікі й кайстры, а менавіта! — ніколі, ані ў якім разе не трымаць грошы й дакумэнты ў кішэньках торбаў, якія лёгка расшпіліць альбо парэзаць тонкім лязом. І вось вам прыклад, кажа паліцэйскі і, апусьціўшы голаў, заўважае мой заплечнік, бярэ яго й падымае ўгору ўсім на агляд:

— Вось тут, як вы можаце ўсе бачыць, адразу кідаецца ў вочы першая кішэнька заплечніка, маленькая, пукатая, чырвоная, і тут людзі нядбайныя часта трымаюць каштоўнасьці, лічачы, што калі ім самім зручна й хутка дабірацца, то астатнім гэта ня прыйдзе да галавы, — і капітан расшпільвае з усьмешкаю кішэньку і, нават сам не чакаючы, знаходзіць там мой пашпарт, паміж старонак якога схаваная цэлая тысяча купюрамі па сто фунтаў.

Паліцэйскі сам у шоку, бо такая недарэчнасьць! Уся аўдыторыя сьмяецца, рагоча, пляскае. Мяне запытваюць, адкуль я, я кажу:

— Belarus.

— What?

— Belarus.

— Aha, OK.

Што тут казаць, ня надта файнае першае знаёмства, ня самыя прыемныя ўражаньні ад нас... Капітан яшчэ ўвесь дзень будзе паказваць розныя кішэнныя сыгналізацыі, спэцыяльная званкі й сьвісткі на вулічнае здарэньне, мы будзем піць гарбату, есьці пячэнькі, я буду штохвіліны перакладаць сваім спадарожніцам лекцыю... На нас будуць пазіраць з усмьешкаю, але з усмешкаю такою, ня злоснаю, усьмешкаю, якую дораць блазнам, дзецям, сьмешным сабачкам...

Мы атрымаем стос раздрукоўвак, нейкія дурныя саколкі й кепкі ад паліцэйскага аддзелу, капітан пацісьне мне руку, скажа штосьці незразумелае але сьмешнае для астатніх, і настане вечар, і да нас прыедуць замоўленыя інвэстарам перакладчыкі.

Першы вечар, гэта Піца Хат разам зь перакладчыцаю й яе бойфрэндам, як гэта тут гучыць. Першы вечар — гэта ўпершыню пакаштаваны сідр, вялікая, неверагодна вялікая піца, сум, жарты пра нашае лахаўство, успаміны пра былое жыцьцё ў Менску й Полацку ад нашых новых знаёмых, пітво, пітво, пітво, і доўгі, марудны, насычаны рамантыкаю й няўлоўным сьвежым новым пахам шпацыр па лёнданскіх вуліцах і цяжкі кароткі сон, забыцьцё, спроба запамятаваць сваё беларускае жыцьцё.

Пералічыць студэнтаў-аднагрупнікаў складана, складана нават назваць усе краіны, прадстаўленыя ў адным вучэбным пакоі, які месьціцца на трэцім паверсе й мае сваёю мэтаю навучаць прасунутых студэнтаў для сваёй сеткі салёнаў — "Vardering Stuff Course": Грэцыя, Італія, Гішпанія, Ірляндыя, Францыя, Алжыр, Кювэйт, Японія, Кітай і мы — Беларусь. Нічога новага, акрамя нас. Вось.

А назаўтра быў вечар барбэкю... Мы доўга ехалі зь сябрамі-перакладчыкамі да іх у госьці, яны жывуць у дамку, дакладней у пакоі ў дамку, які напампаваны мігрантамі, у Трэцяй зоне Лёндана... што такое Трэцяя зона — растлумачыць складана, тое самае, як распавесьці, колькі станцыяў мае ангельская падземка... Трэцяя зона Лёндану — гэта вядома ня цэнтар, але й ня ўскраіна, гэта як паехаць з праспэкта Незалежнасьці ва Уручча. У Трэцяй зоне жывуць збольшага эмігранты, людзі ненадзейныя... увесь раён уяўляе сабою вуліцы, забудаваныя двух- і трохпавярховымі дамкамі часоў разьвіцьця манаполіі... гэта як вуліцы, дзе жывуць працаўнікі з прамысловай часткі Манхэтану, вуліцы-дэкарацыі зь фільмаў "Монці Пайтана" альбо зь фільму "Чамаданы Тульса Люпэра"... ехалі мы паўтары гадзіны... потым ішлі пехатою дваццаць хвілін... было яшчэ сьветла, таму больш-менш бясьпечна... барбэкю ў двары за домам, ангельскі эль, беларуская гарэлка, шатляндскі ўіскі, печанае мяса, кетчуп Хайнц, высьвятленьне, што адзін з нашых навасьпечаных сяброў — гей (пра гэта ня ведалі нават ягоныя старыя сябры зь дзяцінства), расповеды пра Менск, высьвятленьне, што нашая перакладчыца піша вершы... а потым высьвятленьняў было так багата, яны былі такія вясёлыя й шчырыя, каляровыя й п’яныя, што зьніклі ў дробязях, але засталіся, як агульны цёплы вечар. Нягледзячы на люты, мы сядзелі ў пледах... і толькі позьні вечар адбіваўся сваім неспакоем, калі мы крочылі да начнога аўтобуса, каб дабрацца да Расэл Скуэр — крыкі, бег нейкіх людзей, адзін зь іх абарочваецца... потым чутны стрэл... потым мы ў краме, шнапсы запакаваныя ў папяровыя пакеты, паніка, вусьціш, прыгоды. Да свайго канцавога прыпынку мы не даехалі, бо было вырашана тэрмінова ехаць дапіваць у парк недалёка ад Трафальгарскай плошчы, у парк, дзе днём плавалі качкі й гулялі дзеткі, а газоны былі падстрыжаныя й засаджаныя жоўтымі нарцысамі... мы пілі на палянцы, тапталі нарцысы, хадзілі ссаць пад старажытны ангельскі вяз... нам было выдатна, і паліцыя, якая, патрулюючы, праязджала каля нас разоў пяць, назірала за намі здалёк, але не адважвалася падысьці — бо мы былі ня мы, а нейкія іншыя... дзіўныя, шалёныя прывіды, бо хто яшчэ, як ня прывіды будзе ў цэнтры Лёндана ў парку раскладаць на газэтку на сьвежападстрыжаным газоне закуску й мяць кветкі, толькі прывіды — зялёныя ўпыры з Усходняй Эўропы.

Што казаць пра музэі... сорам, вялікі сорам нам, бо я бачыў, як шмат Шагала прадаецца, як шмат карцін мае той жа Тэйт Мадэрн альбо Нацыянальны музэй... адно тое, калі стаіш перад "Сланечнікамі" ван Гога, альбо перад палотнамі Магрыта, не істотна, галоўнае, што адчуваеш сакральнае спасьціжэньне гісторыі, мізэрнасьць існаваньня, усё падаецца ня вартым увагі, ня вартым жыцьця, і адначасова ўсе шэдэўры, што так разнастайна прадстаўленыя ў шматлікіх музэях, галерэях і салёнах Лёндана, здаюцца зусім ня вартымі таго, як высока іх ацэньваюць, таго, якую значнасьць ім надаюць, усё абвастраецца, усе пачуцьці перамешваюцца, і той самы

сум існаваньня становіцца найбольш зразумелым і ясным, мяжа, калі задумваешся пра сваё існаваньне сьціраецца, і нічога больш няма, акрамя асэнсаваньня таго, што ты і ўвесь сьвет — гэта проста ты і ўвесь сьвет, жывёлы, расьліны, чалавек, вада, зямля... усё адно й адначасова ўсё ёсьць розным і прыгожым, адвечным і нязьменным. Толькі дзеля гэтага варта выдаткаваць пару тыдняў свайго жыцьця, каб прайсьціся па галоўных мастацкіх пунктах Лёндана: Далі, Пікаса, Магрыт, Мунк, Кало, Мадыльяні, ван Гог, Клее, Полак, да Вінчы, Рэнуар, Рывера, Манэ, Монэ, Дзюшан, Вэрмеер, Босх, Сысьлей...

Першая паездка па горадзе, на сьвежую галаву, з раніцы, з шырока расплюшчанымі вачыма, зь цьмяным адчуваньнем казачнасьці... і адразу я абіраю сабе кропкаю пачатку шпацыру Таўэр оф Лёндан, і на сваім прыпынку Расэл Скуэр я ўпершыню трапляю ў салён чырвонага двухпавярховага аўтобуса, такога таемнага й адвечна цікавага аўтобуса, які перасьледуе мяне ад самай першай клясы, з урокаў па ангельскай мове... я знаходжу вінтавую лесьвіцу й караскаюся на самы верх, узрадаваны тым, што наперадзе нікога, я займаю месца каля лабавога акна (месца для пацалункаў, бо гэтая камэра зьверху акурат здольная праглядаць увесь салён і пярэдняе сядзеньне — сьляпое месца, месца пад камэрай), і маім вачам адкрываецца неверагодны краявід другога паверху Лёндана, яго жыцьцё зьверху, па-іншаму, калі пабы, кнайпы, пірагоўні — усё недзе ўнізе, а зьверху дрэвы, старая архітэктура, сьветлафоры зазіраюць у акно, рэклямныя расьцяжкі пралятаюць, ажно кранаючыся чырвонага даху... гэта прыцягвае, горад падаецца магічным, я шчоўкаю кадры на сваю "мыльніцу"... вакол сонечна, але гэта цяпер, бо праз хвіліну пачынаецца дождж...

Лёнданскія аўтобусы (каб не заміналі руху па такіх вузкіх вулачках) замест таго, каб пашыраць дарогі, умешвацца, так бы мовіць, у саму існасьць горада, вырашана было пераставіць на спэцыяльныя шасі, якія на паваротах былі здольныя паварочвацца на дзевяноста градусаў ... звонку гэта ня надта заўважна, але калі ты знаходзішся на самым носе аўтобуса, на другім паверсе, то бок на самым ілбе чырвонай машыны, ягоныя рэзкія павароты, крутыя й адчайныя, падаюцца сапраўдным атракцыёнам, і першае падарожжа здаецца ўвогуле экстрэмальным... але ненадоўга, вось ён спыняецца, і я пачынаю сваё першае падарожжа празь Лёнданскі мост да Шэксьпіраўскага тэатру, буйной галерэі Тэйт Мадэрн, да Лёнданскага вока, празь якое пехатою да Біг Бэна, адтуль да Трафальгарскай плошчы... і дадому праз Нацыянальны музэй... часам маршрут заводзіць мяне да Сэнт Пол Катэдраль альбо да ланцуга паркаў — Сэнт Джэймс парк, Грын і Гайд паркі, празь якія, сьцежкаю Лэдзі Дзі я магу дабрысьці й да раёну Кэнсінгтон... гэта мае звычайныя маршруты, якімі я часта пераадольваю, быццам зьбягаючы ад нявыкруткі, скрушныя думкі. Лёнданскія шпацыры — гэта мая ўласная псыхатэрапія, маё лячэньне, дзе я зазіраю ў галерэі, старыя аблупленыя пабы, якія падаюцца такімі роднымі, спыняюся на розных мастах — Міленіюм, Ватэрлоа, Таўэр, Лёндан, Блэкфраярс, Лямбэт, Ваксхол і іншыя... я самотна ўглядаюся ў Тэмзу, таплю ў ёй выявы, думкі, расчараваньні... я мушу вярнуцца дамоў аднаўленым, іншым... на кожным сваім шляху я пакідаю частку ад мяне былога, таго, з кім мне ня хочацца камунікаваць... у парках я падоўгу сяджу й назіраю за качкамі, лебедзямі, за англікамі, эмігрантамі, іншаземцамі, я вучуся глядзець унутр сябе, але пакуль што ў мяне атрымліваецца пісаць толькі скрушныя нататкі й злосныя, брыдкія апавяданьні.

У акадэміі акрамя неверагоднага патоку інфармацыі, паскоранага руху часу, шалёных аб’ёмаў кавы й ламаньня галавы, як напісаць гэтую вар’яцкую курсавую па разьвіцьці стылю й моды ангельскага "Тоні энд Гай" за пяцьдзясят год, акрамя сумных рознакаляровых і размаітых студэнтаў у мяне ёсьць тры сябры: Алі Аўюн, Сафі Паэт й Кэвін Фостэр.

Алі з Кювэйта, ён цалкам падобны на Эдварда Рукі-Нажніцы, толькі ў яго высокі лахматы іракез і ён сам худы й невысокі, джынсы ў яго заўсёды амаль цалкам споўзшыя з заду, ён майстра круціць сапраўдныя ямайскія спліфы, набітыя самым адборным...

Сафі з Францыі, яна мае вялікія, цёмныя, вельмі прыгожыя вочы, кірпаты носік і кудлатыя валасы, якія віюцца па плячох і заўсёды імкнуцца кудысьці ніжэй сьпіны... праз год я даведаюся, што яна, так і не скончыўшы курс, пакінутая на паўторнае навучаньне, зьехала ў Афрыку й пачала пісаць апавяданьні... цяпер яна ўжо друкуецца й мае гонар ладзіць свае аўтарскія вечары ў Францыі.

Кэвін — ён карэнны англік, жыве на ўскраіне Лёндана, у Сыты навучаецца, бачыць яго, Сыты, упершыню... акрамя жартаў — Кэвін у цэнтры горада ўпершыню, бо ехаць зь ягонай ускраіны ажно чатыры гадзіны... няма чаго рабіць! Падчас вучобы ён здымае жытло побач з акадэміяй... Кажа, што пазнае большасьць месцаў з урокаў ангельскай мовы й гісторыі... У нас зь ім амаль агульнае ўспрыманьне Лёндана, бо ўпершыню... Кэвін апранаецца ў вельмі шчыльную адзежу, заўсёды здаецца, што яна яму вельмі й вельмі малая, яшчэ імгненьне — і пачнуць рвацца кашуля, джынсы, саколка па швох, але яму, здаецца, усё падабаецца, асабліва ўсьміхацца.

І вось яны, гэтыя тры зусім розныя й дзіўныя замежнікі, ратуюць мяне ад усяго на сьвеце, дазваляюць мне запамятаваць, адцягваюць маю шалёную засяроджанасьць на дэпрэсіі, на тэлефонных сварках з знаёма-незнаёмай мне дзяўчынаю, якая падабаецца мне ўсяго толькі сваімі грудзямі, але яна, седзячы ў Менску, нават тут мяне дастае. У маёй маці пасьля апэрацыі не зажывае рана, яна пра гэта не гаворыць, але я ведаю — у тэлефонную слухаўку яна мовіць бадзёра, але я ведаю — скрозь сьлёзы... брат піша на мабільны пра ўсё, што дома... я спрабую выйсьці са свайго стану праз парэзы, я рэжу сябе... грудзі, жывот, рукі... гэта цяжкае выпрабаваньне — пакінуць столькі ўсяго невырашальным дома, і тут, у ангельскім асяродзьдзі, спрабаваць зазірнуць у сябе так, каб вывернуць усё наадварот, вонкі... у мяне здараюцца гістэрыкі, і таму аўганскі гашыш Алі, гарэлка Сафі й ўіскі Кэвіна мяне ратуюць доўгімі напаўрэальнымі начамі, да самага сьвітаньня... а там раніца, Старбакс, дзе я праз раз удала ўтрымліваю перададзеную мне каву, часьцей разьліваю першы кардонны кубак па стале з касавым апаратам, па падлозе, і вучоба... а потым зноў падарожжы вуліцамі, завулкамі, паркамі, мастамі...

Зіма, люты, тут таксама халодна. Але халодна адносна чаго? Адносна Беларусі тут цёпла, адносна Марока — халодна... мінус, слабенькі мінус, днём, калі сьвеціць сонца, варта пакідаць толькі байку, але ўвечары можа непрыкметна падкрасьціся халаднеча, і тут ужо толькі сьпяшайся апранаць паліто, шалік і пальчаткі... напачатку XX стагодзьдзя ў ангельцаў была праблема са здароўем, праз такое настабільнае й пахмурнае надвор’е шмат хто захворваў і паміраў ад сухотаў... Было вырашана на парлямэнцкім узроўні запусьціць доўгатэрміновую мэдычную мадэль загартаваньня насельніцтва, і пачалі гэта з самых маленькіх англікаў, амаль немаўлят... паступова гэтая загартоўная плынь захапіла ўсіх жыхароў, і што мы можам бачыць у наш час, у XXI стагодзьдзі — маладыя мамы й таты, гуляюць са сваімі дзеткамі... дарослыя — у саколках, кашулях, лёгкіх штанах, больш радыкальныя — у шортах, дзеткі разам зь імі напаўраспранутыя... такія сем’і зь першага погляду падаюцца змерзлымі, але насамрэч шалік на шыі грэе, самі яны ружавашчокія, сьмяюцца... сапраўды, карэнныя жыхары гэтага вострава апранаюць ня так шмат на сябе, як прыезджыя, і выглядаюць здаравейшымі... Такім чынам, калісьці прыняты закон уратаваў шмат і шмат тысяч сваіх жыхароў.

Аднойчы мы з Алі так добра адпачылі ў нашым бары 101, што былі вымушаныя недалёка ад Пікадылі, каля будынка, у якім месьціўся МакДоналдз і Піца Хат, сесьці проста на ходнік, на брукаванку, сесьці, каб даць адпачыць целу й галаве... мы сьмяяліся, гутарылі, прымружваліся, быццам бы ў вочы сьвяціла сонца... у тры гадзіны ночы... мы былі на адной хвалі, якая павольна, ледзь рухаючыся распушчалася ў паветры, яднаючыся з зэфірам... як раптам на ходнік упаў мэталічны фунт, упаў з характэрным дзынькам, я сфакусаваў зрок, падняў галаву, але тут нават ноччу няспынны паток людзей, я не заўважыў, хто гэта зрабіў, усьміхнуўся, падумаў, што

хтосьці згубіў цэлы фунт! Нам пашчасьціла — чатыры бляшанкі піва на раніцу будуць вельмі дарэчы! І тут зноў упаў фунт, за ім лязгнулі пяцьдзясят пэні... Алі скеміў, у чым справы, і паклаў на ходнік сваю чорную шапку... і... так... за паўгадзіны ўгару й выхаду ў адчынены космас на ходніку мы нажабравалі на літровую пляшку ўіскі й на макдак-сьняданак з смажаным яйкам... пасьля накуранай ночы елася й пілося неверагодна смачна...

Кэвін, ты ж, тваю няхай, карэнны лёнданец! І ані разу ня бачыў Сыты? Не. Як так? Бо далёка ехаць да Сыты. І я і так усё бачыў на фотаздымках і на ўроках. Ды ладна табе. Гэта ж розныя рэчы! Лёндан трэба адчуць, увабраць яго сваімі лёгкімі!

І Кэвін сапраўды праз мяне пазнаёміўся зь Лёнданам, не з турыстычным, але з аўтэнтычным. Аксюмарон — замежнік зь Беларусі вадзіў лёнданца й паказваў яму горад: Соха, Чайнатаўн (якраз быў дзень кітайскага Новага года), паркі, пабы й пірагоўні... Кэвін шмат глядзеў па бакох, усьміхаўся, дзівіўся і пагаджаўся, што ня ўсё магчыма спасьцігнуць праз фота, тым болей праз падручнік...

А гэтыя мясныя пірагі ў Лёндане, салата Цэзар, белае нефільтраванае піва, сідр, моцны эль, ўіскі... самакруткі зь вільготнай табакі... крэветачныя кактэйлі, манга... усё гэта трэба абавязкова запомніць на ўсё жыцьцё, а лепей наноў сюды прыехаць, спачатку запамятаваць усе пахі, смакі й колеры, а потым зноў іх для сябе адкрыць!

На мой дзень народзінаў Сафі павяла мяне ў бар, сказала, будзе сюрпрыз... Сафі... Дзіўная дзяўчына, яна настолькі існавала ня тут, ня ў гэтым месцы, асяродзьдзі, яна быццам бы прысутнічала адначасова ў паралельным сьвеце. Яна часта была сумнаю, у яе шмат рэчаў па жыцьці не атрымліваліся, усё сыпалася скрозь пальцы, яна вельмі хацела быць шчасьліваю, ёй было цяжка ў Лёндане, мы адно аднаго добра разумелі...

Сюрпрыз. Сюрпрайз! Бар. Стары падраны стол, скасабочаныя зэдлікі, на сьценах жоўтыя дагератыпы, Сафі кажа, што бару трыста год, я ахвотна веру. Сядзім насупраць адно аднаго. Нам падносіць афіцыянт (вясёлы хлопец гадоў дваццаці) дзесяць кілішкаў празрыстай вадкасьці й сыходзіць.

Сафі кажа: "Гэта рашн водка, пі! Гэта як у цябе на Радзіме? Так прынята?"

Я кажу: "Дзякуй, мне вельмі прыемна, але мы так ня п’ём!"

Сафі: "Я думала, што ў вас там усе вось так і п’юць, таму вырашыла зрабіць табе ласку, мой рэспэкт".

Я ўдзячны Сафі за ўсё, настолькі ўдзячны, што за паўгадзіны выпіваю дзевяць кілішкаў гарэлкі, заядаючы іх тытунёвым дымам, сплёўваючы ў попельніцу гідкую гарэлкавую сьліну... Б-р-р-р... Дзякуй, казачная Сафі, я ніколі не забудуся на такі дзіўны пачатак дня нараджэньня!

Дзень нараджэньня скончыўся ў дзікім клюбе "Фабрык", штамп — клюбе для замежнікаў... там было шматлюдна, была неверагодная колькасьць вельмі п’яных, як сьвіньні, расейскамоўных людзей, якія толькі мацюкаліся й падалі, і было зашмат моладзі, якая знаходзілася пад сінтэтычнымі наркотыкамі, валялася там на вялікіх ложках і рабіла ўсё, што прыходзіла ім хутчэй не ў галаву, а ў іншае месца. А потым я памятаю, што мы шмат езьдзілі ў кэбе, і хто плаціў за кэб, ня ведаю да гэтага часу, але дамоў я прыехаў, трымаючы ў руках пакет з Макдоналдза, пакунак зь пірагоўні, пачатую бутэльку "Грантс", карабель марыхуаны, трымаючыся за плячо маёй беларускай суседкі, якая штосьці мармытала пра "сапраўдных англікаў", але мне было не да гэтага.

Мае суседкі, мае цукерныя сяброўкі, мае пякельныя спадарожніцы, якім, як і мне, пашчасьціла трапіць у акадэмію, былі нястрыманымі ў пытаньнях сэксу, і, на жаль, гэтая нястрыманасьць мяне не тычылася, бо іхныя мэты, кропкі дасягненьняў былі абмежаваныя ангельцамі, на скрайні выпадак — замежнікамі, але замежнікі й эмігранты краін трэцяга сьвету не лічыліся. Так вось і атрымалася, амаль кожным вечарам, ноччу, хтосьці зь іх па чарзе

прыводзіў дамоў мужчыну, і адна зь іх вымушаная была саступаць пакой і ночыць са мною. Ня ведаю, на што гэта залічыць, на карысьць маёй джэнтльмэнскасьці альбо няўдачы, але за ўвесь час я не скарыстаўся такімі гарачымі момантамі. А трэба дадаць, варта было б і скарыстацца, але я вельмі хацеў захаваць між намі сяброўства, амаль сямейныя стасункі, і гэта атрымалася. Пакуль яны шукалі сабе сапраўднага гарачага, але стрыманага ў ложку ангельца, я толькі чуў гукі, грукат і скрып, пакуль бяссоннымі начамі, апынаючыся дома, ляжаў і глядзеў у цёмныя куты, стараючыся ня думаць, што сплю не адзін.

Адна з суседак, найстарэйшая з нас, правярнула выдатны плян: на ўікэнд да яе прылятаў муж, яна толькі пасьпела прачнуцца, выпхнуць з ложка чорнага ангельца аўстралійскага паходжаньня... менавіта выпхнуць: ногі ў рукі — і давай, да пабачэньня!, як ва ўваходныя дзьверы пазванілі. На парозе стаяў муж суседкі, вясёлы, кахаючы, ледзь ня плача ад шчасьця (яны на такі доўгі тэрмін рассталіся ўпершыню)... Муж відавочна сумаваў — пакамечаная адзежа, сам неахайна паголены, бледны нейкі.

І вось яно — муж на парозе, клясыка, чорны ангелец-аўстраліец сядзіць на кухні, чакае, калі яму другая суседка заварыць гарбаты, я вітаюся з мужам, мне цікава назіраць за ўсім, што зараз адбудзецца. Старэйшая суседка абдымае мужа, цалуе, вішчыць ад шчасьця, мы рукаемся, другая суседка вітаецца крыкам з кухні... чорны мужчына выходзіць у калідор. Старэйшая суседка кажа: "Гэта Ніко, ён сябра Сяргея!"

— Хай!

— Хэло.

Так муж маёй суседкі цяпер ведаў, што я зусім бясшкодны гомік, які любіць чорных мужыкоў. Ну нічога... А што ж я мог зрабіць у той момант?! Зруйнаваць шчасьлівы пятнаццацігадовы шлюб?! Аднабаковае каханьне? Але якое каханьне?! Усім каханьням прыклад!

Праз вучобу я быў сталым наведнікам суседняга з акадэміяй ксэракс-інтэрнэт цэнтру, дзе ўсё было вельмі танна, з пахам вакзалу і вялікай колькасьцю рознакаляровых прадстаўнікоў чалавечай расы. Я хадзіў у гэты цэнтар кожную раніцу, а калі заўважыў вельмі прыгожую, ну вельмі-вельмі прыгожую дзяўчыну за касаю, то пачаў завітваць (раздрукаваць тэкст, скапіяваць старонку, фотаздымак, ілюстрацыю, узяць 30 хвілін інтэрнэту) яшчэ ў дадатак у абед і вечарам. Адсачыў, калі яна перакусвае, а якой гадзіне абедае, колькі разоў выходзіць папаліць... Як яна мне падабалася, неверагодна! Невысокая, страйнюткая, тонкая, з роўнаю паставаю, быццам танцаўшчыца, яна мела лялечныя ручкі й ножкі, вельмі густыя сьветлыя валасы, блакітныя вочы, пухлыя вусны, носік бульбачкаю... Я ніяк ня мог завязаць зь ёю размову, заўсёды толькі па справах, але й праз гэтыя рэдкія сказы я пачуў, што яна размаўляе зь лёгкім усходнеэўрапейскім акцэнтам, а такі акцэнт мне толькі на руку. Хадзіў я вакол яе й сваёй думкі пра знаёмства й запрашэньне на вечар у ангельскай пірагоўні пяць тыдняў, ужо варта было б альбо адважыцца, альбо пакаваць валізы перад ад’ездам... І тут я нарэшце гэта зрабіў — пазнаёміўся й дамовіўся на сустрэчу ўвечары каля мэтро Тотэнхэм Курт роўд. Аказалася, што завуць яе Даша, і я думаў, што яна якраз з Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Расеі, Малдовы, Баўгарыі, Польшчы альбо Чэхіі...

Гэта быў казачны вечар, мы наеліся пірагоў і салатаў, ажно дыхаць было цяжка, сьмяяліся, жартавалі, пераходзілі з ангельскай на расейскую, з расейскай на ангельскую... і тут я даведваюся, што Даша зь Беларусі, зь Менску, і прыехала вучыцца, а паралельна падзарабляе ў цэнтры, дома жыве на той жа вуліцы, што і я, у тым жа доме, што і я, і нават у тым жа пад’езьдзе, толькі я на першым паверсе, а яна на трэцім...

Ну што тут скажаш? Самі ведаеце, Лёндан, як і Менск, — вялікая вёска, ад знаёмых і знаёмых знаёмых ня так проста ўцячы, нават калі зьбег у кірунку Англіі. Мне вельмі хацелася

пазнаёміцца з ангельскаю дзяўчынаю, а ў выніку самаю прывабнай для мяне аказалася беларуска. Цяпер я праз Фэйсбук ведаю, што Даша даўно ўжо ў Маскве, працуе ў Астанкіна, і яна сапраўды танцаўшчыца — усё дзяцінства займалася бальнымі танцамі.

За тыдзень да заканчэньня вучобы мы ўсёй нашай вясёлай кампаніяй пазнаёміліся ў бары з рыжскім бізнэсмэнам, прычым пазнаёміліся не без карысных думак. Бізнэсмэн быў, мякка кажучы, ня вельмі разумным і, як высьветлілася, кіраваў фінансамі, якія дасталіся яму ад бацькі. Амаль два дні мы елі й пілі за ягоны кошт, у сваю чаргу культурна і нават уважліва слухаючы ўсю тую бязглузьдзіцу, якую ён нёс: у мяне самая вялікая калекцыя спартыўных Паршэ, паглядзіце, у мяне на руцэ гадзіньнік з апошняга фільма "Джэймс Бонд", а дома ўвогуле процьма іншых вельмі каштоўных гадзіньнікаў, у мяне свой аўтапарк, у мяне тры кватэры — у Маскве, Рызе й Лёндане, у мяне, у мяне, у мяне!

На другі дзень пад трэцюю літровую бутэльку "Рускага стандарту" высьветлілася, што ён аматар юнацкіх попак і сталы наведнік бара 101, бо там вельмі часта бавяць свае самотныя гадзіны замежнікі-студэнты, якіх уражваюць размовы гэтага пухлага, маладога бізнэсмэна і яны як мінімум пагаджаюцца на тое, каб паехаць у лёнданскую кватэру глядзець частку гадзіньнікавай калекцыі...

З рыжскім бізнэсмэнам у нас атрымалася зафіксаваць неверагодна высокі статус беларусаў праз тое, што ў адзін вечар адначасова было разьліта 250 шорт-дрынкаў з чыстай гарэлкай, і кожны ў бары мог пачаставацца. Адна зь японачак, вельмі прыгожая, мініятурная дзяўчынка, падышоўшы да нас, зацікаўленая такім вэрхалам вакол (нават румынскі мэнэджар бару больш не ўсьміхаўся напружана і піў разам з намі), узяла шорт-дрынк і, прамовіўшы, што ўпершыню частуецца гарэлкай, паднесла вадкасьць да вуснаў, сербанула, як кацяня, пачырванела, вочкі расплюшчыла так шырока, што я нарэшце ўбачыў анімэшныя вочы ўжывую, заплакала і зьбегла з бару. Больш я яе ня бачыў. Спадзяюся, яна не крыўдуе на беларусаў і на гарэлку.

Для бару 101 я быў сталым наведнікам, таму калі ўвечары на вуліцы ўздоўж ходніка пераміналіся з нагі на нагу маладыя людзі й дзяўчыны, лэдзі й джэнтльмэны, чакаючы, калі падыдзе іх чарга праходзіць праз фэйскантроль, я ішоў проста да чорнага бамбізы ахоўніка, і той, не праводзячы па мне мэталядэтэктарам, вітаўся са мной, паціскаў руку і прапускаў унутр... Зорны час! Анягож! Пасьля рыжскага бізнэсмэна мне й маім дарагім суседкам было дазволена бясплатна піць першыя два любыя кактэйлі, жартаваць з галоўнага мэнэджара, голасна сьмяяцца... І на нас, адпаведна, распаўсюджвалася недатыкальнасьць і ахова. Якім чынам? Ну, напрыклад, была такая падзея: я, вельмі п’яны, пачаў прыставаць да дзьвюх чорных дзяўчат, прыставаў нахабна, але не дакранаўся да іх, проста нешта спрабаваў распавесьці й абняцца. Я ня бачыў, што яны прыйшлі зь вялікай кампаніяй хлопцаў, якія ўсе спрэс былі як на адбор у кліп пра гангста-рэпераў, проста вылітыя "Снуп Догі". Я думаў, што мне прыйшоў канец, мяне схапілі два хлопцы і, хутка штосьці тарабанячы, павалаклі на вуліцу, бо ў бары біцца забаронена. Я быў упэўнены, што на вуліцы ў іх у машынных бардачках былі пісталеты... Ім перарэзалі шлях да забойства беларускага сьняжка два ахоўнікі, прамовілі штосьці пра VIP-пэрсонаў, пра ахову, пра тое, што я замежнік і г. д. І ўсё, гэтая цэлая кампанія чорных "Снуп Догаў" разам са сваімі ярка нафарбаванымі й абвешанымі бразготкамі, як навагоднія елкі, дзяўчынамі, былі вымушаныя пакінуць бар... Мне пашчасьціла, я быў у кіпцюрах чорных рэпераў і застаўся жывым.

Засталіся тры дні... Я пасьпеў пазнаёміцца з жонкаю інвэстара, якая зь дзецьмі жыве ў Оксфардзе ўжо дзесяць год, але так і ня здолела вывучыць мову, бо яе жыцьцё — гэта дом, гатаваньне ежы, гадаваньне дзяцей, мясцовы супэрмаркет, ізноў дом і ежа, зрэдчас — муж прыязджае... Татальная самота, безвыходная, і яна — прыгожая жанчына, сьпіваецца і выглядае значна старэйшай, чым ёсьць... А ехала сюды зь беларускай вёскі, як у казку... Як у самую

чароўную казку! Цяпер марыць толькі пра адзінае — родны дом, далёкі родны дом.

Я скончыў акадэмію, мы гэта добра адзначылі, так добра, што некаторыя моманты вусьцішна ўспамінаць, але бар 101 і галоўны мэнэджар румын Віктор будуць яшчэ доўга памятаць беларускіх выпускнікоў, якія паілі ўвесь бар і разносілі сталы й крэслы.

Па сканчэньні вучобы, да таго як трапіць у бар, мы спачатку прысутнічалі на ганаровым ушанаваньні: з 50 студэнтаў атрымалі дыплёмы 45, зь іх адзін дыплём з самымі высокімі баламі дастаўся мне, і нягледзячы ні на што мне прапанавалі застацца ў акадэміі яшчэ на пэўны тэрмін, каб вучыцца далей і праз колькі год стаць адным з галоўных чальцоў арт каманды "Тоні і Гай. Лёндан", але я, на жаль, перад адʼездам зь Менску пасьпеў падпісаць паперкі, якія бралі мяне ў палон на два гады адпрацоўкі выдаткаваных на маю пэрсону грошай. Было б някепска застацца, тым болей што арт каманда, акрамя выкладаньня, працуе на тыднях моды ў Францыі, Англіі, Галяндыі, і мадэлькі там у сваёй большасьці зь Беларусі, Украіны й Расеі, а гэта тое, што мне падабаецца...

## The End

І вось ён, дзень адлёту. Мы сабралі валізы, запакаваліся, я як мага шчыльней спакаваў тузін французскіх сыроў з высакароднай цьвільлю, каб сабакі ня ўнюхалі й пусьцілі на самалёт. Усё сабрана, і мы едзем у новым чорным мэрсэдэсе, наш інвэстар паклапаціўся аб тым, каб нас пасадзіў на самалёт прадстаўнік Белавіі ў Англіі, бо хто яго ведае, можа мы ўсе разьбяжымся ў розныя бакі й застанемся жыць нелегальна ў гэтым казачным горадзе (а такое жаданьне шалёнай думкай пульсавала ў нашых скронях, пакуль мы стаялі ў чарзе на самалёт). Перавага багажу была эпічнаю — 45 кіляграмаў, на такую вагу я б ніколі не знайшоў грошай, і вось ён, адзіны плюс ад нашага прадстаўніка Белавіі — нам не залічылі перавагу.

Наша самалёт разганяецца, я толькі пасьпяваю заўважыць, які высокі трафік у аэрапорце Гэтвік, розьніца паміж пасадкамі самалётаў на адной і той жа паласе мінімальная, а калі ўлічваць, што самалёты штосэкундна сядаюць і ўзьлятаюць, атрымліваецца карціна як на скрыжаваньні на праспэкце ў абед!

Мне было вельмі цяжка раставацца зь сябрамі, з горадам, мне было невыносна, і таму я пакінуў аднаго зь сябе ў кватэры, якая вокнамі выходзіла на невялікі парк, падземны фітнэс, гандлёвы цэнтар, пакінуў там скрушнага, сумнага чалавека, які праз сваю нявыкрутку ціха, мэтанакіравана зьнішчаў сябе. Я яго пакінуў, і ён быў мне ўдзячны, ён прайшоў усе выпрабаваньні і, зачыніўшы за мною дзьверы, сазваніўся з Алі, Сафі і Кэвінам, і яны ўсе разам дамовіліся сустрэцца каля Лёнданскага Вока, акурат а восьмай вечара, калі я ўжо буду ў Менску абдымаць сваю маці, свайго брата, свайго бацьку... а Сяргей толькі выправіцца на начныя падарожжы.

Я лячу, гляджу ў акно і не магу зразумець, што мае тыдні вучобы скончыліся, гляджу, як гэтыя машыны адна за адной рухаюцца ўніз-уверх, і мне неверагодна самотна й сумна, і я хачу застацца, і я вельмі жадаю вярнуцца.

Люты-красавік 2008
Лёндан
Студзень-люты 2013
Менск

# НОВАЯ СЯМ’Я

Наша сям’я зьявілася непрадказальна, рамантычна, разам з каханьнем. Мае бацькі былі зусім маладымі, і калі я спрабую параўнаць іх васямнаццацігадовых (узрост, калі яны ўзялі шлюб) з васямнаццацігадовым сабой, то здольны толькі ўспомніць, наколькі я быў малым летуценьнікам, меў цьмяныя жаданьні, быў залічаны на першы курс унівэрсытэта, заводзіў дзіўныя кампаніі сябрукоў, і гэты мой юнацкі гонар, што я ўжо дарослы і здольны на самастойнае жыцьцё! Мае бацькі, калі ім было па васямнаццаць, ужо жылі, як дарослыя, мелі працу, мама гадавала мяне, і ім было не да вучэньня. Мне вусьцішна ўявіць, што я ў такім жа ўзросьце меў бы дзяцей і жонку. Ці адолеў бы я такую адказнасьць?!

Я, вядома, юнаком вельмі моцна жадаў быць камусьці мужам, усім знаёмым дзяўчатам распавядаў, што з шаснаццаці год маю працу й маральна гатовы да шлюбу... Але па-сапраўднаму я быў гатовы толькі на шчырае, усёдаравальнае каханьне й любоў да сьвету!

Мае бацькі стварылі новую сям’ю, мэтаю стварэньня стаўся я, і калі я нарадзіўся, майго тату трымалі сябры пад рукі, калі мама мяне паказвала праз акно сваёй палаты. Тата добра адзначыў дзень майго нараджэньня: калі б не яго сябры, ён бы проста спаў пад вокнамі радзільнага аддзяленьня, склаўшы кампанію шэрагу такіх жа, як і ён, шчасьлівых бацькаў.

Радасьць нараджэньня й стварэньня "новай ячэйкі грамадзтва" адышла ў цень амаль адразу на наступны дзень, калі тату па павестцы выклікалі ў ваенкамат. Па савецкіх законах адзін дзіцёнак у сям’і не вызваляў ад трохгадовай службы, і майго бацьку адправілі пад Разань служыць кіроўцам бронетранспарцёра. Таму тату я ў сваім дзяцінстве ня памятаю.

Праз тры гады бацька вярнуўся. Я быў навучаны глядзець у акно й чакаць тату: мама мне казала, што мой тата прыйдзе ў вайсковым строі... Я й чакаў вайскоўца, пакідаючы адбіткі пальцаў, носу, ілба й вуснаў на шкле. І нават калі тата ўжо вярнуўся дамоў, я першы час пазнаваў яго толькі апранутым у кіцель. А аднойчы ён пагаліў свае армейскія вусы, і я тыдзень баяўся да яго падысьці.

З маім малодшым братам усё атрымалася вельмі рамантычна — як толькі бацька вярнуўся з арміі, мама зацяжарыла другі раз. І цяпер у нас з братам розьніца па гадах роўная службе ў савецкай арміі.

Жыцьцё — дзіўная рэч, адных нашых сваякоў яно падштурхоўвае да памылак, да нейкіх учынкаў, празь якія ім будзе сорамна ўсё жыцьцё, іншым дае час на выпраўленьне памылак. Так сталася з маёю бабуляю, мамінай маці, якая першыя гады не ўспрымала нашую маладую сям’ю, і мы жылі ў мамінай цёткі ў Капылі. Але нас вярнулі, мы зноў пачалі жыць у Менску разам з бабуляю і з мамінымі братам і сястрой. У іх, праўда, былі розныя бацькі, і гэта з часам вылілася ў дзікую варожасьць, супрацьстаяньне між маёй мамаю, дзядзькам і цёткаю.

Мае бацькі, мая маленькая па ўсіх парамэтрах сям’я была неверагоднай, была такой па-дзіцячы наіўнай, месцамі неадукаванай, але роднаю і любімай. Яна падавалася неахайна ўладкаванай, без прытулку, але сагрэтай як ня звонку, то знутры.

Тата. Толькі падумаць, што на той час ён ужо на сваіх яшчэ юнацкіх плячах насіў двух сьпінагрызаў, прайшоў армію й працаваў на МАЗе... Ён знаходзіў у сабе сілы, каб чымсьці захапляцца: нумізматыка, баптысцкая царква, заводскі працоўны рух за павышэньне заробку й якасьці працы, сустрэчы на стачках, сустрэчы з амэрыканскім прэзыдэнтам на плошчы Перамогі, прапаведаваньне, алькаголь... Памятаю, як ён, наіўна так, амаль увесь месячны заробак выдаткаваў на падарунак маці: ноч, ён прыйшоў з трэцяй зьмены, мы галодныя, халодныя, пакладзеныя ў двухпавярховы ложак, лыпаем вачыма, разглядаем белую столь,

падсьвечаную начным таршэрам, мамя ня ведае, але мы ціхенька чакаем, калі прыйдзе тата, таксама чакаем заробку, бо будзе нам раніцай марозіва... а бацька праз гадзіну прыходзіць дадому й прыносіць чорныя чаравікі, на заводзе ў кагосьці набыў — аддаў увесь заробак... Мама моцна плакала, а тата сядзеў і супакойваў яе, выгляд у яго быў недарэчны, памяты, падпіты... Чаравікі потым, вядома, прадалі, і яшчэ да раніцы высьветлілася, што заробак замест грошай далі чаравікамі, ну што паробіш... Што тут паробіш?!

Мама. Як толькі брату споўніўся год з хвосьцікам, яна вярнулася на працу, тады гэта быў банк, дзе яна працавала касіркаю... Яна так няспынна й працуе, але толькі ўжо дзясяты год нянечкаю для трох файных дзетак з адной інтэлігентнай сям’і. Мама ніколі не спыняецца, яна ня можа жыць бяз працы, і гэта яе трымае ў тонусе. Яна — як звышчалавек, праз хваробу імкнецца да подзьвігаў, якія недасяжныя ня толькі здаровым, але й моцным.

Дзіўна фармавалася нашая сям’я, былі ў нас і гніды, і стаматыт, і вятранка, і паратыт, а паламаныя рукі, ногі, выбітыя зубы, рэкі сьлёзаў, здрадаў, сварак, пакуты й смех, і шчасьце, і любоў, і самыя сьветлыя дні разам... і чаго яшчэ не было... Затое мама заўсёды была самаю прыгожаю, а тата — самым родным, нягледзячы ні на што, ні на кватэру, напампаваную людзьмі, ні на мізэрныя заробкі, ні на паламаны ложак, пукаты чорна-белы тэлевізар у агульнай залі, таматы, якія расьлі на гаўбцы... Было нам добра, утульна і сьветла, як ні ў адным месцы на сьвеце. І мы з братам вырасьлі без пустых мараў і памкненьняў, мы вырасьлі цьвярозымі, часам халоднымі, магчыма дзесьці нэўрастэнічнымі, але са сваімі ўласнымі мэтамі, марамі й каштоўнасьцямі, якія ператворацца ў рэальныя дасягненьні, перададзеныя нашым дзецям.

1-4.07.2012

Менск — Варшава

# ПРОДКІ

Гэта здарылася не раптоўна і нават не выпадкова, гэта здарылася таму, што мусіла рана ці позна здарыцца. У дадзеным выпадку здарылася адносна позна — у дзевяноста. Сьмерць у гэтым веку нікога не зьдзіўляе, наадварот, усе кажуць — шмат пражыў! Мая прабабуля, магічная пра-маці паловы майго роду, жанчына сухая, як сухафрукт, але жвавая, як яна казала: "Войска польска на ровэрах"... Мая прабабуля Гэля памерла на сваім хутары, побач зь ёю ляжала зачытаная й зацёртая Біблія на польскай мове і больш нічога. Яна пакінула нашчадкам напаўразваленую сядзібу недзе паміж дзьвюма закінутымі вёскамі: у адной вёсцы была толькі адна вуліца зь дзясяткам закінутых дамоў, сярод якіх жылі дзьве такія ж, як і яна, доўгажыхаркі, у другой вёсцы былі дзьве маленькія вуліцы, якія ўтваралі няроўны крыж — дамоў было шаснаццаць, адзін з каторых яшчэ быў жылы, там суіснаваў разам са старою коткаю й казою пад ганкам адносна малады па мерках суседак дзед Мікола. Усё гэтае атачэньне было найбліжэйшым да сялібы маёй прабабулі.

Дом бабулі Гэлі настолькі быў стары, што нават калі паставіць за мэту адшукаць падмурак, гэта было б немагчыма нават з групаю археолягаў... Ня толькі ганак, нават парогі пайшлі пад зямлю. Даўно яшчэ, калі бабуля, як яна казала, хадзіла прама, як маладая кабетка, парогі ўжо прысыпала тлустаю зямлёю. Цяпер жа, калі мы прыехалі на пахаваньне, маёй маці трэба было нахіляць галаву, каб не пабіцца аб верхні касяк дзьвярной рамы... Усё ў доме няўмольна апускалася на калені перад часам, перад вечнасьцю, перад усёяднай зямлёю.

У доме бабуля мела адметныя зэдлікі й сталы па ўсіх пакоях, а таксама ў яе былі вельмі цікавыя, адрозныя ад ўсіх на сьвеце ложак і канапа! Калі апавядаць пра іх, варта затрымацца на такой, здавалася б, далёкай ад тэмы рэчы, як рост у дзяцінстве. Калі мы ўсе, малыя падшыванцы, прыбягалі да дзьвярных касякоў ці ўвогуле да сьценкі, станавіліся сьпінаю да пафарбаванага дрэва ці да абклеенай шпалерамі сьцяны, бацькі над нашаю макаўкай праводзілі рыску алоўкам, асадкаю ці драпалі сьцізорыкам... і кожным разам, калі мы бачылі, што намаляваны-накрэмзаны ўзровень падняўся вышэй, мы радаваліся, што расьцем... І так усё сьвядомае дзяцінства было ў назіраньні, радасьці й росьце на сантымэтар, на два, на тры... Мая бабуля мела зэдлікі, у якіх чацьвёртая ножка была адпілаваная роўна настолькі, наколькі яна стапталася за час. Яе любімыя ўжо дарослыя ўнукі па прыезьдзе часта адпілоўвалі сантымэтар, два, тры, колькі трэба было па ўзроўні, каб бабуля Гэля магла, абапершыся на палку, акурат сесьці на зэдлік... Вядома, што колькі зэдлікаў, якія месьціліся каля пячы, даўно не пілаваліся, як і зэдлікі ў залі, таму, прайшоўшы па пакоях, можна было прасачыць, наколькі бабуля наблізілася да зямлі, якая ўжо дыхала ёй у падбародзьдзе. Мэбля, як і бабуля, адным сваім скраем няўмольна апускалася, павольна, як і сам дом.

Абразы... У доме бабулі Гэлі былі паўсюль абразы. Дзевы Марыі, Езусы й Сьвятыя глядзелі адусюль, стваралася такое ўражаньне, што ў доме ты аточаны натоўпам людзей, прапахлых ладанам і старымі сьвечкамі...

Калі бабулю пахавалі, сваякі зьехалася з усяго сьвету: былі траюродныя з Амэрыкі й Літвы, дваюродныя з Расеі й Польшчы, родныя з Украіны й Латвіі, Эстоніі, Швэцыі й дзясяткі самых родных зь Беларусі. Накрылі велізарны стол на полі каля дому, пілі, елі, успаміналі мінулае, распавядалі, хто, дзе і як уладкаваўся і жыве... Бабуліна сьмерць была адзінаю падставаю, каб аб’яднаць, хоць і на суткі, такую колькасьць сваякоў, і больш такога ўжо не выпадала. Усе пілі й браталіся, абдымаліся, цалаваліся й жагналіся, пралівалі сьлёзы й усьміхаліся гісторыям пра наш непаўторна-шараговы род людзей, які так імгненна разышоўся па сьвеце. Усе дзякавалі прабабульцы, якая зьдзейсьніла апошняе сваё жаданьне — пабачыць усіх разам.

На наступны дзень да абеду большая колькасьць самых далёкіх па геаграфічным становішчы й па родавых сувязях зьехала, засталіся толькі мы й татава сястра з мужам. Мы прыбралі частку зэдлікаў, хтосьці забраў іх сабе, бо гэта ня толькі памяць, але й гістарычная каштоўнасьць: набываліся яны яшчэ бабуляю нашай прабабулі да часоў вайны з Напалеонам. Кожны з сваякоў узяў сабе па абразы, нават атэісты не пагрэбавалі — такія рэчы, асабліва за мяжою, мелі высокі кошт.

Пад вечар, стомленыя, але радыя, што пасьпелі да ад’езду ўсё уладкаваць, мае бацькі засталіся пераначыць, а на раніцу спакойна паехаць дамоў.

Тут надышла ноч і пачалося штосьці невытлумачальнае, штосьці жахлівае, вусьцішнае: быццам бы падняліся нейкія чорныя сілы ажно з-пад нэтраў старога падмурка, з нэтраў пачатку гісторыі... Усе ведалі, што нашая бабуля часта лячыла хворых народнымі сродкамі, але тая ноч выпала на плечы маёй сям’і ці ня самай горшай за ўсю гісторыю рода чалавечага... І тады, калі ўсё гэта пачалося, калі дэманы, д’яблы, чарты, шайтаны павыходзілі ў начную прастору, мае бацькі й мой брат былі зусім яшчэ цнатлівыя для жыцьця, зь імі яшчэ не адбыліся тыя самыя рэчы, якім было наканавана адбыцца.

Мама, мая любая маці яшчэ ня ведала, што гэта такое, калі дзеці дасягаюць падлеткавага ўзросту; мая мама яшчэ ня ведала расчараваньня ў каханьні, ня ведала жаху хваробы; ведала, але ня так дакладна, што гэта такое, калі сварацца між сабою брат і сястра альбо сястра й сястра; мая маці тады была больш наіўнаю, больш адкрытаю... Мая мама яшчэ ня мела магчымасьці назіраць на ўласныя вочы наркаманію, брудныя шпрыцы, людзей, хворых на гепатыт; яна толькі пачынала сутыкацца з такімі рэчамі, як крадзяжы брата, ягоныя сумнеўныя сябры, бабуліны парцалянавыя зайчыкі й бойкі за месца на канапе ў агульнай залі кватэры, якая адначасова належала ўсім і нікому.

Мой тата яшчэ ня быў такім сумным, такім пахмурным як восеньскае надвор’е; ён на той час меў яскравы позірк і панскі жывоцік; ён плянаваў жыцьцё й шчыра захапляўся ўсім, што магло захапіць маладога мужчыну.

Мой брат быў зусім малы, і для яго яшчэ не надышоў час вялікіх захапленьняў літаратураю; ён яшчэ не сутыкнуўся з тым пэрыядам свайго жыцьця, калі пачаў пісаць, апантана, захоплена, шчыра, сьпісваць усе сшыткі ў клетку па 96 аркушаў, зьбіраць сшыткі ў адну вялікую калекцыю, анталёгію, збор раманаў, эпапеяў пра вайну й галоўнага героя Зьмека; мой брат яшчэ ня ведаў таго адчуваньня адчаю й адзіноты ад першага каханьня; у ягоным жыцьці яшчэ не было расчараваньняў і вершаў пра памаранчавы "Глікадзін", ён быў яшчэ зусім малым і яшчэ не працаваў, не вучыўся, яшчэ толькі пачынаў жыць.

І вось, мая сям’я па ўсіх чыньніках была яшчэ зусім маладою, прывабнаю, сьмелаю, адважнаю, мая сям’я была па шмат якіх паняцьцях цнатліваю, і такую яе наведала тое, што рацыянальна ніколі не зразумееш, не растлумачыш, не разгледзіш, ня ўбачыш. Маю сям’ю наведалі ўсе нашыя продкі з усіх нашых каленаў, календаў, саслоўяў, дрэваў, галінаў, каранёў, ланцугоў, зьвязаў, хаўрусаў. І гэта адбылося акурат ноччу пасьля пахаваньня, калі ў доме засталіся толькі мы ўчатырох, калі большасьць абразоў была разабраная сваякамі й цені зьліліся зь цемраю, форткі былі наросхрыст, бо так трэба пасьля пахаваньня.

І адбыліся два наведаньні:

1. Пасярод ночы маці прачнулася, побач хроп бацька, мы спалі між бацькамі. Ложак стаіць каля заходняй сьцяны, усе мы ночым у галоўнай залі, якая мае па трое вокнаў на кожную з трох сьценак, а чацьвёртая — прысунуты да сьцяны ложак пасярэдзіне, а зь дзьвюх бакоў ад яго — скразныя дзьверы: адны вядуць на кухню, другія — у пакой бабулі. Маці бачыць, як у вокны з усіх бакоў зазіраюць людзі, процьма людзей, натоўп. Хтосьці апрануты на стары лад, хтосьці ўвогуле незразумела ў чым, хтосьці трымае вілы, у кагосьці на руках дзіця. Маці панікуе,

будзіць бацьку, нас, мы ўсе прачынаемся й пачынаем крычаць, плакаць, прасіцца дамоў, запальваем сьвятло. Ніхто нікуды не зьнікае, людзі так і стаяць, глядзяць на нас з вокнаў. Жах. Жах... Жах! Мы ўсе абдымаемся, мама захінае нашыя галовы хусткамі, начною сарочкаю, бацькаваю саколкаю, пледам, мы супакойваемся, мама моліцца, тата таксама... Цішыня, шэпт, зьвяртаньне да божага ратаваньня — і людзі зьнікаюць, мы паціху засынаем, але сьвятло не выключаем.

2. Бліжэй да раніцы бацька ў сьне паварочваецца да маці й працягвае руку праз нас, каб яе абняць за талію. Раптам ён рэзка падскоквае на ложку й крычыць, што талія маці не яе талія, гэта было штосьці брыдкае й пакрытае поўсьцю! Тут ён канчаткова прачынаецца й ужо не сваім голасам пачынае хрыпла маліцца... Вакол нашага ложка стаіць цэлы натоўп людзей і паглядае на нас, мы ўсе іх бачым, крычым, плачам, маці ізноў нас супакойвае, хаця сама ў неверагоднай паніцы й сутаргах. Натоўп людзей глядзіць на нас, усьміхаецца, вачыма зычыць чагосьці добрага, супакаяльнага. Мы больш ужо не засынаем. Сьвятло толькі вымалёўвае гэтых прывідаў. На гадзіньніках чатыры ночы. Мы праводзім рэшткі ночы ў абдымках, шэптах і маленьнях, баючыся варухнуцца.

Ніхто ніколі не ўспамінаў і не ўспамінае тую ноч, акрамя маёй мамы, якая ў маладосьці мусіла стаць драматургам, бо ў яе ўсе гісторыі абарочваюцца жахалкамі, містыкай і незваротнай сутнасьцю лёсу! І я яе за гэта вельмі люблю!

Ліпень — кастрычнік 2012
Братыслава — Менск — Вэнтспілс

# КАХАНЬНЕ

Танюткая, пяшчотная, мяккая, ідэальная жанчына, прыстойная, рамантычная, пільная, неверагодна чуйная, прыгожая, сьветлая, творчая, таленавітая, магічная, іншаплянэтная, лёгкая, вясёлая, аптымістычная, сяброўская, заўсёды падтрымае, заўсёды дапаможа, выслухае, выцягне, абдыме... Пра В. я такім чынам магу разважаць суткамі. Яна мой сэнс жыцьця, мой пачатак і мой канец, мая альфа й амэга, мой космас, мой творчы настрой, мая атмасфэра сям’і. Яна адначасова ёсьць са мною паўсюль і вакол мяне, і калі нас ня стане, застанецца той няўлоўны пах, тыя самыя малекулы нашага жыцьця, прадукт каханьня й творчасьці. І па сёньня я ня веру таму факту, што яна стала маёю жонкаю, бо пачыналася ўсё зусім ня так, як большасьць можа падумаць альбо абвыкла верыць, бачыць, ведаць.

Усё пачыналася са сваркі, з шэрага аўтобуса, які, напампаваны маладымі й сырымі дызайнэрамі-студэнтамі, вёз гэтыя целы на мастацкае біенале ў Віцебск. І ў гэтым аўтобусе апынуліся два зусім неадэкватныя чалавекі: мой сябра, творца, паэта Цімур і я, прыблудны ёлупень, які толькі што вярнуўся зь Лёндану ды перажываў маміну хваробу, развод, крызіс каштоўнасьцяў, зьмену жытла... Цімураву выдатную кароткамэтражку высунулі ў асноўны конкурс мастацкага біенале ў разьдзеле мэдыя. Мы абодва былі не ў гуморы, але кожны меў розныя мэты. Усіх агулам, хто ехаў у аўтобусе, мы ненавідзелі, лічылі за бяздарнасьцяў, і, зразумела, калі мы пабачылі, што перад намі сядзяць дзьве дзяўчыны, адна з каторых чытае Грышкаўца, а другая — нейкі "танны" модны часопіс, наша нянавісьць да жыцьця й сьвету сканцэнтравалася на іх. Мы іх абражалі, высьмейвалі, потым абражалі тых, хто за іх заступаўся... Карацей, калі мы прыехалі ў Віцебск, ужо ўвесь аўтобус нас добра ведаў і жадаў нам сьмерці. Але нам было, вядома, похуй! Да пачатку біенале было колькі часу. Мы зь Цімурам напіліся гарэлкі, прыйшлі на адкрыцьцё, сарвалі нейкія пэрформансы, глуміліся з карцін і інсталяцый, абдымаліся, спрабавалі пры людзях цалавацца, пілі — і нас пагналі... Хто мог нават падумаць, што праз колькі гадзін Цімур атрымае галоўны прыз біенале за кароткамэтражку і мы з шумам і вычварэнствам пакінем цырымонію ўзнагароджаньня, а тыя, у каго былі пытаньні наконт вартасьці прысутнасьці на біенале Цімура, пераканаюцца, калі ён, як пераможца, п’яны, падымецца на сцэну па ўзнагароду за найлепшы фільм кароткага мэтра ў намінацыі візуальнае мастацтва і з гонарам паглядзіць на ўсіх зьверху ўніз.

І далей у аўтобусе зваротна ў Менск мы будзем яшчэ горш сябе паводзіць, адзначаючы перамогу "Чалавекансэрвы". Цімур будзе хваліцца й пець песьні, я — праклінаць пасажыраў і ссаць у праход між сядзеньнямі... Тады ў тым аўтобусе была В. разам зь сяброўкаю, менавіта яна чытала Грышкаўца раніцою па дарозе ў Віцебск, менавіта яна, едучы зваротна, чытала нейкі часопіс і глядзела на нас такімі спалоханымі вачыма, якія па памерах нагадвалі карычневыя міні-талерачкі... І яна яшчэ тады даведалася, хто я такі — недарэчны, злосны, незадаволены сваім жыцьцём чалавек, які спрабуе пісаць прозу...

Мы вярнуліся ў Менск, накіраваліся зь Цімурам працягваць піць, дызайнэры з аўтобуса клялі нас, але ня моцна, усе былі стомленыя і проста радыя, што даехалі й вызваліліся ад нашае кампаніі... З В. пасьля гэтага падарожжа мы ня бачыліся два гады, пакуль аднойчы не сутыкнуліся на Купальлі, акурат у Вязынцы. Я тады таксама быў ня надта ахвочы да стасункаў з грамадзтвам, аточаны Цімурам, Зьмітром і Ігарам. Было вельмі сьпякотна й туманна, у нас быў пяршак і намёт, мы былі п’яныя ўшчэнт, бегалі па беразе ракі бяз вопраткі, крычалі, мацюкаліся, чыталі вершы, а пад раніцу елі сырыя шашлыкі й да ўсяго згубілі разабраны намёт... В. тады даведалася, што ў нас дзейнічае літаб’яднаньне "Вобла", і паабяцала прыйсьці, і памылкова мне дастаўся вянок зь дзьмухаўцоў зь ейных малочных рук... Урыўкі купальскай

ночы размаітыя, але дакладна ведаю — я шкадаваў, праз гэты п’яны ўгар я шкадаваў, што такая неверагодная дзяўчына (а я нарэшце яе разгледзеў і нават здолеў крыху пагутарыць) другім разам бачыць мяне цалкам неадэкватным, растаўсьцелым дурнем, да ўсяго яшчэ й напаўраспранутым.

В. пачала хадзіць на нашае літаратурнае аб’яднаньне, прыносіла вершы, прыводзіла сяброўак, чытала, мы абмяркоўвалі, я чытаў, астатнія чыталі й абмяркоўвалі, пасьля выпівалі... Мне неабходна было наноў завязаць зь ёю знаёмства, зрабіць так, каб яна па-іншаму пачала на мяне глядзець, што было неверагодна цяжка, бо я ўжо быў запісаны ў ейную кнігу ўспрыманьня людзей як адзін з самых злых і гнюсных пачвараў... Але я прыдумаў такую рэч.

Праз колькі месяцаў мусіла выйсьці ў выдавецтве "Галіяфы" ў сэрыі "Другі фронт мастацтваў" мая першая кніга брудных апавяданьняў, кніга-інтэрпрэтацыя таго, што мяне хвалявала, кніга-алюзія на мой унутраны сьвет, кніга-лячэньне, кніга-псыхааналітычная-багна, кніга-экзыстэнцыя... і я запрасіў яе дапамагаць мне з вокладкаю.

На той момант я ўжо меў фотакалаж Юры Кузьняцова, але мне трэба было сумясьціць калаж разам са шрыфтом і памерамі вокладкі... Такім чынам мы захрасьлі на некалькі вечароў з працаю на кватэры сяброўкі В.

Мы пачалі адасабляцца ад агульнай тусоўкі пісьменьнікаў, і гэта было лягічна: мой сьвет пераходзіў у валоданьне В., а таксама я разумеў, што шмат каму проста не даю жыць са сваімі апавяданьнямі, таму не было ахвоты на камунікацыю... Я ня бачыў сэнсу ў сваёй літкампаніі, дзе ўсё падавалася нібыта несапраўдным, чымсьці лжывым, толькі два чалавекі мяне там падтрымлівалі, але й яны кудысьці потым падзеліся... І вось, В. працуе над маёю вокладкаю, а я думаю над тым, як бы так зрабіць, каб акрамя працы ў нас зьявіўся вечар адпачынку, кавярня, можа быць, шпацыр па парку альбо паход на якую выставу. Праз гэтыя хваляваньні й развагі я пакутаваў, праводзіў вольныя вечары за бутэлькамі разам зь Цімурам, і адным вечарам я яму проста сказаў, што закаханы ў В. і трэба, каб ён дапамог вырашыць гэтую праблему. І мы, выпіўшы, набраліся нахабства й патэлефанавалі ёй і дамовіліся на сустрэчу ўвечары, калі было ўжо за дзесяць гадзін.

Я скончыў размову па мабільным тэлефоне і, не стрымаўшыся, закрычаў, заскакаў па парку Адама Міцкевіча, акурат ля ягонай марна сядзячай бронзавай постаці, я радаваўся, як дзіця, і Цімур са мною таксама. Гэта для мяне было вялікім крокам, вырашальным.

І вось вечар, ужо ноч, мы, гуляючы, апынуліся ў кватэры сяброўкі В., сьвятло выключана, усе адпачываюць, я ляжу на падлозе, насупраць ляжыць В., яна ўжо сьпіць, я яе буджу, яна скрозь сон мармыча, што ня сьпіць і чаго я ад яе хачу, а я проста адразу і кажу: "Я цябе кахаю", ціхенька кажу, баючыся гэтых слоў. І раптам В. шырока расплюшчвае вочы й аслупянела глядзіць на мяне, шакаваная. Я яе кахаю, я, чалавек, які яе абразіў, паводзіў сябе, як апошні ёлупень, зь якім у яе чыста працоўныя стасункі. Нейкім невядомым чынам яна сёньня гуляла зь ім у парку — і ён закахаўся!? Яна, спалоханая, падскоквае з падлогі й ляціць падыхаць сьвежым паветрам на гаўбец. Мне сорамна, я ня ведаю, што рабіць, толькі сэрца калоціцца, і вусьцішна ад таго, што яна скажа, калі вернецца ў пакой.

Настала раніца, нічога не зьмянілася. В. зь сяброўкаю сядзела на кухні і паўшэптам пра штосьці распавядала. Мы зь Цімурам пакінулі кватэру і разышліся ў розныя бакі... і разышліся, сапраўды разышліся ўсур’ёз і надоўга. Гэта адбылося празь недаказанасьці, праз тое, што мы зусім па-рознаму займаліся літаратураю, нават нягледзячы на тое, што нас яднalі аднолькавыя літаратурныя густы і мы аднолькава былі за супрацію, аднолькава жадалі змагацца, аднолькава лічылі большасьць сучаснай літаратуры няўклюднай падробкай, аднолькава верылі ў самотнасьць творчага пачатку, верылі ў альтэрнатыву...

А потым мы з В. пабачыліся яшчэ раз, і яшчэ, і нават, нягледзячы на тое, што ў той час да В.

заляцаўся нейкі хлопец і пастаянна то спрабаваў ёй пра штосьці намякнуць, то ставіў ёй у слухаўках рамантычныя песьні СПЛІНоў, мы зь ёй пачалі нашае каханьне праз тое, што я выдаткаваў неверагодную колькасьць ідэяў, рэчаў і падставаў, каб сьпярша як мага часьцей бачыцца, а потым нават паехаць у падарожжа ў Нясьвіж, дзе была зорная ноч, кювэт, белы партвэйн зь мінэралкаю, чытаньне ёй услых маіх першых казак і доўгія пацалункі, нечаканыя, гарачыя, і потым была раніца, было крыху няёмка, было ўлюбёна, было шчасьце, адбыўся пачатак, пачатак нашага каханьня.

Кастрычнік 2012

Вэнтспілс

# МАРЫ Й СПАДЗЯВАНЬНІ НА БЕРАГОХ КАКТЭБЕЛЯ

1.

Шчыра кажучы, сьпярша мы з В. сумняваліся ў вартасьці паездкі. Нельга сказаць, што нас ня вабіла думка адпачынку ды зьмены краявідаў Менску на кактэбельскія, але сумнеў быў наконт самога фэстывалю, на які нас запрасілі, — VIII Міжнароднага фэстывалю літаратуры і мастацтва імя Валошына.

Калі мы зайшлі ў цягнік Менск-Феадосія, нас адразу зьбіла з ног нейкая старая жанчына, за сьпінай якой дыхаў перагарам стары муж, а ўжо за іхнымі дзьвюма сьпінамі хаваўся сынок з мутна-п’яным позіркам і фрызурай "пад машынку, але чубчык пакінуць". Я крыху ашалеў, калі гэтая праклятая тройка ашчэрылася на нас, так бы мовіць, мы тут іхныя месцы занялі... І, каб не спрачацца, мы пайшлі са старой жанчынай да праваднічы.

Жанчына ішла бадзёра, прадчуваючы, як яна будзе зганяць са сваіх месцаў недарэчных істот: мастачку з эцюднікам і вар’ята-пісьменьніка з трантамі. Але трэба было бачыць расчараваньне на ейным твары, які адлюстраваў усю сусьветную трагедыю пасьля таго, як праваднiца сказала, што яны памыліліся вагонамі.

Двое мужчын, рохкаючы, пырскаючы сьлінаю, выцягнулі з-пад месцаў свае торбы і з грукатам зьніклі...

Нашаю суседкаю да Гомеля апынулася вельмі прыемная і сумленная дзяўчынка, якая ўсё падарожжа слухала плэер і набірала смс-кі, не зьвяртаючы на нас ані каліўца ўвагі...

Чыгуначныя калёсы зь мяккім шапаценьнем імчалі нас уніз, на поўдзень...

Пасьля вячэрняга прагляду "Чырвонага" з трылёгіі "Тры колеры" Кшыштафа Кісьлёўскага мы даволі мірна паснулі, і толькі двойчы нас палохалі сваімі завітаньнямі памежнікі, спачатку нашы, потым украінскія. Шчыра кажучы, праз сон яны ўсе мне падаліся шэрымі міліцыянтамі-мытнікамі-памежнікамі, зьлітымі ў адно вялікае пытаньне: "Паглядзіце на мяне, ці ёсьць пра што заявіць у дэкларацыю, пакажыце торбы, міграцыйны ліст, дзякуй".

Ранішняе сьвятло расплюшчыла вочы, а колы цягніка за ноч крыху нападдалі пад бакі, і я, нарэшце, прачнуўся памяты, але жывы, агледзеўся, пабачыў з-пад стала В., якая сядзела насупраць мяне і рабіла графічныя занатоўкі падарожжа. Я адчуў сябе зьдзейсьненай зоркай, якую ўпісваюць у мастацкую прастору чорна-белай графікі... Так мы і ехалі: я, В., графічныя занатоўкі і Павел Гюле ў выглядзе кнігі "Мэрсэдэс-Бэнц".

Калі мы нарэшце спыніліся ў Феадосіі, я ўжо добра быў знаёмы з Багумілам Граблам дзякуючы Паўлу Гюле, які, таленавіта прыгваздаўшы мяне да сваёй кнігі, не адпускаў усю дарогу.

Палова першай ночы. Толькі беларускія цягнікі могуць прыбываць на вакзалы ў чужыя і чымсьці варожыя гарады і краіны НОЧЧУ. Да таго як сысьці на зямлю, мы пасьпелі пазнаёміцца з адной даволі дзіўнай жанчынай.

З паўцемры вагона выпаўзла жаночая постаць і паведаміла нам пра тое, што яна здае пакоі на суткі. Праз трыццаць хвілін будзе прыпынак каля аўтавакзалу, яна там недалёка жыве і можа даць нам да раніцы прытулак. Жанчына падавалася крыху п’янай, але пах ад яе быў моцны і канцэнтраваны з цыбулі і часныку. Па меры набліжэньня да прыпынку цемра вакол жанчыны згушчалася, мы цалкам ачунялі ад сну і зьбіралі свае рэчы.

Жанчына завяла размову:
— І чаму вы ў Кактэбель?
— На літаратурна-мастацкі фэстываль.
Жанчына ўсьміхнулася і зрабіла жаласьлівыя вочкі:
— Нябось таксама пішаце... Мо' якія апавяданьні?
— В. — мастачка, я — аўтар некалькіх кніг.
Жанчына прамаўчала, відавочна ня вельмі ва ўсё гэта паверыўшы, і праз хвіліну дадала:
— Ой, у мяне ў хаце ёсьць карціна мора, шыкоўная рэч, я вам скажу. А муж мой, дык ён раней сам апавяданьні ўсялякія пісаў!
Мне стала крыўдна і сумна ад гэтай жанчыны, але тая не зьбіралася нас пакідаць, вырашыўшы, што мы абавязкова мусім спыніцца ў яе на ноч.
— Вы ж ведаеце, колькі з вас зараз возьмуць таксісты — пяцьдзясят баксаў, а то і болей, нягледзячы на тое, што Кактэбель усяго толькі ў васямнаццаці кілямэтрах! А вы ж, я гляджу, такія яшчэ юныя, а ўжо жанатыя, мо' і дзеткі дзе ёсьць (якія, б...яць, дзеткі?! — заўв. аўт.), пішаце тут, малюеце... Вось у нас зь дзедам унук нарадзіўся, дык нашы дзеці яго назвалі Якубам, уяўляеце, дык дзед ані разу да яго пасьля гэтага не падышоў, але пакуль унук быў безь імя, дык ён і мыў яго, і на руках насіў, а як стаў Якубам, дык і ўсё, ані кроку да яго, вось нацыяналіст!
— Ня можа быць, — зьдзівіўся я.
— Так, прыгожы такі хлопец расьце, яму ўжо два гады, але мы яго яшчэ ня бачылі, бо ён у Кіеве з бацькамі, — прамовіла жанчына і раптам спахапілася.
Я адразу адзначыў, што недзе яна тут схлусіла, і мой хісткі давер да яе цалкам зьнік, і я ўпэўніўся, што паеду ў Кактэбель ноччу за любыя грошы...
В. нічога не заўважыла, бо, як і большасьць мастакоў, думкамі лётала ў сусьветным розуме, а вачамі прыкмячала адно разнастайныя колеры...
Калі цягнік спыніўся на патрэбным жанчыне прыпынку, яна сышла на пэрон. Праз акно я заўважыў, як зь цемры да яе падышлі мужчына і дзьве жанчыны. Было відаць, што яны аб чымсьці спрачаюцца, а потым усе разам паглядзелі на наш вагон. Я злавіў позірк мужчыны, і гэты позірк нічога добрага не абяцаў, але наш цягнік ужо пачаў рухацца, і я задаволена ўсьміхнуўся: наступны прыпынак наш, ён жа і апошні.

2.

На вакзале нас сустрэла даволі шчыльная сьцяна чалавечых целаў: прапаноўвалі таксоўкі і пакоі. Да нас адразу прычапіўся мужчына грузінскага выгляду зь лёгкім усходнім акцэнтам, і мы вырашылі ехаць зь ім за дваццаць даляраў у Кактэбель.
Па дарозе мы даведаліся, што Крым перапоўнены савецка-рускімі машынамі "Лада", бо на іншамаркі вялікія мыты, даведаліся пра Планерную гару, пра Каралёва, пра яшчэ немаведама што, і пакуль ён усю гэтую інфармацыю ўліваў у нашыя вушы, настройваючы сваім усходнім акцэнтам на рамантычны лад, машына ляцела настолькі хутка і настолькі крута паварочвала, што нашыя арганізмы не пасьпявалі адаптоўвацца да горнай вышыні і марскога паветра, ціск скакаў уверх-уніз і сэрца абяцала кожную наступную хвіліну спыніцца.
З вар’яцкага стану нас вырваў голас кіроўцы:
— Усё, вось вам дом Валошына і вось вам тут цэлая зона адпачынку мастакоў і літаратараў!
— А дзе тут якія гатэлі, жытло?
— Дык паўсюль, — і кіроўца махнуў рукою ў змрочную прастору.
Мы апынуліся каля адміністрацыі дому Валошына, збоку ад якой было напісана: "Ёсьць

вольныя нумары! Па жытло зьвяртайцеся ў адміністрацыю".

Мы пагрукаліся, праз хвіліну на нас глядзела заспаная жанчына зь відавочнай алькагольнай залежнасьцю на твары. Яна сонна хутала сваё цела ў халат, і яе грудзі гэтаму супраціўляліся, адна цыцка нават на некалькі хвілін усё-ткі вывалілася.

Жанчына нарэшце цалкам расплюшчыла вочы і запыталася, што нам ад яе трэба ў дзьве гадзіны ночы.

Мы адказалі, што ўдзельнічаем у літаратурна-мастацкім фэстывалі імя Валошына.

— Каго? — зьдзіўлена запытала жанчына.

— Я кажу: мы пісьменьнік і мастачка, прыехалі зь Беларусі, зьяўляемся ўдзельнікамі фэстывалю!

— Якога фэстывалю?

— Б...яць, валошынскага!!!

Жанчына так нічога й не зразумела і параіла нам пахадзіць вакол, бо тут шмат розных гасьцініц і яны мусяць нас куды-небудзь расьсяліць.

Пакуль што я трываў і толькі прыкмеціў В., што гэтая жанчына зьяўляецца адміністратарам усяго гэтага літаратурнага запаведніка і ні хера не разумее, пра што мы пытаемся!

У нас была велічэзная торба на колах, якая, грамыхаючы, кацілася за мною. Мы абышлі ўвесь гэты грэбаны "загон" — "літаратурны запаведнік імя Валошына", пабачылі шмат розных хатак і дамкоў, некаторыя зь іх увогуле хаваліся за плотам і былі пад аховай.

Выпадкова дабраліся да мора.

В. ніколі ня бачыла мора, і для яе гэта мусіла апынуцца чымсьці чыстым і радасным...

Яшчэ да берага нам на шляху патрапілася шмат п’яных вычварэнцаў, міма хістаючыся ішоў хлопец і слухаў праз мабілку расейскую папсу. Далей — горш: нашым вачам замест мора адкрыліся неабсяжныя прасторы нейкіх бараў, рэстарацый, шапікаў хуткага харчаваньня, і з кожнай гэтай злачыннай установы сачыўся гучны шансон альбо юрлівы поп, паўсюль на нас глядзелі наркатычныя і п’яныя вочы рускіх баб і мужыкоў, якія нарэшце прыехалі са сваіх далёкіх краёў і дарваліся да свабоднай гарэлкі, да вольнага бадзяньня па пляжы і выпадковага сэксу. Мы былі ў шоку, уражаньняў было шмат, але не такіх, на якія мы спадзяваліся. В. толькі і змагла прамовіць: "Куды гэта мы трапілі?.."

Мне стала вельмі крыўдна за нашае становішча і за тое, што нас ніхто не сустрэў, і за тое, што нават адміністрацыя ня ведае, што тут, у іхным доме-музэі імя Валошына, мусіць адбывацца. Стала крыўдна, што замест мора на нас глядзеў сьвет вычварэнцаў і нейкіх лысых мужыкоў, якіх я бачыў штодзённа ў сваім горадзе, і для гэтага ня трэба было пераадольваць трыццаць гадзін шляху.

Мы вырашылі з усімі нашымі валізамі вярнуцца да будынка адміністрацыі дома Валошына і напісаць смс арганізатару фэстывалю, маўляў, мы каля будынка і ня ведаем, што нам рабіць, дзе прабавіць гэтую ноч...

На мой жаль і сорам, я быў ужо раззлаваны і стомлены, і гэты мой стан моцна турбаваў і псаваў настрой В.

Адказу ад арганізатара не атрымалі, і сустрэць нас ніхто не зьявіўся.

Мы знайшлі на вуліцы каля стаматалёгіі нейкае крэсла. У ім уладкавалася В., я накрыў яе пледам, а сам сеў на стары зэдлік. Спаць мне не хацелася, тым больш што кожныя пяць хвілін міма нас прабягалі нейкія мужыкі з хрыпам і лямантам, і недзе паблізу біліся, і, шчыра кажучы, гэта ў апраметнай цемры гучала даволі жахліва...

Я сядзеў, паліў, злаваўся на гэты сьвет, на самога сябе і праз гадзіну зноў пайшоў шукаць які пакой, бо пачынаўся дождж.

Нейкі паўінтэрнат, які пры дзённым сьвятле апынецца куртуазным гатэлем. Зайшоў туды,

знайшоў рэцэпцыю, дзе мяне акінула вачыма зноўку нейкая заспаная і памятая жанчына, побач зь якой у крэсьле спаў такі ж памяты мужчына. Верагодна, у іх нядаўна быў сэкс (а чаму б і не: тры гадзіны ночы, рэцэпцыя, чутна, як хвалі пляскаюць па камянях — рамантыка).

Значыцца, паглядзела на мяне гэтая жанчына і сумным такім голасам назвала-ткі кошт пакоя на дваіх.

Нам бы не хапіла нашых грошай нават на паўдні зьняць у іх нумар...

Пахадзіўшы ўздоўж берага, бо ў такой цемры неверагодна было адыходзіць кудысьці ўглыб гораду, я вярнуўся да В., якая ня спала, бо было холадна. Дачакаўшыся шостай — сьвітальнай — гадзіны, мы выправіліся ў невядомым кірунку.

І на наш сорам, як толькі мы сышлі з гэтага ад пачатку праклятага месца імя Валошына, мы ўбачылі сам гарадзкі пасёлак, зьверху ўніз, уздоўж і ўпоперак абклееныя абвесткамі: "Здам жытло", "Здам пакой", "Здам жытло люкс, паўлюкс".

Мы былі ў шоку, і я ўжо пачынаў крыўдаваць ня толькі на Валошына і кіраўнікоў фэстывалю, але і на сам Кактэбель, на ягоныя апраметныя ночы безь ліхтароў, на Крым.

Празь пяць хвілін мы знайшлі пакой у цудоўнай сям’і. Засялілі нас у гаспадарскую хату, бо ў іх усяго хат было пяць, але яны зрабілі нам ласку і падсялілі да сябе, дзе ёсьць хатняя прыбіральня, якая потым была вельмі і вельмі дарэчы, але праз пару дзён, і пра гэта пазьней...

- Ну што, на мора прыехалі глядзець? — запыталася гаспадыня.

- Так, мы зь Менску, прыехалі сюды яшчэ а палове першай ночы, удзельнікі літаратурна-мастацкага фэстывалю.

- Ажно ноччу! Зразумела... Вось і я сямнаццаць год таму прыехала паглядзець на мора. Да гэтага часу ўсё гляджу на яго!

Праз паўгадзіны мы ўжо стаялі на гары, адкуль нам адкрываўся цудоўны краявід, і ў тую гадзіну ніхто з нас ужо ня памятаў прыгоды гэтай ночы, бо мора і горы зрабілі сваю справу.

3.

Пакуль В. плюхалася на хвалях, я спрабаваў перамагчы свае комплексы наконт таго, што крыху баюся вады (бо ў дзяцінстве мне давялося двойчы тануць у басэйнах), і таго, што маё цела надта тоўстае. Але на наступны дзень комплексы самі сабой адпалі, бо мора падарыла захапленьне вадою, ды, нагледзеўшыся на турыстаў, якія адпачывалі на берагу, я зразумеў, што на іх фоне натуральна выглядаю хударлявым.

Карацей, у першы дзень ад мора асалоду атрымала толькі В., пасьля чаго мы накіраваліся ў дом Валошына на ўрачыстае адкрыцьцё фэстывалю.

Мы шукалі куратара мастацкай часткі, напаткалі даволі пажылых істот, якія сядзелі за сталом з пустымі куфлямі для віна і на ўсе мае спробы завесьці гутарку рабілі выгляд, што мяне ўвогуле не існуе, падымаючы вочы да неба і ўздыхаючы марудна і цяжка. Стала брыдка: "Милый А., будь так добр, передаааай мне, пожалуйста, вооот эээтот бокал вина, и где же запропастился наш дорогой Рейн...", — а пасьля — стоооомлены ўздых.

В. знайшла куратарку мастацкай часткі, якая параіла ёй далучацца а пятай да знаёмства з мастакамі, дала ёй расклад фэстывалю, дзе В. была запісаная з памылкай у назьве краіны — Белорусь.

Да мяне падышоў куратар літаратурнай часткі і засьмяяўся:

— А чего ж ты мне смс ночью отправил, я ж тебе говорил, что нечего тут ночью искать!

Ну вось, гэты чалавек, атрымаўшы паведамленьне, нават не падышоў да нас, каб нешта параіць, а мы, як недарэкі, стаялі і чакалі ноччу.

Пачалося адкрыццё фэстывалю, мы знайшлі пластыкавыя крэслы. Да нас адразу падышла

нейкая дзяўчына і ўсунула ў нашы рукі па кнізе "Советы сельского доктора", дзяўчына прамовіла:

— З Кіева прыехалі два пісьменьнікі, аўтары гэтай кнігі, — і зьнікла, пакінуўшы нам скасабочаную ўсьмешку.

Кніга апынулася нейкай народнай лякарнай лухтой, кшталту тэлеперадачы "Малахов+", і на вокладцы былі напісаныя тэлефоны, каб зьвяртацца наконт рэалізацыі дадзеных кніг.

Хісткі рэйтынг фэстывалю ў маіх вачах пасьля "Советов сельского доктора" цалкам зруйнаваўся...

— Хадзем адсюль.

— Я чакала, калі ты гэта прамовіш.

Я пачаў шукаць рэдактара "Дружбы народаў", каб забраць ганарар за публікацыю; дарэчы, гэтыя грошы ў будучыні спатрэбіліся. Мне адказалі, што ёсьць падазрэньне, што сёньня ён, натуральна, ня зьявіцца.

А пятай, калі мы зноў вярнуліся пасьля мора, каб В. мела магчымасьць пазнаёміцца з мастакамі, якія, мы спадзяваліся, апынуцца больш прывабнымі людзьмі, мы ўвогуле нікога не засьпелі: куратар па мастацтве адказала, што ня ведае, дзе ўсе.

В. зразумела, што з мастацтвам у іх так жа цяжка, як і зь літаратурай.

Мы вырашылі, што фэстываль увогуле ня тычыцца нас.

Увечары нарэшце прыйшло задавальненьне жыцьцём: былі смачнае віно, піца, сушы, зоркі, мора, сэкс... і мы пачуваліся сапраўды някепска...

4.

На наступны дзень пад раніцу мы ўскараскаліся на даволі нізкую гару, але гэты працэс імгненна скраў усю моц цела. Патнеючы і цяжка дыхаючы, наверсе я прыводзіў сябе ў нармалёвы стан. В. пасьпела падрыхтавацца да эцюда, а я, не пасьпеўшы перавесьці дух, мусіў быў скаціцца з гары па кавун.

Кавун зваўся "Чорны рыцар" і быў сапраўды чорны — звонку без аніводнай рыскі, і смак ягоны быў падобны да цукру зь мёдам. Пакуль мы спакусьліва ўгрызаліся ў мякаць, эцюднік з напаўнамаляванай карцінай ад ветру пракінуўся і накрыў сабою ўсё, над чым так працавала В.

Мне спадабалася, як В. адрэагавала:

— Як цудоўна, мы тут, на гары, каля мора, пішам...

На маё разуменьне, гэта хутчэй быў тактычны псыхалягічны крок да захаваньня свайго эмацыйнага фону ў добрым стане, пакуль даядаўся кавун і сапсаваны эцюд чакаў, калі яго выправяць...

На гары была скончана мая казачная гісторыя для "Апранутых апавяданьняў", дакладней яе чарнавы варыянт, і мы зноўку накіраваліся ў валошынскі дом, бо я клапаціўся аб сваім ганарары, які мы там зноўку так і не знайшлі.

Праз колькі хвілін я без аніякага энтузіязму блукаў па фэшэнэбельным гатэлі ў пошуках Гадо — рэдактара маскоўскага часопісу... адзначыўшы тое, што ўсе, хто прыехаў у складзе рускіх літаратараў, былі бессаромна якасна ўладкаваныя — дарагі гатэль, дарагія п’янкі. Урэшце, нікога не знайшоўшы, я зьбег з майстар-кляса і мы разам з В. пакрочылі ў бок нудысцкага пляжу, дзе недалёка ад яго ладзіўся джазавы фэстываль...

Мужчынскія чэлесы і жаночыя грудзі прысаромілі нас, бо мы праходзілі міма ўсіх гэтых дзіўных людзей у вопратцы.

Мы адшукалі прыстойную рэстарацыю, каб пасьнедаць, я замовіў бараніну, якая пазьней, пад вечар, цяжка і натужліва вылівалася з майго страўніка ва ўнітаз... так цягнулася ўсю ноч, пігулкі

не спрацоўвалі, бо разам з ванітамі яны самотна сплывалі ў туалеце... і так працягвалася амаль да наступнага вечара... у мяне была толькі адна думка: "Прыйсьці ў тую рэстарацыю, знайсьці кухара і п...зьдзіць яго, п...зьдзіць яго, гэтага грэбанага кухара, нагамі..."

Але я ня мог не пагадзіцца, што да сымптомаў атручаньня вечар быў выдатны, цудоўны, шаўковы, любоўны і замілаваны, нічога іншага для шчасьця й ня трэба было, бо ўсё было тут і цяпер, вось на гэтым беразе, каля гэтых хваляў, разам з гэтай прыўкраснай В.

Другі эцюд абмінуў мяне, атручаньне моцна трымала страўнік у палоне, амаль увесь дзень прайшоў пад праглядам фільмаў Яна Шванкмаера, мой мозг ад задавальненьня проста выбухаў кожныя пяць хвілін колерамі шчасьця... "Аліса", "Палена", "Фаўст", "Пякельныя сласьці" зноўку і зноўку цешылі маю душу, мне нават падавалася гэта вар’яцтвам — столькі разоў глядзець адныя і тыя ж фільмы.

У той момант В. малявала горы і плавала ў моры, і я нават пазьней знайшоў моц прыйсьці і паназіраць за яе заплывам. Улічваючы тое, што на Чорным моры быў шторм і хвалі дасягалі ў вышыні больш за тры мэтры, гэта было неверагодна жахліва, але адначасова і містычна захапляльна.

В. першую хвалю заўсёды трывала, але шторм хутка наганяў другую, якая зьбівала яе з ног, і трэцяй хваляй, добра так пнуўшы, выкідала на бераг... В. хапіла дзесяці хвілін, каб нацешыцца далёка не дзіцячымі марскімі забавамі, пасьля чаго яна выпаўзла на бераг.

Потым былі сушкі, гарбата і чароўны сыр "Гаўда", які там настолькі быў смачны, што цяпер дома я купляю толькі яго і ўзгадваю...

5.

Самае бязглуздае, нязграбнае і гідкае, што кожным днём траплялася на нашым шляху па некалькі разоў, — жанчына, якая зарабляла грошы пры дапамозе свайго карлікавага парсючка. Але ня сам працэс быў такі агідны і вусьцішны, а тое, як яна сябе паводзіла і як выглядаў гэты няшчасны парсючок: маленечкі, хударлявы, чорненькі, з хахалком, які быў налачаны і стаяў эракезам, да вочак прыклеены плястыкавыя акуляры, за шыю ён быў прывязаны павадком, які яго нацягваў уверх і не даваў яму сесьці, хоць той і намагаўся. Парсючок глядзеў толькі ў зямлю і штохвіліны пускаў сьліну, быццам кепска пачуваўся. Жанчына ўсё паліла і паліла цыгарэты, час ад часу пінала нагою парсючка і выкрыквала: "Фотография с кабаном, не прооооходим миииимо, фото с настоящим кабаном". Дарэчы, дзякуй Богу, ніхто зь мінакоў фота зь ім не рабіў. А аднойчы гэтая кудлатая паскуда пафарбавала няшчаснай жывёле чырвоным лакам капыты...

6.

Трэці ранішні эцюд таксама прайшоў без майго ўдзелу: наступнай раніцай я праз атручаньне таксама быў яшчэ ня надта здольны на падарожжы. В. тады малявала мора, а я дасьледаваў фільмы Пітэра Грынуэя "Жывот архітэктара" і "Кнігі Праспэра".

Удзень я нарэшце дабраўся да свайго ганарару. Вочы галоўнага рэдактара глядзелі на мяне крыху сумна, ня ведаю, мо' ён у той момант аб нечым сваім разважаў... Я паабяцаў яму застацца на майстар-кляс, але ня вытрываў, і праз хвіліну маё цела ласкава лізалі марскія хвалі, атручаньне яшчэ адчувалася, але ўжо ня так моцна...

На дзіва ў Кактэбелі было шмат хіпі, але не сапраўдных хіпі, збольшага такіх, наркаманскіх, якія саромяць гэтую контркультуру, — брудных, нямытых і відавочна абдаўбаных не марыхуанай, але нечым надта мацнейшым (амфітамінам, абязбольнымі "коламі", шыркаю)... Відавочна джаз-фэстываль ім на карысьць не пайшоў, бо яны і дагэтуль тырчаць у Кактэбелі, бо

ня маюць грошай адтуль зьехаць, слухаючы замест джазу сваю прагнілую і непрывабную музыку кшталту гангста-рэпа альбо яшчэ якой лухты ад "Нагано" ды "Гуфа" (на маё зьдзіўленьне, менавіта гэтую музыку яны слухалі штодзень, калі я іх бачыў) і наркаманячы...

7.

Бяссонная ноч мінула. В. стала крыху лепш, але яна яшчэ пачувалася атручанай (яна ўвечары атруцілася пракіслым віном).

Мы сабралі нашыя неверагодна вялікія валізы. Амаль нічым, што ўзялі з сабою, мы не скарысталіся, але рэчаў у нас пабольшала, бо тры эцюды, алей на якіх павінен быў сохнуць яшчэ два тыдні, неверагодна заміналі нам на зваротным шляху. Якім чынам мы нарэшце апынуліся ў цягніку, я памятаю даволі цьмяна. В. гэтага таксама амаль ня памятае, бо мне было сьпякотна і цяжка, ёй было ванітоўна, і мы разам шукалі яблыкі ў дарогу, якія неверагодным чынам раптам зьніклі ў Феадосіі.

Цягнік рыпнуў, кашлянуў і лянотна пацягнуўся, шоргаючы калёсамі, нібы стары — тапкамі.

Вагон быў забіты людскімі істотамі, бо гэты цягнік быў апошні ў сэзоне і кожны мусіў вяртацца на радзіму. Казаць, што было нязручна ехаць, гэта, шчыра кажучы, значыцца схлусіць: насамрэч ехаць было па-вар’яцку нязручна і неверагодна цяжка, бо кожны, хто сядзеў у нашым пляцкартным вагоне, меў з сабою (што б вы думалі?), вядома, піва, і столькі піва, колькі магло трываць сапраўднае піўное пуза!

Але піва было яшчэ паловай пакут, бо на кожным прыпынку — варта толькі цягніку спыніцца нават на хвіліну і нават проста прапусьціць які "таварняк" — у адчыненыя вокны пачыналі сыпацца дыні, кавуны, семкі і, вядома, неверагодная колькасьць сушанай салёнай рыбы розных памераў і гатункаў. Людзі звонку кідаліся лбамі на вокны, лямантавалі, нібыта паміраючы, каб узялі адразу дзесяць салёных бычкоў за пяць грывень, і гэтыя бычкі ляцелі ў форткі, а пасажыры ператвараліся ў дзікуноў, парсюкоў, вепрукоў і выкідалі свае грошы ў форткі, быццам гэтая рыба і гэтыя дыні былі апошняй у жыцьці ежай...

Нам было жахліва за гэтымназіраць, увесь вагон сьмярдзеў алькаголем, салёнай рыбай, дыняй і нават цыбуляй. Гэта было ванітоўна, а наперадзе нас чакала яшчэ дваццаць пяць гадзін вяртаньня дадому... Людзі ўсё жэрлі і пілі, жэрлі і сьмярдзелі, я хваляваўся, каб яны не палопаліся альбо, у скрайнім выпадку, не пажэрлі адно аднаго...

Мы вырашылі адцягнуць увагу і леглі разам на адну койку, і я пачаў дычытваць услых "Праклятых гасьцей сталіцы" Альгерда Бахарэвіча (назва найлепш пасавала таму, што адбывалася ў цягніку). В. ляжала і слухала, а суседка побач пачула беларускую мову і пачала сваім суседзям, украінцам, распавядаць, як зьнікае ў іх краіне родная мова... Гэтая паскуда так гаварыла, што я быў вымушаны пагадзіцца са сваёю думкаю, што ў ейнай краіне, можа, і зьнікае мова, але ў маёй краіне, у якую я вяртаюся разам са сваёю жонкаю, мова жыла, жыве і будзе жыць і разьвівацца.

Але гэтую жанчыну ні я, ні хто іншы потым не чапалі, бо стала зразумела, што яна нарадзілася без мазгоў, і нават суседзі-ўкраінцы неяк сьціхлі і да свайго прыпынку ў Чарнігаве маўчалі.

Ноч выдалася ці ня самая горшая ў маім жыцці. Дзякуй Богу, В. моцна спала да самай раніцы, але вось я, напрыклад, не саснуўшы і гадзіны, цалкам быў расчараваны ў агульначалавечай цывілізацыі. Спадзяюся, ня трэба шмат тлумачыць, што адбывалася з усімі тымі пасажырамі, якія ўвесь дзень у цягніку ўжывалі ўсё запар... Прыбіральня была засраная, бо страўнікі адмовіліся ўсё гэта страваваць, шкарпэткі ўсіх тых мужыкоў сьмярдзелі нібыта мініпамыйніцы, нехта штохвіліны кашляў, быццам паміраў, а недалёка ад мяне адпачываў нейкі ідыёт, які не

спыняўся пярдзець і пасьля кожнага зробленага дзеяньня па-вар’яцку рагатаць. Здаецца мне, яго гэта цешыла...

Нарэшце пад раніцу нейкім магічным чынам паветра пасьвяжэла; магчыма, праваднiца парасчыняла форткі... Праваднiцу, дарэчы, мне было шкада: прывабная дзяўчына, а на такой дурной працы, калі быдла і сьмярдзеньне дзень і ноч... дзень і ноч.

Што казаць, нашыя прыгоды пад раніцу не спыніліся, бо за некалькі гадзін да мяжы мы з В. выявілі, што згубілі міграцыйныя паперкі, якія запаўнялі, калі ехалі ў Крым...

8.

Памежнік вывеў нас у тамбур і распавёў, што мы мусім высаджвацца і праплочваць штраф. Я ўявіў, як мы з вагона выцягваем свае валізы і тры карціны з сырым алеем і сядзім на ўзбочыне, на мяжы, самотныя і памятыя пераездам... Але памежнік не разгубіўся і, палічыўшы, колькі ў нас было грошай, запытаўся, ці будзе ў Беларусі ў нас магчымасьць расплочвацца грыўнамі. Атрымаўшы пацьверджаньне, пакінуў нам пяцьдзясят грывен, астатняе паклаў у сваю кішэню, і мы, з пячаткамі ў пашпартах, паехалі дадому...

У Беларусі наш цягнік ператварыўся ў электрычку. Я з такім ніколі не сутыкаўся: на прыпынках у вагон набіваліся людзі і займалі ложкі, дзе мусілі адпачываць падарожнікі з Феадосіі, а адзін вясковец нават нахабна ўсадзіў свой зад на коўдру дзяўчынкі, якая спала, едучы, як і мы, ад самага Кактэбеля.

Дом сустрэў нас шчыра і смачна, мая матуля нагатавала ежы, і мы вячэралі пад непаўторнае кактэбельскае віно... Добра, што мы нарэшце апынуліся дома.

13.09 — 25.09.2010

Кактэбель — Менск

# ПРАЖСКІ ДЗЁНЬНІК

*Гэты тэкст прыгатаваны без заправы,*
*каб пазбавіцца алергічнай рэакцыі.*
*Маленькі ўступны сказ*

Адносіны з Прагай склаліся досыць дзіўна і складана, кшталту кароткатэрміновага вар'яцкага каханьня, якое пакінула шнар у выглядзе нарцыса пад ніжнімі рэбрамі.

1.

Дарога заставалася і застаецца сымбалем жыцьця, нейкага сакральнага дзеяньня; асабліва гостра гэта адчуваецца тады, калі па ёй крочыш.

Дарога, напрыканцы якой чакае сьфінкс; і калі ты дасі адпаведныя адказы на ягоныя пытаньні і здагадаешся пра ўсе ягоныя загадкі, ён давядзе табе сэнс пройдзенага шляху.

Але мая дарога яшчэ на пачатку здрадзіла мне, стаўшыся халоднай ракой, у якой пот, сьцякаючы струменямі па целе, распушчаўся ў вільгаці, ператвараючыся ў H2O.

Я рыба, я нават не паўчалавека, ужо ня кажучы аб тым, што я не пісьменьнік, я — рыба, пра што сьведчыць мой марфалягічны склад.

Праплываючы побач з жоўтай субмарынай, адпраўленай у Прагу празь беларускія і польскія рэкі, я павольна сабе плыў, згадваючы прыемнасьці самотнага існаваньня, разбаўленага думкамі асэнсаваньня сваёй новай постаці.

Дзякуй Богу, што рыбы час ад часу могуць маўчаць і размаўляюць толькі па сваім жаданьні.

Дзякуй Богу, рыбы могуць ня чуць, калі ім гэтага хочацца. Таму мой слых на працягу ўсяго воднага падарожжа быў прызначаны збольшага для адной функцыі, унутранай — сачыць за рэхам сэрцабіцьця.

Наперадзе варшаўскія воды, гарэлкавая вільгаць трымціць па-над вадою, жоўтая субмарына набірае хуткасьць, у вокны выглядаюць рыбакі, рыба дзівіцца ім, але яшчэ ня ведае, што рыбакі будуць паляваць на такіх, як яна.

Засынаючы на беразе чэскай Влтавы, памятай пра абяцаньне вярнуцца дамоў...

2.

Кафка знаходзіўся акурат пад старым ліхтаром на бруку. Было цёмна і цёпла, і дождж нечакана ласкава казытаў карпавыя плаўнікі, вада з кожнай хвілінай падымалася вышэй, і калі яна амаль па шыю схавала ўсе помнікі на Карлавым мосьце, Кафка споўз са сьпіны мужчыны, які яго насіў, плюхнуўся ў ваду і разам з рыбамі ператварыўся ў Ісусаў з папяровымі крыжамі за плячыма. Усе пакрочылі да Пражскага Граду, зацягнутага дажджавой смугой. Пад нагамі мякка давіліся сьлімакі. Адвечныя градавыя лябірынты прыадчынялі свае ўваходы, кафкіянства заманьвала туды.

Жыцьцё няўмольна цягнула ўгору, а потым, калі Град быў дасягнуты, наляцелі моцныя хвалі і, падхапіўшы Хрыстовыя целы, панесьлі вадаспадам праз пралёты лесьвіц уніз, празь вінаграднікі, дамы шаснаццатага стагодзьдзя з аблупленай тынкоўкай, наслоенай шматсантымэтрамі адна на адну, і празь сярэднявечныя кавярні. Гэтым істотам нічога не

заставалася, як, скінуўшы абліччы Ісусаў, ператварыцца зноў у рыб і несьціся вадаспадам да прыступкаў граду.

Кафка па дарозе прамовіў рыбе:

- Ведаеш, рыба, у гэтым горадзе зьявілася такая традыцыя: тут сорамна пісаць усялякую лухту. Тых, хто спрабуе псаваць паперу, па начох наведвае Голэм і адрывае ім рукі, і кідае іх у раку, а сам зьнікае ў адвечных калідорах чэскіх будынкаў, — Кафка працаваў плаўнікамі, і ягоны карпавы рот працягваў: — Так здарылася, што адзін паэт-недарэка яшчэ ў XVII стагодзьдзі замяніў Голэму паперку на мэталёвую манэту з выбітымі словамі. І цяпер кожны вечар Голэм зьдзяйсьняе тое, што яму выбіта, і кожным вечарам у розных кутках Прагі чуюцца пакутлівыя крыкі людзей, якія згубіліся ў літарных прасторах, заблыталіся ў дзеясловах ды наўпрост спарахнелі ўнутры, што калі нават муза будзе рэзаць вены замест іх, каб натхніць на шэдэўр, гэта ніякім чынам не адлюструецца на іхных непатрэбных паперах...

Бойся, рыба, гэтага, табе яшчэ плыць дамоў праз сьлівовіцкую вільгаць, праз піўную раку.

Карпавая луска Кафкі бліснула пад струменем маладзіка; рыба ўгледзелася ў небасхіл, але нічога не пабачыла; пачулася, як вінт жоўтай субмарыны неўзабаве праплыў недзе побач.

Намагаючыся быць больш-менш падобным да хома сапіенса, рыба, апынуўшыся на беразе, папаўзла ў невядомым кірунку. Вада зь неба ліла безь перапынкаў, нагадваючы пра парасоны, папяровыя крыжы і самаадданасьць Хрыста. Час падштурхоўваў да прыгод, вада ватова сьцялілася пад нагамі; калі б ня вільгаць, можна было б пачувацца прыстойней, але на дадзены момант было толькі смутнае адчуваньне сваёй сутнасьці кшталту вычварэністай ахвяры.

Новы шлях, новы лёс, новы сьвет.

3.

Месца дзеяньня: Oleznica.

Wiborcowa гарэлка разьлітая па стале, струменямі сьцякае на падлогу, яе немагчыма спыніць, пакой напаўняецца вясёлкаваю вільгацьцю, рыбнае цела ўжо ў вадзе, алькаголь праз жабры трапляе ў страўнік.

З-пад дзьвярной шчыліны гарэлка прасочваецца ў калідор і па лесьвіцы сьцякае на першы паверх; рыба чакае пэўнай хвалі і, калі дзьверы ўжо не вытрымліваюць ціску, спускаецца па воднай лесьвіцы ў возера на першым паверсе, дзе на рэцэпцыі сядзяць колькі рыб.

Побач з рэцэпцыяй жоўтая субмарына выплёўвае ў прастору рыбакоў, якія павольна займаюць свае месцы на канапах, крэслах, зэдліках, размотваюць вуды, сеткі, донкі і па чарзе пачынаюць лавіць спачатку адзін аднаго, а потым рыб.

Хрыстос сказаў: ідзіце за мною, і я навучу вас лавіць "чалавекаў". Але рыбакі лавілі літаратараў, падаграецца вада, хутка будзе юха.

Рыба, мінаючы пэўныя кручкі і блёсны, усё-ткі трапілася на вуду, і калі яна была падхоплена і даволі прафэсійна выкінута на бераг, то пачула:

— Эх, нейкая малая рыба мне патрапілася, да ўсяго яшчэ мо' слабенькая, зь яе нават немагчыма высмактаць ніякай патрэбнай і якаснай літары, не тое што сказа, пэўна нават у яе целе замест крыві цячэ гарэлка, а гэта кепска для маёй кніжнай бесьсьмяротнай спадчыны. Бо я ўжываю толькі празрыстае, чыстае і непаўторнае, — прамовіў рыбак і скрывіў сваю дзюбу.

Рыба моўчкі паглядзела на рыбака, але, ведаючы, што няма ніякага сэнсу нешта адказваць альбо спрачацца, што яе словы нічога ня зьменяць, моўчкі ляснула хвастом па стале, на які трапіла, і плюхнулася ў ваду.

З субмарыны выйшла піянэр-важатая, пільна прасачыла за падзеямі вакол, праверыла вуды,

асадкі, дала паперы ды падкарміла маленькіх рыбаў, а рыбакам дазволіла зварыць з адной зь іх юху. Піянэр-важатая час ад часу падкормлівала ўсіх, але яе адной не хапала, каб трымаць ідэальную атмасфэру ў субмарыне, таму юха з адной рыбы у дзень была неблагім выйсьцем, кшталту ахвяры дзеля добрай справы. Матыль скончыўся, рыбалка таксама, рыбакі пакрочылі напрасткі праз раку ў субмарыну, рыбы павольна сачылі за іх рухамі.

Жыцьцё разам з водным паветрам працягвала паглынацца жабрамі...

4.

Дзе і якім чынам чалавек можа празрыста асэнсаваць самога сябе, зазірнуць у сваю існасьць?

Нехта падумае, што ў дадзеным выпадку самае лепшае выйсьце — гэта самота альбо часовае знаходжаньне далёка ад дому, і пажадана, каб за мяжой. Але, хутчэй за ўсё, усе гэтыя рамантычныя выпадкі не спрацоўваюць, і сэнс нашага існаваньня апантана прыходзіць да нас далёка ня ў самых прыстойных месцах і момантах, кшталту прыбіральняў, альбо калі мы, напрыклад, калупаемся ў пазногцях на нагах, падчас прагляду порнафільма, альбо падчас таго, калі звар’яцелая і пастарэлая прастытутка, адсмоктваючы, раптам пачынае ванітаваць і прабачацца, так бы мовіць, гераін храновы трапіўся. І ты, ледзь ня плачучы, раптам разумееш, наколькі ты мізэрны вычварэнец у гэтым мізантрапічным сьвеце...

Сэнс, экзістэнцыя, спасьціжэньні сваёй сутнасьці — гэта часта падобна да мастурбацыі ўласных мазгоў, але да мастурбацыі без шчасьлівай кульмінацыі. На жаль, бяз дадзенага мастурбацыйнага рытуалу чалавеку будзе самотна на гэтай Плянэце, бо ён мае быць разумным, разважлівым, шукаючым.

Нехта можа запытацца: тыя істоты, якія не сутыкаюцца ў жыцьці з падобнымі сытуацыямі, значыцца, ня маюць шанцаў адкрыць для сябе сэнс жыцьця? Але ў дадзеным выпадку я дадам, што такія істоты ў прынцыпе бываюць трох відаў: дзеці, манашкі (пра манашак нават можна было б паспрачацца) ды псыхічна хворыя.

Людзі, якія насамрэч не сутыкаюцца па жыцьці ні зь якімі пагранічнымі сытуацыямі, заўжды маюць сваё плацэба, кшталту соскі, якую ўсё жыцьцё трымаюць у роце ды сьвята вераць у сапраўдную сэнсавую "амэгу" жыцьця, і ня дай ім Божа пачаць займацца перакладамі, гісторыяй альбо літаратурай — такія людзі дзіка, нахрапам, але выдзяўбуць сваю сраную думку і выдадуць яе за апошнюю ісьціну, якая можа выйсьці ў адкрыты космас і даляцець да сусьветнай гісторыі...

Рыба заўважыла, што пачала надта часта мастурбаваць свае мазгі.

5.

Бахарэвіч быў падобны да сама, але, у адрозьненьне ад рыбы, быў няголены і зь люлькай; разам зь ім плыла ягоная сям’я. Спатканьне яго з рыбаю адбылося па дарозе ў Вімпэрк, куды таксама накіроўвалася жоўтая субмарына, заглынуўшая рыбакоў.

Скрозь пірацкую настойку рыба даплыла да замку Вімпэрк, у якім старажытнымі часамі затрымліваліся рознымі вычварэнцамі краснапёркі Геніюшы, і спынілася перавесьці дух.

Бахарэвіч-сом адзначыў, што рыба стала крыху падобнай да вугра, і гэта яго крыху зьдзівіла. Але рыба патлумачыла, што яшчэ ня ведае дакладна, хто яна і які сэнс у яе жыцьці, таму форма ейнага цела і душы час ад часу мяняецца. Люлька кіўнула ў знак разуменьня і згоды і невялікімі струменьчыкамі выпусьціла мяккі тытунёвы дымок, ахутаўшы прастору чароўным пахам.

Невялікія струменьчыкі пірацкай настойкі, што крынічкамі білі ў розных месцах зямлі, раптам зьліліся ў адну вялікую раку і, падхапіўшы пэрсанажаў, вадаспадам панесьліся згары ўніз, да падножжа, дзе статычнае возера ператваралася ў мора, якое патапляе наваколье. Мора прыняла рыб з урачыстасьцю і цеплынёю... Сом разьвітаўся і адплыў да сям’і, заўтра іх з рыбай чакала новая сустрэча.

Рыба засталася, і паток вынес яе ў адкрыты акіян, дзе яна захраснула ва ўласных успамінах, якія перарываліся натужлівым голасам краснапёркі Геніюш, якая не была прызвычаенаю да такой канцэнтрацыі пірацкай настойкі ў вадзе, таму хутка змоўкла і пайшла на дно, яе дух вярнуўся ў сьцены Вімпэрку.

Маленькія рыбы не жывуць у вялікай вадзе...

6.

Рыба ўжо звыклася з прысутнасьцю субмарыны, зразумела, што ў дадзеным выпадку гэтае суседзкае існаваньне зьяўляецца сакральным сэнсам жыцьця, біялягічным ланцугом, у якім субмарына пажырае рыбакоў, а рыбакі рыб, а рыбы жывуць ва ўласным пошуку тых, каго можна паглынаць, але часьцей за ўсё натыкаюцца на такіх жа, як і яны, рыб і спрабуюць займацца канібалізмам, але літаратура трывае нават гэта, таму водна-літарная прастора ў сваіх закутках хавае косткі ўсіх істот, нават тых рыбакоў, што перайшлі на донкі і сеткі, іх таксама час ад часу пад’ядаюць якія рыбёхі.

Аднойчы чэрава субмарыны нарадзіла Адамовіча-ката. Ён павольна выйшаў, трымаючы ў адной руцэ цьвік, а ў другой  — сусьветны розум, які кожны мог удыхнуць праз дзірку ў бутэльцы. Поўсьць Адамовіча-ката хавала ў сабе пах гэтага самага сусьветнага розуму, усьмешка шырока расьцягвалася, як у Буды, бляскам сваім палохаючы начную цемру. Кот час ад часу паляваў на розных падазроных мышанят, якія жылі ў субмарыне і спрабавалі выдаваць сябе за рыб. Яшчэ кот праглынаў па рыбіне... Ягоны чырвоны бляск вачэй прадказваў будучыню.

Рыба Д, што плавала паблізу, цягнула свае плаўнікі ўгору ды рабіла занатоўкі аб жоўтай субмарыне, бо загад піянэр-важатай быў такі: прасачыць падзеі калясубмарынных падарожжаў, хто каго спрабуе зьесьці альбо падмануць. З цягам часу, улічваючы, што распаўсюджанай ежай станавіліся толькі рыбы, якія нават самі сябе спрабавалі на смак, падарожжа мусіла выйсьці з-пад кантролю, таму па гадзіне ў дзень уводзіўся аўтарытарны рэжым, якім запраўляла важатая, і камусьці пачувалася крыху лягчэй жыць, але, вядома, ня ўсім, а хутчэй большасьці з рыбакоў і рыб.

Час быў вячэрні, рака Влтава падымалася, выходзіла са сваіх берагоў, Кафка чакаў рыбу на адным з дахаў, але рыба, падкраўшыся ззаду, ператварылася ў крумкача і пачала склёўваць мазгі карпа-Кафкі. Ён быў ня супраць падзяліцца розумам.

На даху Бахарэвіч-сом павольна дыміў люлькай, дажджавыя кроплі з бляскам сьцякалі па ягоным целе, кот, цьвіком прыгваздаўшы мышаня, разважліва глядзеў у неба, зацягнутае аблокамі, наступіла ноч, прывіды Карлавага мосту, трымаючы ў руках крыжы і шаблі, назіралі дзіўныя падзеі, якія адбываліся на іх вачах, колеры дамоў сьцякалі струменьчыкамі ў калектар. Дамы станавіліся шэрымі... Голэм, седзячы на даху старой Старонавай сінагогі, недалёка ад даху, на якім сядзелі рыбы і кот, грыз пазногаць яшчэ цёплай адарванай рукі аднаго з чэшскіх пісьменьнікаў, які жыў у Празе 6.

Да раніцы было яшчэ далёка, і паветра зацягнула смугою  — сусьветны розум пачаў пахнуць паленаю травою.

Бахарэвіч-сом разьвітаўся і па вадасьцёку сплыў да сям’і.

Мухі, як заўжды, танчылі мадэрновы палёт разам з матылямі каля жоўтых ліхтароў, ноч ім не перашкаджала займацца мастацтвам.

Кот замяўкаў: "О мае рознакаляровыя воды ад Граду да Ростылы, о мае воды зямныя..."

І была цемра, мазгі Кафкі бардовым колерам сьвяціліся на вуснах рыбы-крумкача.

7.

Сьвяты Віт, сумна ўтаропіўшыся ў брукаванку Карлавага моста, спрабаваў не прыкмячаць таго, што на ім адбывалася. Была раніца; жоўтая субмарына, вільнуўшы хвастом, зьнікла ў кірунку Прагі 8, пакінуўшы рыбу ў адзіноце; дзень набываў тэмп; мост запаўняўся рознымі целамі, якія мэтанакіравана спрабавалі зьнішчыць горад і не пакінуць на ім нават камянёў і падмуркаў.

Горад задыхаўся ад урбанізацыі і перанаселенасьці. Восы — сымбаль Прагі — высоўвалі свае джалы і ўтыкалі іх у целы вычварэнцаў і прывідаў Карлавага моста, і прыпухласьці ад джалаў станавіліся пухлінамі, а джалы — пікамі. Але гэта нікога ня стрымлівала ад руйнаваньня гораду, не спыняла працэсу міжнацыянальнага сукупленьня, працэсу перараджэньня.

Акрамя Сьвятога Віта на мосьце было яшчэ шмат розных счарнелых істот, якія на сваіх узвышаючых прыступках былі сьведкамі таго, як паступова гвалціўся іх горад, істоты, маючы адзін аднаго ў розныя дзіркі, нараджалі шматнацыянальнасьць, якая паступова, па каменьчыку, руйнавала горад. Восы пакутавалі, іх мёртвыя целы ўсейвалі мост, нічога не дапамагала. Семя сьцякала ручаямі ў раку і зьмешвалася са сьлівовіцай. Сьвяты Віт пакутаваў, каля яго зьбіраліся розныя блазны і пачыналі танчыць, каб атрымаць бласлаўлёнае здароўе...

Усё, што належала краіне і гісторыі, адначасова ёй не належала... Карп-Кафка нэрвова паліў у куце.

Сьвяты Віт выцягваў сваю каменна-чорную манумэнтальную постаць да неба і, быццам расьліна, прарастаў каранямі з брукаванкі, якая падсілкоўвалася семенем.

Рускія вычварэнцы ваявалі на кірмашы, чорныя афрыканцы гандлявалі наркотыкамі, віетнамцы распрадавалі культурную спадчыну ў выглядзе брыдотных магніцікаў...

Бахарэвіч кажа, што вельмі любіць гэты горад, але ён надта пералюднены, рыба пагаджаецца зь ім. Кафка кажа, што гэты горад навявае на яго смуту і дэпрэсію, але раней такога не было, раней ён вельмі добра адчуваў пульсацыю думкі.

Ад раніцы да вечара ідзе працэс адваёўваньня тэрыторыі, ідзе працэс вычварэнізацыі, сукупленьня, блядзкасьці, фатаграфаваньня адных і тых жа месцаў... Чэшскі народ невядома дзе жыве, але ня ў Празе.

У Влтаву ўпадаюць тры ракі: ромавая, піўная і сьлівовая, рыба баіцца патануць, сом-Бахарэвіч дадае мужнасьці, так проста рыба не патоне, хутчэй зь яе зварыць суп які рыбак з субмарыны. Рыба абірае ромавую раку, каб даплыць да Глобуса сьвету.

Сьвяты Віт з кожным днём становіцца ўсё вышэй і вышэй, ягоныя карані ўжо спусьціліся ў раку, прывіды і вычварэнцы не даюць яму спыняцца ў росьце...

8.

Бар, у якім ліецца віно, разбаўленае мінэралкай. Порнапісьменьніца кажа:

- Уздоўж беларускіх дарог і рэк — пустэчы, няма ні людзей, ні дамоў...

Яна не разумее, што рэкляма і гіпэрмаркеты, крамы і дамы ўздоўж дарог, як, напрыклад, у Польшчы, горш за палі і лясы, як у Беларусі. У беларусаў няма такой традыцыі — брудзіць дарогі, яны жывуць падалей ад іх.

Рыба глядзіць на пісьменьніцу праз мінэралкавае віно і спрабуе забіць зрокам.

Літаратурная зорка Чэхіі раптам зьнікае зь небасхілу бара і рыбнай сьвядомасьці і зьнічкаю трапляе ў кілішак сьлівовіцы, і толькі струменьчык дыму нагадвае пра яе былое існаваньне.

Бахарэвіч выпівае сьлівовіцу.

9.

Прага — горад будынкаў і татальнасьці архітэктуры, горад самоты, якая хаваецца ў кутах, самоты, якая зьдзекліва паказвае на цябе пальцам і сьмяецца, сьмяецца, сьмяецца.

І асабліва самотнасьць адчуваецца, калі ты выяўляеш сябе рыбаю сярод рыбакоў...

Сярод усяго гэтага архітэктурнага і гістарычнага багацьця рыба губляецца. Ад гэтай разгубленасьці яна пачувае сябе нікому не патрэбнаю, і ў дадзеным выпадку, калі яна не трымаецца асяродзьдзя, калі яна не далучаецца да грамадзкасьці альбо да суполак рыбакоў ці рыб, альбо да суполак вычварэнцаў, да суполак помнікаў і прывідаў, яна мэханічна, непрыкметна ад усіх накіроўваецца да моста самагубцаў, папулярнага месца — чарговай гістарычнай каштоўнасьці, але якой(!) — самагубскай.

"З усяго на сьвеце магчыма рабіць каштоўнасьці", — разважала рыба; адчай варушыўся недзе пад ніжнімі рэбрамі, вымалёўваючы на скуры абрыс нарцысу...

10.

Рыба сплыла, вярнулася туды, адкуль пачынала падарожжа, і недзе ў рацэ Сьвіслач бляскам лускі нагадала аб сваім існаваньні. Вяртаньне было ў выніку балючым і самотным, з пэўным пачуцьцём свайго лёсу, з пэўнай даросласьцю, з пэўным асэнсаваньнем жыцьця.

Рыбу сустрэла цішыня.

08.08. — 15.08.2010
Прага — Менск

# БЫТАВОЕ АБСЛУГОЎВАНЬНЕ

Гераня працаваў кім заўгодна і быў кім заўгодна, толькі не сабою, ня тым, кім насамрэч хацеў. З аднаго боку, на што яму скардзіцца: кожны чалавек можа ўспомніць, як за сваё жыцьцё рабіў працу, якая яму цалкам ня толькі не падабалася, але была чужой. Ён сам ведаў адну доктарку біялягічных навук, якая стрыгла валасы й кожны дзень ненавідзела сябе за гэта, ненавідзела жыцьцё, бо лічыла, што гэта прыніжае яе, але што паробіш, калі стрыгчы валасы больш карысна, чым пісаць навуковыя працы. Гераня таксама падаўся ў тыя мясьціны, дзе цанілася бытавое абслугоўваньне, але ён заўсёды імкнуўся працаваць толькі ў самых вядомых і дарагіх месцах, дый, з аднаго боку, яму гэта падабалася, бо ён знаходзіўся нібы ў нейкім іншым, замежным горадзе, а ня ў Менску... Нібыта час там быў іншы, людзі — іншымі, дызайн памяшканьняў, нават жыцьцё й палітычны ўклад падаваліся іншымі; такія мясьціны часта апыналіся ізаляванымі ад агульнай постсавецкай прасторы горада, у гэтых звышдарагіх салёнах панавала свая атмасфэра.

Ён працаваў зь людзьмі, якія займаліся бізнэсам, і з замежнікамі, яму не даводзілася сутыкацца зь неадукаванасьцю, бескультур’ем, але часам трапляліся й такія пэрсоны, як, напрыклад, расейскі палкоўнік, які паводзіў сябе, як быдла, роў і лез біцца, пакуль гатэльны ахоўнік яго не скруціў і ня вывеў вонкі... Часта Гераня сутыкаўся з дарагімі прастытуткамі, якія раскашэльвалі сваіх "папачак", разводзілі іх на комплекс працэдур. Збольшага яны паводзілі сябе проста нахабна, але некаторыя дзяліліся сваімі сакрэтамі: адна бляндынка, якая звычайна завітвала два разы на тыдзень і распавядала пра новыя сыліконавыя грудзі сваёй сяброўкі, паказваючы фоткі на сваім "айфоне", таксама любіла круціцца перад люстэркам, пытаючыся, ці файны ў яе новы сыліконавы азадак... але яна раптам перастала прыходзіць, і ад адной з кліентак Гераня даведаўся, што калі яна выкачвала сылікон з азадка ў Маскве, ёй занесьлі гепатыт.

Некаторыя мужчыны проста хутка стрыгліся, напаўняючы пакой гарлачыкавым пахам духоў "Гермэс", і пакідалі неймаверна вялікія грошы на чай. Ад гэтага Гераню звычайна было прыемна, але адначасова ён адчуваў сябе няёмка, атрымліваючы вялікія грошы ды ня ведаючы, як сябе паводзіць далей, бо калі трымаеш у руцэ столькі эўра альбо баксаў, можа трэба штосьці яшчэ зрабіць гэтаму кліенту, акрамя фрызуры, пахваліць яго вопратку, запытацца пра стан здароўя, пажадаць добрага дня... Беднасьць робіць людзей падхалімамі перад багатымі... Гераня губляўся, пакуль не мінула колькі часу й ён ня звыкся і, ня страціўшы сумленнасьці, пачаў класьці на такіх людзей адразу пасьля таго, як атрымліваў на чай.

Некаторыя з нахабнікаў наўпрост пыталіся пра ягоную полавую арыентацыю, бо, як і большасьць, лічылі, што ўсе, хто стрыжэ валасы, — підары. Гэта было ня так, частка сапраўдных геяў, якія працавалі ў сфэры, выглядалі мужна й прыстойна. Гераня заўважыў, што большасьць дагледжаных і жанчынападобных натуралаў ішлі працаваць стылістамі-цырульнікамі й часта ў атачэньні жаночага пэрсаналу пачыналі паводзіць сябе, як бабы, і менавіта яны вінаватыя ў тым, што людзі ў Беларусі мяркуюць, нібыта ў дадзенай прафэсіі працуюць спрэс геі. У Герані часта пыталіся пра арыентацыю, але калі ён пасталеў і ў яго зьявілася барада й жывот, яго пакінулі ў спакоі.

Гераня шмат піў, раскладаўся на кавалкі, пісаў у падсобных кабінэтах свае першыя апавяданьні, ненавідзеў кліентаў, не трываў сваіх вучняў і асыстэнтаў, якія былі поўнымі боўдзіламі, але паступова расьлі й мяняліся, рабіліся прафэсіяналамі... Гераня саромеўся сваёй працы, нават такой высокай і рэдкай — ангельская франшыза, вучоба ў Лёндане, асыстэнты робяць пяцьдзясят адсоткаў за цябе, прыбіраюць за табою, і ты лічышся адным зь нямногіх

стылістаў у Беларусі, якія ўвогуле маюць высокую адукацыю ў гэтай галіне... Гераня саромеўся, бо звыкся з думкай большасьці: ён усяго толькі "парыкмахер". Было цяжка, крыўдна, паразьліва, але грошы, грэбаныя паперкі, вырашалі, як і дзе зарабляць.

Бытавое абслугоўваньне існуе поруч з такою рэччу, як санітарны агляд. Раз на паўгода Гераня завітвае да лекараў у спэцлякарню... Вядома, ёсьць магчымасьць іх не наведваць і набываць гатовы дакумэнт, але Гераня стаў надта клапаціцца пра сваё здароўе пасьля таго, як сэрца, печань й ныркі пачалі пра сябе паведамляць, тым больш, працуючы зь людзьмі, заўсёды трэба асьцерагацца скурных хваробаў.

Санітарны агляд — самая ненавісная й пакутлівая рэч: дэрматоляг, тэрапэўт, стаматоляг, забор крыві, калу, мачы, флюараграфія, прышчэпкі... Але ёсьць толькі два габінэты, якія валадараць над гэтым дэрматалягічным сьветам.

У першым габінэце працуе вельмі старая доктарка, яна бярэ мазкі... Рукі звычайна ў яе калоцяцца так, быццам яна моцна зьмерзла: "Штаны й майткі апусьціце, падыміце яго ўверх, агаліце галоўку"... й адразу яна сваім пінцэтам угрызаецца на тры-пяць сантымэтраў углыб мачавога каналу... Робіць яна гэта звычайна доўга, пакутліва... Гераня потым суткі мочыцца з болем і крывёю... "Чаму?.. Чаму?! — пытае сябе Гераня. — У лякарні чатыры габінэты гэтых грэбаных дактароў, а мне лёсіць трапляць менавіта да старой напаўсьляпой жанчыны!? Чаму замест яе я не трапляю да прыгожай дзяўчыны зь мяккімі цёплымі рукамі, вялікімі грудзямі й доўгімі валасамі?"

У другім габінэце бяруць іншы мазок — там звычайна апынаешся перад высокай і вясёлай жанчынай з прыгожай фігурай у белым халаце, праз які прасьвечваецца чорны станік... Яна на цябе ласкава пазірае, усьміхаецца, потым праводзіць за штору й там: "Штаны й майткі долу", — о так, мая дарагая, на гэта з табою я гатовы! — "Цяпер павярніцеся да мяне сьпінаю, нахіліцеся, рукамі рассуньце ягадзіцы", — і ў дупу яна засоўвае палку з ваткаю... Сорам такі, што проста хочацца памерці на месцы... Пасьля такога ўжо не глядзіш ёй у вочы, хуценька нацягваеш свае штаны й зьбягаеш з габінэту. Ёй, напэўна, весела назіраць за мужчынамі, як яны, страціўшы мужнасьць, нібыта прусакі пад уключаным сьвятлом, разьбягаюцца ў розныя бакі...

Стаматоляг... звычайна сумная бабуля, як зубы каня, аглядае Геранеў рот, пальцамі трэ дзёсны, потым бярэ ў руку язык і пачынае варушыць яго ў розныя бакі, перакладаць зь месца на месца, скручваць яго, напэўна, так адчувалі сябе чорныя рабы, калі іх прадавалі белым гаспадарам.

Усё гэта было б весела, калі б не было так сумна й пакутліва... Санітарныя агляды цягнуцца па некалькі дзён, калі ня больш, улічваючы бюракратыю лякарняў, калі тры гадзіны сядзіш у чарзе да тэрапэўта, каб атрымаць толькі паперку, на якой з аднаго боку напісаная нейкая хуйня, а з іншага — накіраваньне на прышчэпку, а потым, каля габінэта, у якім робяць прышчэпкі, атрымаць адмову, бо там да абеду прымаюць толькі тых, хто здае кроў... Нават такія ўгаворы, што гэта ж ня цяжка ўзяць шпрыц і ўкалоць, не спрацоўваюць, тоўстыя мэдсёстры зь хімічнай завіўкай на кароткіх валасах лічаць сябе гаспадынямі й самі вырашаюць твой лёс... Гераня звычайна паўзе ў абед на флюараграфію, не пасьпеўшы ў сваёй паліклініцы анічога з самага ранку, трымаючы ў руках паперку ад тэрапэўта, перад дзьвярыма габінэта флюараграфіі ён націскае на ручку, габінэт зачынены, міма праходзіць чарговая "гаспадыня" ў белым халаце: чаго дзёргаеш ручку, бачыш, напісана, што па раскладзе трэба прыходзіць толькі заўтра раніцою й толькі да дзесяці...

— Ды пайшла ты на хуй! — крычыць ёй у тоўстую сьпіну Гераня...

Так, санітарны агляд — як Новы год, да яго рыхтуешься загадзя, ведаючы, што ўсё мусіць быць файна й па-новаму, але атрымліваецца як звычайна — сумная савецкая бюракратычная пізда, схаваная ў старым будынку з пафарбаванымі лайном сьценамі з абсыпанай месцамі

тынкоўкаю, парослаю імхом...

Аднойчы, калі Гераня амаль скончыў працоўны дзень, у гатэлі пасяліліся колькі старых швэдаў. Адзін зь іх, салодка пасьміхаючыся, завітаў да Герані, сеў у крэсла, пасьля таго як асыстэнты памылі яму галаву... Швэду было каля сямідзесяці, увесь, як разынка, зморшчаны, пакрыты скрозь плямкамі й барадаўкамі, валасоў на галаве амаль не было... Навошта прыйшоў? Праз хвіліну Гераня пачуў прапанову пасьля працы сустрэцца зь ім і ягоным сябрам, пагуляць па Менску, завітаць у бары, клюбы... Гераня адразу сьцяміў такі расклад і катэгарычна адмовіўся ад усяго... "Ды ладна табе, ты вельмі прыгожы малады чалавек, я — стары, я нават не жадаю з табою спаць, калі ты хочаш, можаш ты мяне. Альбо, калі што, я адсмакчу ў сваім нумары, разумееш, гэтая грэбаная старасьць, але я вельмі хачу хаця б проста адсмактаць... Вядома, было б нашмат круцей, калі б ты мяне... Гэтым займаліся нават старажытныя грэкі, так яны перадавалі сваім вучням філязофскі розум, ну й прастату масіравалі... Колькі ты хочаш? Дзьвесьце эўра, трыста, чатырыста, пяцьсот?" Швэд хуценька казаў, амаль шчабятаў, і намагаўся сваімі скручанымі рукамі схапіць Гераневы рукі, пазіраючы празь люстэрка мутнымі вачыма.

Гераня Латураў зьбялеў, потым пачырванеў, потым паклікаў асыстэнта й кінуў працаваць... Швэды ўвесь вечар дзяжурылі каля дзьвярэй салёна, але Гераня выклікаў ахову, і іх адвялі ў нумары...

Наступнай зімовай раніцай ён, галодны, зьмерзлы, прачнуўся ў сваёй здымнай кватэры. Ізноў трэба выпраўляцца на ненавісную працу... Грошай не было й дагэтуль няма! Яшчэ ўчора прапаноўвалі пяцьсот эўра, а што, заплюшчыў бы вочы й уявіў якуюсь са сваіх любімых порнаакторак, няхай стары швэд захлынуўся б ягонай спэрмай... Грошы, грошы, паўсюль грэбаныя грошы...

У адным з гатэляў, дзе ён працаваў, дырэктаркай была руская цыганка. Сквапная, за капейку душылася. Калі бачыла, што завітваў замежнік, адміністратару загадвала браць трайны прайс, гэта калі сама стрыжка каштавала нават па эўрапейскіх стандартах нямала — сорак даляраў, замежнік стрыгся за сто дваццаць. Подлая яна была, усім вакол казала пра шляхецкія азэрбайджанскія карані, але мы ведалі, што яна была простай цыганкай зь вёскі, яе брат незаконна прыклаўся да грошай і ўлады ў Менску. Яна звычайна была са сваёй сяброўкай, у якой былі вялікія грудзі й такія ж па памерах вочы... Аднойчы, калі ў дырэктаркі былі народзіны й яна, расчуліўшыся, адвезла ўсіх супрацоўнікаў у рэстарацыю за свой кошт, Гераня разам з калегам па працы, хлопцам-бісэксуалам, напаілі ейную сяброўку, адвезьлі ў клюб "Бабілён", і там у прыбіральні ракам адзін ззаду, другі сьпераду выебалі... Праз колькі дзён Гераня звольніўся з працы "па дамове бакоў"...

Якія працы толькі не зьмяняліся па жыцьці — бытавое абслугоўваньне, гатэлі, салёны, офісны плянктон у банку, выкладаньне... зьмяняліся каханкі, сябры... але адзінае, што было заўсёды з Геранем, — імпэт і мэты...

Раніца, верасень, аўторак, сонца сьвеціць ужо ня так, як летам, Гераня зьбіраецца на працу, чарговае "буржуйскае" месца, больш нікуды не бяруць, а цяпер, з гэтым крызісам у краіне, пра працу рэдактарам альбо капірайтарам застаецца толькі марыць... Але як вынік — новы гатэль, чакайце, даляравыя сыліконавыя прасталыткі, хворыя бізнэсоўцы, шызафрэнікі, мільянэры й ганарыстыя замежнікі... Гераня ўжо едзе, усяго нічога: пяць прыпынкаў на экспрэс-аўтобусе — і ён у сваім пекле, круціцца, усьміхаецца, працуе...

Новая дырэкцыя ўражвае — уладальнік гатэлю, дырэктар гатэлю і ягоная жонка, галоўны мэнэджар, дырэктар салёну, начны мэнэджар па гатэлі, а таксама асабісты мэнэджар і... усе яны туркі, акрамя апошняга мэнэджара, яна — армянка... Як вам? Ужо ад пачатку тут нейкі зьдзек: дырэктарка — турчанка, былая мадэль з сыліконавымі вуснамі, ілбом з ботэксам, сыліконавымі

грудзямі й рэшткамі былых чорных валасоў, цяпер яны штучныя нарошчаныя, з канікалёну, а таксама нарошчаныя штучныя пазногці з акрылу, замест броваў татуаж, штучныя вейкі... Ад сапраўднага чалавека амаль нічога. Дырэктарка-турчанка — невыносная сука й шлёндра, яна сваю падначаленую, прывабную маладую армянку, гвалціць кожную хвіліну, ганьбіць яе, кляне й мацюкае... а Турцыя, дарэчы, да гэтага часу не прызнае генацыд армян на пачатку XX стагодзьдзя. Армянка доўга не пратрымалася, яе замянілі на выдатную беларуску, але той жа настрой застаўся: турчанка паводзіла сябе, як сука, незалежна ад нацыянальнасьці падначаленага; напэўна, у туркаў так прынята рабіць "бізнэс", празь зьдзек і сваркі...

Туркі... Па сутнасьці яны мне вельмі падабаюцца, асабліва ў Нямеччыне, Брытаніі... Там яны займаюць пачэсныя месцы сярэдняй клясы людзей, трымаюць свае кебабы, шчыра ўсьміхаюцца, размаўляюць, вучаць на зубок вашую біяграфію, каб наступным разам, калі вы вернецеся за дзёнэр-кебабам, шакаваць вас падрабязнасьцямі вашых жыцьцёвых варункаў, пра якія вы апошнім разам гутарылі. Туркі ў тых мясьцінах ніколі вас не пакрыўдзяць, не абразяць... у адрозьненьне ад туркаў у Беларусі. Тут яны займаюцца прастытуцыяй і бізнэсам, з усяго робяць грошы. Тут туркі паводзяць сябе як гаспадары, цалкам зьневажаючы карэннае насельніцтва, прымушаючы беларусаў на іх працаваць... Толькі ў Менску яны здольныя хадзіць па вуліцах і бессаромна чапляцца да беларускіх дзяўчат і толькі тут у іх атрымліваецца за пяць хвілін пазнаёміцца зь дзьвюма-трыма жанчынамі, запрасіць іх у рэстарацыю, а потым у гатэль... З нашымі заробкамі туркі тут, як паны, дзяўчыны й жанчыны лёгка дазваляюць ім усё, што забаронена беларускім мужчынам. Толькі тут туркі вядуць сябе, як сабакі, і раскідваюць грошы ў розныя бакі... толькі тут яны патрабуюць працаваць на вас трынаццаць гадзінаў на дзень, пяць дзён на тыдзень, атрымліваецца 65-гадзінны тыдзень — перапрацоўка на дваццаць пяць гадзін, а плацяць вам стаўку, памер якой залежыць ад настрою галоўнага мэнэджара, а не ад пагадзіннага налічэньня. Вось ён, новы сьвет, у які мусіць акунуцца Гераня, але што паробіш, усё роўна нідзе так не заробіш, як у бытавым абслугоўваньні высокага ўзроўню, у салёнах-люкс, франшызах, студыях... Таму кліентамі тут апынаюцца замежнікі, бізнэсоўцы й іхныя прывабныя жонкі, дарагія шлёндры й дурныя дзяўчаты з "папікамі"...

Гэта неверагоднае адчужэньне, гэта атручвае душу й сэрца, гэтая праца прыніжае й ганьбіць, але адначасова надае моцы й творчага патэнцыялу... бо калі ты здольны быць адным з найлепшых нават тут, гэта пра штосьці кажа.

Кастрычнік 2011
Менск

# НЯСПЫННАЕ МАЎЛЕНЬНЕ

1.

Бабуля Ніна сядзела за сталом на кухні, на супрацьлеглай сьценцы вісеў уключаны тэлевізар, па якім ішлі навіны, якія ніхто не глядзеў.

— Я нарадзілася пасьля вайны ў сялібе, малая бегала па гародах і палях, толькі пасьпявала кідацца долу, балюча ўдараючыся жыватом, бо, як першы запавет, памятала: калі чуеш, як гудуць самалёты, хутка падай долу, хавайся ў траве... людзі жахаліся ўсяго, нават "кукурузьнікаў", якія апрацоўвалі палі... у нас як было: спачатку жыло шмат яўрэяў, добра было, суседнічалі... але іх зьнішчылі разам зь беларусамі амаль цалкам (бабуля Ніна сядзела на ганку, жвавая, рэзкая, добрая, яна праз усё жыцьцё прайшла такой — мужнай, рашучай, упартай, часта нэрвавалася, часта хутка выходзіла зь сябе; я раней на яе шмат за што крыўдаваў, але ўсе тыя рысы характару, якія належалі ёй, тыя самыя — нэрвовасьць, упартасьць, — належаць таксама й мне)... а сяліба нашая вялікая была, з садам, які распасьціраўся на шмат мэтраў, калі не кілямэтраў, вішні расьлі, яблыні, грушы, сьлівы, чарэшні, алыча... але прыехалі калгасныя машыны, і ў самую пару, калі ўсё на дрэвах сасьпявала, выкарчавалі, зьнішчылі дашчэнту... мама мая так горка плакала, пакутавала, так камуністы адабралі нашую зямлю й параздавалі ўсім, так сяліба стала вёскай... коней у нас шмат было, кароў, коз, таксама ўсё паадбіралі, нас выселілі, цяпер вось тут, дзе гэная хата — новае жыльлё апынулася, у той хаце і згарэў твой прадзед, але мы яе зноў адбудавалі... а потым што... шмат хто імкнуўся да заробку, вось і мяне маладую закінула ў Казахстан, "цаліну падымала", арала, была трактарысткаю, напэўна там бы й засталася, але з грашыма й там цяжка было, дадому карцела, зьбегла я, карацей, нейкім шчасьлівым чынам дадому патрапіла, а потым першы муж, твой дзед, сварыліся мы зь ім шмат, але добры ён быў, разьвяліся, ён памёр маладым... была першаю ў БССР жанчынай-кранаўшчыцаю (яна ўвогуле вылучалася з усіх жанчын, асабліва ў маладосьці, нейкім неверагодным спрытам і часта апыналася здольнаю на большыя справы й "подзьвігі", чым мужчыны)... потым гарбарны завод (о, тыя пахі, заўсёды ў кватэры зьяўляліся нейкія шкуркі — заяц, ласка, бабёр, пахі чагосьці высахлага, застарэлага, зьмяшанага з крывёю альбо вэнджаным мясам... шкуры гэтыя дома былі паўсюль, а ўзімку ператвараліся ў модныя футры... яна тады ў Менску з намі жыла, а потым ізноў вярнулася ў Студзёнкі), а памятаеш, як я раней вершы пісала (памятаю гэтыя вершы — буслы, гаі, дубравы, паляны, грыбы... але яе друкавалі, я часта, калі быў малы, сьмяяўся з гэтае нагоды, так бы мовіць, я ня надта паважаў тыя вершы), а цяпер вось ты пішаш (заўсёды бянтэжыла мяне гэтае параўнаньне, але з маіх продкаў ня толькі яна рабіла ўдала-няўдалыя спробы пісаць, дзед мой па тату пісаў, шмат пісаў, але скончыў жыцьцё самагубствам, маладым яшчэ — трыццаць шэсьць год... з усёй сям’ — усе спрэс чарнавалосыя, са смуглаю скураю, але падобны менавіта да яго — я, і яшчэ да мамінага бацькі — блакітнавокі, сьветлавалосы, зь белаю скураю, якая ад ціску часта чырванее, а ўсе кажуць — кроў з малаком, лухта, проста ціск скокае...)... а потым зьявіўся другі муж, і я нарадзіла тваіх дзядзьку і цётку... але ўсё ня тое было, не знаходзіла сабе месца, папрацавала я яшчэ на мэтэастанцыі й зьехала зь Менску ў Студзёнкі, і добра пачуваюся, побач цукровы завод, нават аддзел маркетынгу адчынілі, Колька мой (трэці муж) вунь працуе, але халера яго зь ягоным пітвом, сабака (ён цыган, маці ягоная, ёй дзесьці пад дзевяноста год, да гэтага часу жыве ў Сібіры, бацька ягоны памёр, калі ён быў падлеткам, замёрз на паляваньні, ён сам яго, нябожчыка, адшукаў і колькі кілямэтраў на санках празь сьнежную сібірскую прастору вёз дадому... бабуля зь дзедам Колем неяк дзіўна адшукалі адно аднога, ажаніліся, калі ім ужо было амаль па шэсьцьдзесят год, ён

бадзяўся па сьвеце, піў, але цяпер у Студзёнках усе яго баяцца — цыган, у яго нібыта ў хляве кулямёт схаваны... верацць сяляне)... ой, ды што распавядаць тут пра маё жыцьцё... ня хачу я, і не пішы пра мяне нічога, я саромеюся (усё, калі яна пачынае так казаць, значыць, нічога больш я не пачую, але нам і гэтага дастаткова... ці не?).

2.

Бабуля Ларыса сядзела ў хаце, старая, але выдатна чула, бачыла без акуляраў, моцная такая, сядзела й глядзела ў акно, за якім была пасаджаная бульба:

— Вось жукі ўсю бульбу зьнішчылі, аніякага спасу ад іх (насамрэч бульба ўжо квітнела й была вышэй за калені)... Смаргонь жа наша чатыры гады лініяй фронту была, на захадзе Смаргоняў немцы стаялі, дзоты з цэглы пабудавалі, да сёньня яшчэ ў полі стаяць, а на ўсходзе горада — рускія... так яны й бамбілі адно аднога, руйнуючы хаты, адзін толькі кляштар захаваўся, і ўсё, а нашу царкву пасьля вайны адбудавалі, але потым зруйнавалі, бо жыхары адмаўляліся ад папа, дык той поп сам сышоў, і на месцы царквы пошта зьявілася, гэта толькі нядаўна новую, вялікую, прыгожую адбудавалі, у парку, недалёка ад помніка Багушэвічу... от жа, да Другой сусьветнай нас жыло тут ажно за трыццаць тысяч, пасьля — некалькі соцень (яна змоўкла, падняла руку, пацёрла вочы, каб ня плакаць, падзьмухала на зялёную гарбату й працягнула)... а я ж усю вайну дзіцем прайшла, ні ў якіх клясах не сядзела, дзядзька толькі мой зьбіраў нас, дзяцей, у хаце й вучыў матэматыцы й пісьму... так і вучыліся... а памятаю, заходжу ў хлеў, а там у саломе немец сядзіць, высокі, малады, прыгожы... моўчкі працягвае мне біклагу, маўляў, вады прынясі... я й пабегла да салдат... яны немца таго катавалі, аказалася, ён дэсантнік, выдаў ім усе стратэгічныя разьмяшчэньні, а яго пасьля вывелі на плошчу й расстралялі... журналісты шмат чаго з маіх слоў пісалі ў мясцовыя газэты, але ніколі пра немца гэтага й ніколі пра тое, як прыйшлі да нас рускія салдаты, каня забралі, забілі і зьелі... рабавалі яны нас... немец, калі захапіў нашу тэрыторыю, дык зь ім было не нашмат лягчэй, выдаваў ежу па талёнах, мы за колькі месяцаў мо’ толькі двойчы атрымалі ад яго штосьці (яна зрабіла паўзу, зьела кавалак тварожнага торту, які мы захапілі зь Менску)... ось цяпер жа ў нас усё ёсьць, раней у Менск, Гародню езьдзілі, цяпер да нас можна езьдзіць, усё ёсьць... і няхай там ён па тэлевізары лухту ўсялякую вярзе, памрэ ён — мы застанемся... перажылі жахі вайны, голад, сьмерць, дык яго й падаўна перажывем!.. маці мая падчас бамбаваньня ў сьпіну была параненая аскепкамі, колькі месяцаў праляжала ў ложку, ледзь не памёрла, тады каля нас немцы былі, дык прыбеглі на дапамогу, адзін зь іх бацьку майму паказвае на пярсьцёнак, маўляў, таксама жанаты, працягвае ёд і бінт... а нам цяпер што, вось раней вусьцішна было, ні ежы, ні жыцьця, камуністы нас катавалі, вы цяпер, новае пакаленьне, абрусеўшае, патаўсьцеўшае, цалкам нават не напружваецеся, для вас там дэмакратыя істотная, а мы тады нават такіх словаў ня ведалі, адно марылі, як жыць, каб не хацелася штохвіліны есьці, але мы не пасіўныя там нейкія, памятаю, далёка было людзям да чыгункі хадзіць, немцы тады палонныя дзьве каляі нам збудавалі, а раней толькі адны рэйкі былі, марудна цягнікі хадзілі, кожную хвіліну спыняліся, прапускалі адно аднаго, дык пасьля цягнікі часьцей і хутчэй рухацца пачалі, але нам было вельмі доўга й марудна хадзіць на галоўную чыгунку, таму мы на ўскрайку Смаргоняў цягнікі самі спынялі, каб сесьці зручней і бліжэй, дык потым раённая ўлада зрабіла нам прыпынак "Маладзёжны"... вось як... мы здольныя цягнікі спыняць на хадзе... нам абы пасьля вайны каб жылося сыта, нам не да палітыкі, няхай яна гарыць... зямля ёсьць, куры ёсьць, кароўка... астатняе мянялася шмат разоў, палякі, немцы, рускія, усё адно, ёсьць мы, беларусы... проста цяжка нам, з усіх бакоў хтосьці намагаецца схапіць сабе кавалак нашай зямлі (яна паглядзела пранізьліва так у мае вочы, быццам пыталася альбо прасіла, каб усё, што яна распавядае, ня зьнікла проста так)... а ў

сорак чацьвертым хата наша каля чыгункі стаяла, дык зь цягніка нейкага хтосьці стрэліў, куля патрапіла ў саламяную страху, і мы ледзь пасьпелі ноччу выбегчы, усё згарэла, дашчэнту (заплакала), цэлы год у куце сваякоў усёй вялікай сям’ёй пражылі, халодныя, галодныя, амаль бяз вопраткі... але бачыш, выкараскаліся, пасьля вайны я скончыла вячэрнюю школу й патрапіла ў Ашмянскае педвучылішча, праз год яго зачынілі, і мяне перавялі ў менскае, потым праз год у барысаўскае, і нарэшце скончыла я вучобу ў Магілёве... потым працавала піянэр-важатай з колькі год, але потым пад Смаргонямі настаўніцай і потым яшчэ ў дзіцячым інтэрнаце, потым завучам... і так да пэнсіі... добра мы жылі, стараліся, дзеці расьлі, працавалі, цяпер вунь самі якія, дарослыя, заможныя, амаль шляхцічы (яна спынілася, паглядзела на халодную гарбату, адпіла крыху, пасьміхнулася так пяшчотна, добра, але ў вачах яшчэ стаялі сьлёзы... а В., якая сядзела побач, скончыла рабіць замалёўку бабулі).

Чэрвень — Ліпень 2011
Смаргонь — Студзёнкі

# КАЛІ ЎСЕ ДЗЬВЕРЫ ПЕРАД ТАБОЮ ЛЁГКА АДЧЫНЯЮЦЦА

*Майму Сабаку*

У дамафон пазванілі, я на ватовых нагах пайшоў адчыняць, з кухні выбегла Лайма й пачала нястомна, бадзёра й адчайна гаўкаць (менавіта так, бо яна ніколі за сваё жыцьцё не брахала, толькі гаўкала)... Я націснуў на выяву ключыка на слухаўцы, і дамафон запішчаў. Праз колькі сэкундаў у адчыненых уваходных дзьвярах зьявіўся высокі мужчына, тоўсты, мажны, крыху азызлы, гадоў пад сорак, у белай ільняной кашулі й чорных ільняных штанах. У правай руцэ ён трымаў шмат’ярусны саквяж аранжавага колеру з налепкай чырвонага крыжа па баках... Ён моўчкі павітаўся й сумна зірнуў на Лайму, якая, крыху затыхаючыся, яшчэ працягвала лянотна гаўкаць.

Мужчына апусьціўся на калені й пачаў гладзіць сабаку, мацаючы тут і там вялікія мэтастазныя пухліны, на якіх адсутнічала поўсьць. Цяжка сказаць, колькі важыла сама Лайма, нібыта кіляграм, а калі з пухлінамі — два.

Мужчына гладзіў яе, песьціў, было бачна, ён гэтым ня проста зарабляе, але... перад якім тут выбарам апынаешся — усыпіць сабаку, каб яна больш не пакутавала, альбо працягнуць ейныя пакуты яшчэ на колькі дзён...

Лайма нібыта наўмысна ў гэты дзень нават паела й ачуняла — бегала й гаўкала ўсяго толькі пад адным ранішнім уколам абязбольнага... Яна быццам аспрэчвала сваю шматгадовую хваробу, быццам гэта не ў яе з прамой кішкі ўсю ноч ішла кроў...

— Бедная, бедная Лайма, даруй мне, калі ласка, даруй, — мужчына гладзіў яе й паўтараў адны і тыя ж словы, а Лайма лашчылася да яго, прыціскалася жыватом да лінолеума...

Нельга было марудзіць, мама й жонка ўжо плакалі, я сам ледзь стрымліваўся... Мужчына падняўся з кален, зьняў абутак і накіраваўся на кухню, а Лайма пабегла побач зь ім, варушачы хвастом, нібы тактамэтрам...

Лайма. Яна зьявілася ў нас сямнаццаць год таму, калі мне было дзевяць... Мама прынесла з працы маленечкі камячок поўсьці, памерам з мышанё... Малое дрыжэла й скуголіла, было яму нібыта некалькі тыдняў... Мы потым даведаліся, што Лайма — керн тэр’ер, самай першай пароды тэр’ераў, якую вывелі ў Шатляндыі на пачатку мінулага стагодзьдзя. Чорная ўся, зь белымі грудзьмі і трыма белымі плямкамі на лапках каля кіпцюроў... Мы ўсе пачалі гадаваць яе, кожны па-свойму, але яна, калі падрасла, абрала гаспадара — нашую маці, бо, вядома, яна яе карміла, выгульвала часьцей, і нават ня проста часьцей, а звычайна.

Лайміна поўсьць расла вельмі хутка, таму я любіў рабіць зь яе розныя дзіўныя фрызуры: летам Лайма хадзіла з чырвоным іракезам на галаве, восеньню была сьціпла пафарбаваная ў "каштанавы" й з падстрыжанай пыскай. Мы ўсе яе вельмі любілі, а яна любіла на лецішчы паляваць на кратоў і мышэй, зьбірала іх у радок, а потым закопвала. На Нарачы яна асабліва вялікае задавальненьне атрымлівала ад вэнджанага вугра, яе расплюшчвала, расьцягвала па зямлі ад ягонага смаку, а потым палову вечара яна была нібыта ўся на ўздыме... Вар’ятка...

Мы расьлі, сталелі, сабака старэла. Калі ёй споўнілася дзесяць, вэтэрынар паставіў дыягназ: эпілепсія — максымум два месяцы... Я набыў ёй спэцыяльныя капсулы зь вітамінамі B6 і B12... Кожны дзень яна праходзіла ў мяне голкавую тэрапію — два кубы вітамінаў у азадак... Яна выкараскалася, толькі прыступы засталіся. Радзей, вядома, але засталіся — яе пачынала ўсю

круціць, яна скуголіла, сьліна цякла няспынна, паралюшы з кожным разам даваліся ўсё цяжэй... Спаралюшаная Лайма — відовішча вельмі цяжкае, жудаснае. Мы тады па чарзе сядзелі побач зь ёю, гладзілі, давалі пігулкі, распушчаныя ў вадзе, чакалі, трымаючы за лапы, пакуль пройдзе прыступ...

Але ішлі гады, а Лайма быццам усё аспрэчвала свой сабачы век... Ейныя пятнаццаць год ніякім чынам не адбіваліся на спрыце й жыцьцялюбстве. Доктар выявіў шматлікія пухліны, але ня шкодныя для здароўя, і ўжо другі раз прапанаваў супакаяльны ўкол. Мы адмовіліся: сабака мусіць памерці сваёй сьмерцю... Мы ня маем права адбіраць у яе жыцьцё... Пухліны расьлі, множыліся, але Лайма паводзіла сябе файна й трывала. Хтосьці казаў, што такім чынам яна брала ад маёй хворай маці рак на сябе. Хто ведае. Хто ведае...

Неяк Лайма выбегла ўвечары на вуліцу, дзе каля пад’езда яе напаткала аўчарка, і, як вынік, — 42 швы на шыі. Калі мы беглі зь ёю дадому, яна ляжала на маіх руках, не варушылася, галава вісела на нейкай танюткай нітцы, як потым высьветлілася, — адзінай ацалелай цягліцы... 42 швы на шыі дыямэтрам зь пяць сантымэтраў! Яна доўга ачуньвала, месяц, два... Вялікія шнары цалкам не зажылі, але пакрыліся пухлінамі, якія час ад часу лопаліся. Але Лайма нічога нібыта не заўважала, яна гаўкала, бегала па двары, махала хвастом, езьдзіла на лецішча... Яна трывала ўсё. Але, калі я вярнуўся зь Лёндану, мы зь ёй пачалі сварыцца з-за любых дробязяў. Яна мне помсьціла... Сікала то на канапу, то на дыван. Я яе ганяў за гэта, але надалей, па маім вяртаньні з Ваймара, нашыя адносіны цалкам сапсаваліся: яна гаўкала й рыкала на мяне, нават калі я проста быў дома, нават калі не заходзіў і не выходзіў з кватэры. Яе адолеў сабачы маразм, яна пазнавала толькі маці, часта прачыналася ноччу й гаўкала, скуголіла... Прыступы паралюшу сталі больш частымі... Пухліны расьлі, асабліва тая, што была ззаду...

Калі я быў яшчэ падшыванцам, я часта ўсіх нэрваваў сваім клярнэтам: граў на ім зададзеныя настаўнікам п’ескі. І адзінай жывой істотай, якая з задавальненьнем успрымала мае музычныя пакуты, была Лайма. Яна хуценька забягала ў пакой і пачынала выць, задраўшы голаў да столі: выла, скуголіла й нават час ад часу трапляла ў ноты, але такт заўсёды трымала спраўна...

Калі Лайма была зусім яшчэ шчанюком, нас з братам адвезьлі на ўсё лета да бабулі ў вёску, дзе было невялічкае штучнае возера, адкапанае яшчэ пры нейкім безыменным сакратары ЦК КПСС БССР. Была на возеры выспа, да якой вёў мост без парэнчаў. З гэтага маста ўсе любілі скакаць. Мы з братам вырашылі, што будзе надта файна, калі мы навучым сабаку плаваць... Лайма й паляцела з гэтага маста адразу ў ваду. Доўга яе не было бачна, але потым зьявілася галава, тоненькія лапкі, і яна, ледзь дыхаючы, паплыла да берага. Адтуль яна, абтросшы ваду, зьбегла... Цэлы дзень яе шукалі, клікалі, але безвынікова. Толькі пад вечар яе знайшлі ў гушчары недалёка ад калгаснай сталоўкі, яна глядзела на нас з папрокам і скаргай... Мы яшчэ доўга выбачаліся перад ёю, але нам гэта даравалася праз маленькі ўзрост (шэсьць і дзевяць год): мы сапраўды лічылі, што менавіта такім чынам трэба вучыць сабак плаваць, але што намі кіравала, калі мы ўжо даволі дарослымі ёлупнямі накурвалі яе травою, зацягваючыся й выдзімаючы ёй дым у пысу, пасьля чаго яна нават ня здольная была скокнуць на канапу, ляжала на падлозе й нібыта размаўляла...

Дваццаць дзявятага чэрвеня. Ёй — сямнаццаць год. Яна ўжо тры дні як шалёна пакутавала, абязбольвальныя не дапамагалі... Да яе прыехаў вэтэрынар, яна яго пазнала, але зьдзівілася, чаму гэта доктар прыехаў упершыню да яе ў кватэру, замест таго каб мы яе на машыне адвезьлі...

Спачатку яна заснула, потым доктар доўга шукаў вену, яны былі як нітачкі... Вена была знойдзеная, і дваццаць кубоў вадкасьці, якая несла ў сабе сьмерць, пацяклі па венах... Лайму пачало моцна круціць, нібыта ў прыступе паралюшу, я трымаў яе лапы, цела, голаў... Яе вочы больш нічога не казалі, я паклаў далонь на яе грудную клетку, адчуў, як сутарга сьціскае

лёгкія... Адчуў, як праз колькі сэкундаў спынілася сэрца, і яна ўжо ня дыхала, толькі рэфлексы цягліц яшчэ спрацоўвалі...

— Прабач, Лайма, прабач, — прамовіў я, — пакуль, дарагая сабачка, мы з табою пражылі шмат гадоў, нават зашмат для сабакі... Я вельмі спадзяюся, што ты цяпер у тым самым Парадысе, дзе табе ня трэба больш гаўкаць, калі цябе выпадкова зачыняюць у пакоі... што там перад табою ўсе дзьверы лёгка адчыняюцца і ты ня вымушаная чакаць, калі хтосьці зь людзей гэта зробіць для цябе... і паўсюль талеркі з каўбасой "Па-гродзенску", нарэзанай кубікамі, як ты любіш, талеркі з крабавымі палачкамі й вэнджаным вугром... і там табе ня трэба трываць і чакаць, пакуль твой гаспадар прыйдзе й выгуляе альбо пакорміць цябе... ты цяпер у тым самым месцы, дзе няма прыступаў паралюшу, пухлін, вялікіх сабак і дажджоў, якіх ты вельмі не любіла... там толькі адчыненыя наросхрыст дзьверы.

15 — 17.08.2011

Сяліба на Нёмане